Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№40 (4635) 7 кастрычніка 2011 г.

## У нумары:



# Легенда ў растворы часу

Марына ВЕСЯЛУХА

**Сямейная легенда сведчыць пра тое, што ён сутыкнуўся з фатаграфіяй выпадкова, у 1905 годзе, калі жонка атрымала ў якасці падарунка просты фотаапарат. Дапамагаючы ёй рабіць здымкі, захапіўся працэсам і сам… Але існуе яшчэ адна версія, паводле якой знакавая сустрэча з сур’ёзнай фатаграфіяй адбылася пазней, калі ён наведваў свайго стрыечнага брата Караля Карповіча, які скончыў фізіка-матэматычны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта, быў аўтарам публікацый, прысвечаных прыродзе Навагрудчыны, а таксама выдатных здымкаў, што ўпрыгожвалі артыкулы. Як бы там ні было насамрэч, важна, што гэтая знакавая “сустрэча” адбылася і нарадзілася іншая “легенда трох краін” — Беларусі, Літвы і Польшчы — вядомы фотамастак і літаратар Ян Булгак.**

Фраза “на фотаздымках Яна Булгака” ўжо стала сакральнай для мастацтвазнаўцаў, фотамастакоў, краязнаўцаў, гісторыкаў. З гэтых здымкаў на нас, жыхароў ужо іншага часу, пазіраюць твары продкаў (Булгак у ліку любімых называў і жанр партрэта), глядзячы на іх, мы любуемся краявідамі роднай мастаку Навагрудчыны, іншых куткоў “трох краін”. Дзякуючы гэтым сведчанням часу можам сузіраць і помнікі архітэктуры, што не захаваліся.

Ян Брунон Булгак нарадзіўся 6 кастрычніка 1876 года ў Асташыне Навагрудскага павета (цяпер Карэліцкі раён), у шляхецкай сям’і. Калі хлопчыку было 11 год, ён распачаў вучобу ў І Віленскай гімназіі — школе класічнага профілю. Затым вывучаў літаратуру і гісторыю на факультэце філасофіі Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве. Але праз некаторы час з-за фінансавых цяжкасцей быў вымушаны вярнуцца на радзіму, дзе пасяліўся ў маляўнічай сядзібе Пярэсека, што пад Мінскам. Тут ён і пачаў займацца творчымі эксперыментамі. Спачатку стварыў спецыяльны “цёмны пакой”, у якім у містычнай атмасферы, з усёй адданасцю самавука і энтузіяста-пачаткоўца выпрабоўваў розныя эфекты і тэхнікі. Праз некалькі год абсталяваў прафесійную лабараторыю і хутка дэбютаваў у якасці фатографа, здабыўшы галоўную ўзнагароду на конкурсе, аб’яўленым рэдакцыяй “Ілюстраванага жыцця” — штотыднёвага дадатка да “Літоўскага кур’ера”. Неўзабаве распачаў перапіску з Эмілем Ёахімам Канстантам Пуё, у той час адным з самых вядомых французскіх фатографаў.

Пераломным момантам у жыцці Я. Булгака можна лічыць сустрэчу са знакамітым мастаком Фердынандам Рушчыцам, што адбылася ў 1910 годзе ў Вільні. Менавіта Рушчыц пераканаў Булгака, што яму варта сур’ёзна заняцца мастацкай фатаграфіяй. Так “шляхетнае баўленне часу” ператварылася ў справу жыцця. Пазней здымкі, зробленыя да гэтага моманту (а іх налічвалася некалькі соцень!), склалі альбом “Літва ў фатаграфіях Яна Булгака”. Потым была вучоба ў Дрэздэне ў вядомага фатографа-партрэтыста Фуга Эрфурта, знаёмства з рознымі эстэтычнымі кірункамі ў развіцці фатаграфіі, па вяртанні — адкрыццё ўласнай фотамайстэрні ў Вільні, сямігадовая праца над сістэматычным дакументаваннем помнікаў даўніны Вільні і яе наваколля… У выніку — больш як дваццаць альбомаў, у якіх змяшчалася больш як тысяча фотаздымкаў, сотні негатываў з розных вандровак па тэрыторыі тагачаснай Польшчы. У 1939 годзе калекцыя фатаграфій з агульнай назвай “Польшча ў фатаграфічных вобразах Яна Булгака” налічвала каля дзесяці тысяч адбіткаў, аб’яднаных у 158 альбомаў. Можна сцвярджаць, што ў іх выявіліся ідэі, абвешчаныя ў праграме “айчыннай фатаграфіі”.



З сярэдзіны 1920-х гадоў Булгак актыўна пасылаў творы на айчынныя і міжнародныя выстаўкі мастацкай фатаграфіі. Імі захапляліся заўсёднікі найважнейшых парыжскіх і лонданскіх салонаў, яны атрымлівалі ўзнагароды і адзнакі выставак у Бруселі, Амстэрдаме, Сіэтле, Нью-Ёрку, Празе, іх друкавалі вядучыя ілюстраваныя выданні таго часу.

Але гэта адзін бок яго дзейнасці — мастацкі. Ёсць іншы — гістарычна-дакументальны. Гэта здымкі, што фіксуюць лёсавырашальныя падзеі ў жыцці краіны (да прыкладу, калі ён быў у складзе камісій падчас кансервацыі абраза Маці Божай Вастрабрамскай, выконваў дакументацыю аховы руін замкаў у Крэве, Каралеўскім Меднінкаі, Навагрудку і Тракаі, афармляў дакументацыю памятных аб’ектаў у Друі).

Пачатак вайны ў верасні 1939 года перарваў дзейнасць у галіне фатаграфіі. А ў 1944 годзе пажар падчас бітвы за вызваленне Вільні знішчыў увесь вынік мастацкай працы Булгака. Як пісаў ва ўспамінах сам майстар, “…згарэла шасціпакаёвая кватэра, а ў ёй мая фатаграфічная майстэрня, архіў, г. зн. негатывы і альбомы з 10 000 здымкаў “Польшча ў фатаграфічных карцінах”, вялікая бібліятэка, збор лістоў, выразак, рукапісаў літаратурных прац, дашчэнту згарэла ўсё, над чым я працаваў і што сабраў за сорак гадоў, ператварыўся ў попел увесь мой фатаграфічны і літаратурны здабытак”.

У ліпені 1945 года мастак пасяліўся ў Варшаве. Апошнія гады жыцця ён правёў, узнаўляючы карціны знішчэнняў, а таксама прыгажосць таго, што ацалела. На адкрытым аўтамабілі выпраўляўся ў шматлікія падарожжы, і на працягу шасці гадоў разам з сынам Янушам выканаў каля васьмі тысяч здымкаў. У 1946 годзе ўдзельнічаў у арганізацыі Саюза польскіх мастакоў-фатографікаў. Але далейшыя планы перарвала нечаканая смерць. Майстар памёр у Гіжыцку 4 лютага 1950 года. Як напісала ў адным з артыкулаў польская даследчыца Іаланта Кухарская, “пасля яго засталіся легенда, вучні і дасягненні ў мастацтве, крыху забытыя і адкрываемыя нанова на працягу некалькіх апошніх гадоў”.

І сапраўды, легенда засталася. Але не толькі легенда. Пра Булгака нам, яго землякам і ідэйным спадкаемцам, распавядуць здымкі, а таксама кніга яго ўспамінаў “Край дзіцячых гадоў” (Мінск, Беларусь, 2004). У ёй захоплены прыгажосцю краю аўтар распавядае пра ўклад жыцця на Навагрудчыне ў канцы XIX — пачатку XX ст., пра свае перажыванні і пачуцці да роднай зямлі. “*Няўмелымі словамі я тлумачыў падсвядомы ход сваіх думак, тое пастаяннае пачуццё, што нешта вакол мяне мінае беспаваротна, што нейкая высокая прыгажосць, нейкае бясцэннае дабро праходзіць міма нас незаўважаным, а яно такое простае, паўсядзённае і блізкае, што яго нельга разглядзець, як не відаць паветра, пакуль яно чыстае і нічым не ўзрушана. Я адчуваў, што трэба было б апісваць нашу старонку, наш край, каб усведамляць сябе і ўзгадваць нейкія неназваныя скарбы, схаваныя ў ім, якія немагчыма акрэсліць дакладней*”, — піша Булгак.

Гэтыя ўспаміны, а таксама вершы, што арганічна ўплятаюцца ў агульную канву расповеду, разам з раннімі замалёўкамі (да прыкладу, артыкулам-імпрэсіяй “Замак у Міры”, што быў апублікаваны ў 1910 годзе ў “Віленскім квартальніку”) прадстаўляюць Булгака як творцу неарамантычнай скіраванасці. Так, ён быў прадаўжальнікам традыцый Адама Міцкевіча, але працуючы ў пачатку XX ст., не мог цалкам пераймаць яго эстэтыку, таму выказваў агульныя для таго часу настроі тугі па страчаным мінулым з рамантычным пафасам, але па-свойму і па-новаму.

## Пункцірам

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку РСФСР Алу Дэмідаву і народную артыстку Расійскай Федэрацыі Ніну Усатаву з юбілеямі. У віншавальных лістах адзначаны прафесійнае майстэрства, бездакорны густ і вялікае асабістае абаянне Алы Сяргееўны, якія прынеслі ёй заслужанае прызнанне і любоў гледачоў, а таксама рознабаковая дзейнасць Ніны Мікалаеўны, вынікам якой становіцца духоўнае ўзбагачэнне людзей.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку БССР Ірыну Савельеву з юбілеем. "Дзякуючы непаўторнаму таленту і вялікай працаздольнасці вы сталі адным з заўважных майстроў харэаграфічнага мастацтва Беларусі", — сказана ў віншаванні.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў сувязі са смерцю вядомага кінарэжысёра, народнай артысткі СССР Тацццяны Ліёзнавай выразіў спачуванні яе родным, блізкім і калегам.

У Саюзнай дзяржаве плануецца заснаванне прэміі ў галіне навукі і тэхнікі. Праект адпаведнага дэкрэта Вышэйшага дзяржаўнага савета Саюзнай дзяржавы абмяркоўваўся ў Мінску і Маскве на нарадах прадстаўнікоў міністэрстваў і ведамстваў.

Фестываль творчасці інвалідаў "Разам мы зможам больш" завяршаецца ў Смаленску. У ім прымаюць удзел людзі з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі з Беларусі і шэрагу рэгіёнаў Расіі. Адным з заснавальнікаў мерапрыемства з'яўляецца Пастаянны камітэт Саюзнай дзяржавы. У межах фестывалю былі арганізаваны майстар-класы па жанрах народнай творчасці і відах мастацкай самадзейнасці.

Беларусь стане месцам правядзення IX Усясветнага кангрэса Міжнароднай асацыяцыі ўніверсітэцкіх тэатраў. Гэты форум пройдзе ў Мінску з 25 па 29 чэрвеня 2012 года, і праводзіць яго будзе Белдзяржуніверсітэт.

Пасольства Індыі ўнесла прапанову наконт супрацоўніцтва з Беларуссю ў кінематографе. Асновай яго стане стварэнне мастацкіх фільмаў сумеснай вытворчасці.

Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, здзейсніў чын асвячэння Свята-Успенскага кафедральнага сабора Віцебска. Разбураны ў 1936 годзе Свята-Успенскі храм пачалі рэстаўрыраваць у 1998 годзе. У аднаўленні храма, яго ўпрыгожванні, а таксама ў набыцці званоў удзельнічалі разам з дзяржавай беларускія і расійскія мецэнаты, прыхаджане.

Беларускія спецыялісты музейнай справы будуць праходзіць стажыроўку ў г. Вена (Аўстрыя). Вывучэнне вопыту калег праходзіць у два этапы. Спачатку беларускія спецыялісты наведаюць музеі і замкавыя комплексы, дзе пасля пройдуць стажыроўку. Гэты праект ініцыіраваны Міністэрствам культуры Беларусі пры падтрымцы пасольства Беларусі ў Аўстрыі і Мінкульта Аўстрыі.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Заявіць пра сябе

Кацярына ВОЙНІКАВА

**Добрай традыцыяй сталі штомесячныя сустрэчы пачынаючых аўтараў-фантастаў пад крылом Саюза пісьменнікаў Беларусі. Сходы маладзёжнага аддзялення секцыі "Прыгоды і фантастыка" з кожным разам праходзяць усё больш актыўна і масава.**

У якасці госця на адным з іх пабываў Уладзімір Кулічэнка, старшыня секцыі "Прыгоды і фантастыка", які, адказвае за выпуск кніг серыі "Бібліятэка сучаснай беларускай фантастычнай і прыгодніцкай прозы" і праект "Новая беларуская фантастыка". Між іншым, у рамках праекта "Новая беларуская фантастыка" ўжо з'явіліся кнігі такіх аўтараў, як Я. Дрозд, Н. Новаш, А. Сілецкі, плануецца выпуск шэрагу твораў удзельнікаў моладзевага аддзялення секцыі "Прыгоды і фантастыка". Менавіта перспектывы выдання і асаблівасці запланаванай серыі патрапілі ў цэнтр размовы пры сустрэчы. Сапраўды, першае, пра што марыць кожны, нават самы неспрактыкаваны творца, — патрымаць у руках уласную кнігу ды каб яна патрапіла да як мага большай колькасці чытачоў.

Не абышлося ў размове і без абмеркавання асноўных цяжкасцей, якія чакаюць моладзь на шляху творчай самарэалізацыі. Аднак атмасфера сустрэчы засталася пазітыўнай: пры наяўнасці сапраўднага імпэту ніякія перашкоды не палохаюць маладых пісьменнікаў-энтузіястаў.

Партал пад эпатажнай назвай "Новая кроў" пачаў працу і адкрыты для першых наведвальнікаў. Знайсці яго можна па адрасе: **http://fantastics.org**. У рамках рэсурсу прадстаўлены работы аўтараў, аб'яднаных праектам, рэцэнзіі і водгукі на творы класікаў жанру і сучасных літаратараў, навіны літаратуры, звесткі пра конкурсы рознага маштабу, інтэрв'ю з дзеячамі культуры і мастацтва Беларусі і блізкага замежжа. Старт падобнага праекта — выдатная магчымасць для маладых пісьменнікаў Беларусі зрабіць першы крок на шляху аб'яднання.

## Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі



**ГРОЗАЎ**
**Уладзімір Усеваладавіч, публіцыст**

Нарадзіўся 20 сакавіка 1960 года ў в. Камена Лагойскага раёна. Працуе выканаўчым дырэктарам Выдавецтва Беларускага Экзархата. Аўтар кнігі "Под крестом судьбы" (2011 г.).



**СІВЕЦ**
**Тацццяна Мікалаеўна, паэтэса, публіцыст, крытык**

Нарадзілася 23 чэрвеня 1982 года ў г. Мінску. Скончыла Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка. Галоўны рэдактар часопіса "Маладосць". Аўтар паэтычных зборнікаў "Праляцець па вясёлцы" (2002 г.), "Ліпеньская навальніца" (2003 г.) і "Таму, хто знойдзе…" (2008 г.).

## Акцыі



# Падарожнічаем і чытаем разам

Алена МАСЛА

**Рэспубліканская акцыя "Чытаем разам!", абвешчаная РВУ "Літаратура і Мастацтва" і рэдакцыяй часопіса "Вясёлка", працягвае падарожжы па Беларусі.**

Акцыю падтрымалі міністэрствы інфармацыі, адукацыі і культуры Беларусі. Адкрылася яна ў канцы лютага гэтага года мерапрыемствамі ў Дзяржынску і Дзяржынскім раёне Мінскай вобласці. Рыхтуючыся да сустрэчы з пісьменнікамі, школьнікі раёна разам з настаўнікамі, бібліятэкарамі чыталі беларускія кнігі. Гэта і ёсць задача акцыі: абудзіць цікавасць да кнігі, дапамагчы адбыцца сустрэчы з ёй юных грамадзян нашай краіны, якіх, як і паўсюль у сучасным свеце, тэлебачанне і камп'ютар вельмі часта пазбаўляюць гэтай шчаслівай магчымасці.

З лёгкай рукі кнігалюбаў Дзяржыншчыны акцыя адразу набыла шырокі размах. Школьнікі раёна чыталі і абмяркоўвалі, у прыватнасці, кнігі Уладзіміра Ліпскага "Янкаў вянок", "Свіцязянская русалка" і інш. Эстафету пераняла Рэчыца, якую ў маі наведала дэлегацыя пісьменнікаў. А ў верасні ўдзельнікі акцыі прыехалі на поўнач Беларусі — на Міёршчыну.

Хочацца выказаць асаблівую падзяку за арганізацыю мерапрыемстваў акцыі "Чытаем разам!" В. Матусевічу — начальніку аддзела адукацыі Дзяржынскага райвыканкама, Т. Елісеевай — дырэктару Рэчыцкай раённай Цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы, В. Драба — начальніку аддзела адукацыі Міёрскага райвыканкама, а таксама ўсім, хто браў удзел у мерапрыемствах акцыі і чытаў кнігі.

Розныя рэгіёны, розныя кнігі, розныя мерапрыемствы... Але тых, хто сустракае ўдзельнікаў акцыі, нязменна аб'ядноўвае адно вызначальнае пачуццё: энтузіязм, жаданне як найлепей прадставіць гасцям свой раён, сваю малую радзіму. І, канечне ж, прадэманстраваць сваю літаратурную дасведчанасць. Для кнігалюба гэта значыць яшчэ раз узяць у рукі кнігу, перачытаць, паразважаць над ёй. А для тых, хто аддае перавагу блуканню ў Сеціве, удзел у акцыі "Чытаем разам!" адкрывае чароўны свет беларускай кнігі. Становіцца відавочным: акцыя "Чытаем разам!" не толькі далучае да кнігі і абуджае цікавасць да друкаванага слова. Яна аб'ядноўвае людзей, акрыляе, напаўняе жыццё яркімі фарбамі.

Акцыя "Чытаем разам!" працягваецца! У канцы кастрычніка дэлегацыю пісьменнікаў чакаюць у Астравецкім раёне Гродзенскай вобласці.

*На здымку: пісьменнікі ў Міёрах — Сяргей Панізнік, Уладзімір Ліпскі, Алена Масла, Мікола Мятліцкі, Наталля Бучынская.*

## Афіцыйна

# Нясвіж будзе сталіцай

Ірына ТУЛУПАВА

**Культурнай сталіцай Беларусі ў 2012 годзе стане Нясвіж. Такое рашэнне прынята на калегіі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. На наданне статусу, які падкрэслівае асаблівую ролю горада ў захаванні і прымнажэнні нацыянальных культурных каштоўнасцей, падавалі заяўкі таксама Бабруйск, Маладзечна, Ліда. Акрамя таго, Брэст і Магілёў разглядаліся як магчымыя прэтэндэнты на атрыманне статусу культурнай сталіцы ў межах Садружнасці незалежных дзяржаў у 2013 годзе.**

На згаданай калегіі Міністэрства культуры было зацверджана Палажэнне аб правядзенні акцыі "Культурная сталіца года" і прапісаны рэгламент на прадастаўленне заявак ад гарадоў Беларусі. У СНД таксама прынята і чакае канчатковага юрыдычнага афармлення рашэнне аб культурнай сталіцы Садружнасці. Вядома, што міжнародны пілотны праект праходзіць сёлета ў Гомелі і Ульянаўску. А першай культурнай сталіцай у нашай краіне годам раней быў названы Полацк.

Міністр культуры Беларусі Павел Латушка пасля пасяджэння калегіі зазначыў:

— Правядзенне акцый паказвае, што, па-першае, рэальна актывізуецца культурнае жыццё ў гэтых гарадах. Другі фактар — узрастае цікавасць да культуры, самаадукацыі. Вельмі важна наведваць выстаўкі, хадзіць у тэатры, кіно, глядзець сапраўды высакаякасныя творы мастацтва. Гэта будзе стымуляваць моладзь атрымліваць прафесійную адукацыю ў сферы культуры і пазней рэалізоўвацца ў творчасці, у нацыянальным мастацтве нашай краіны. Наступны фактар, які трэба прымаць да ўвагі, — эканамічны эфект. Полацк паказаў, што за год, калі ён быў культурнай сталіцай, на 20 працэнтаў узрасла колькасць турыстаў. Улічваючы той фактар, што сёлета будзе здадзены ў эксплуатацыю пасля рэстаўрацыі Нясвіжскі палац Радзівілаў, можна меркаваць, што статус культурнай сталіцы 2012 года прывядзе ў Нясвіж вялікую колькасць турыстаў. Але гэта выклік і да раённых улад, бо яны павінны зрабіць усё, каб інфраструктура адпавядала запатрабаванням наведвальнікаў. Мы рэкамендавалі таксама Магілёў на наданне яму статусу культурнай сталіцы Садружнасці 2013 года. Гэта горад, які дэманструе сапраўды высокі ўзровень сістэмы культуры, стаўлення да яе як жыхароў горада, так і ўлады, якія падтрымліваюць разнастайныя культурныя праекты. І нам важна зрабіць усё, каб расказаць пра Магілёў як мага шырэй у свеце і праз гэта паказаць узровень развіцця культуры ў Беларусі.

Літабсягі

# Слова жывое, бессмяротнае…



**У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася імпрэза “Зярно к зярняці…”, прысвечаная 95-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Юрэвіча, выдатнага літаратуразнаўцы, пісьменніка, крытыка, чалавека, які звязаў сваё жыццё з родным словам. У зале былі прадстаўлены кнігі, асабістыя рэчы, каштоўныя дакументы з архіва пісьменніка.**

Ганна ПАЛЯКОВА

Супрацоўнікі музея старанна захоўваюць традыцыі, закладзеныя папярэднікамі. Адной з такіх традыцый з’яўляецца правядзенне вечарын у гонар паплечнікаў і сяброў Янкі Купалы, людзей, якія зрабілі значны ўнёсак у захаванне купалаўскай спадчыны. Сярод іх — Уладзімір Міхайлавіч Юрэвіч. Знаёмства з Янкам Купалам моцна ўразіла пісьменніка. Вынікам стала кніга “Янка Купала. Нарыс жыцця і творчасці”.

На вечарыну, прысвечаную Уладзіміру Юрэвічу, прыйшлі яго родныя, калегі, знаёмыя. Сярод гасцей былі і вядомыя літаратуразнаўцы, пісьменнікі, дзеячы беларускай культуры: Навум Гальпяровіч, Міхась Пазнякоў, Уладзімір Мазго, Віктар Шніп, Мікола Аўрамчык, Вячаслаў Рагойша, Алесь Бадак. Госці падзяліліся сваімі ўспамінамі пра пісьменніка. Узгадалі яго кнігі для дзяцей, выдатныя крытычныя працы, зборнікі “Абрысы”, “Погляд”, “Слова і вобраз”.

Шмат гадоў працаваў Уладзімір Юрэвіч дыктарам на радыёстанцыі “Савецкая Беларусь”. Госці ўспаміналі, як чакалі кожнага выпуску перадачы “Жывое слова”. “Сёння мы часам кажам пра тое, што няшмат увагі надаецца беларускай мове, нячаста мы чуем яе ў паўсядзённым жыцці, — адзначыў Навум Гальпяровіч. — Некаторыя людзі, якія не чулі сапраўднага жывога беларускага слова, несправядліва лічаць родную мову непрыгожай, грубай. У такія моманты мне заўсёды ўспамінаецца Уладзімір Міхайлавіч, яго адметны, незвычайны голас, яго цудоўнае вымаўленне, якое з’яўляецца ўзорам прыгожага мастацкага слова”.

Размова ішла не толькі пра творчыя дасягненні пісьменніка, але і пра яго чалавечыя вартасці. Адказны, спагадлівы, заўсёды гатовы даць параду — такім ён быў. Нават у апошнія гады жыцця, калі падводзіла здароўе, Юрэвіч працягваў працаваць. “У працы маю адпачынак. Толькі ў ёй”, — казаў ён. Арганізатары вечарыны выказалі спадзяванне, што стагоддзе пісьменніка ў 2016 годзе будзе адзначана больш шырока і ўрачыста.

***На здымку: паэт Уладзімір Мазго: “«Абрысамі» Уладзіміра Юрэвіча пакрыты мой жыццёвы шлях…”***

Артлінія

# Нязвыклае ў звыклым

**Сталічная мастацкая галерэя “Беларт” запрашае наведаць персанальную выстаўку барысаўскага мастака Віктара Бялова, прымеркаваную да яго 50-гадовага юбілею. Прадстаўленыя творы ён стварыў на працягу апошніх дзесяці гадоў у змешанай тэхніцы — жывапіс алеем, акрылам, калаж. У экспазіцыі пераважаюць ярка дэкарыраваныя нацюрморты мастака са звыклымі пабытавымі рэчамі і садавінай, у якіх суседнічаюць розныя прыкметы мінулых часоў: старыя фотаздымкі, грашовыя купюры, антыкварныя лямпы ды посуд. Прыкладам, “Настальгія”, “Нацюрморт з чырвоным прасам”, “Чай з лімонам”, “Nature morte”, “Спас”…**



Віктар КАВАЛЁЎ, фота аўтара

Намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў па выставачнай дзейнасці Сяржук Цімохаў зазначыў, што Віктар Бялоў знайшоў свой стыль, почырк, манеру выканання, свае філасофію і нацюрморт. Ён пазнавальны ў творчасці. Праз звычайныя, звыклыя, стандартныя рэчы можна адчуць, чым жыве мастак, яго ўнутраны свет, настрой, тое, што яго хвалюе.

Мастацтвазнаўца мастацкай галерэі “З’ява” Барысаўскай цэнтральнай бібліятэкі імя І. Х. Каладзеева Таццяна Кірылава адзначыла, што яна неаднойчы адкрывала выстаўкі творцы ў Барысаве, бо ён — адзін з найактыўнейшых мясцовых экспанентаў. Работы В. Бялова люструюць добры, светлы, жыццесцвярджальны настрой, надзіва пазітыўны, аптымістычны пачатак яго творчасці і асобы. Не сакрэт, што ўва многіх мастакоў, асабліва сучаснага перыяду, у некаторых работах гучыць дэпрэсіўная, цяжкая, негатыўная нотка. Калі параўноўваць мастакоў з кветкамі, то жанчын-жывапісцаў можна ахарактарызаваць як незабудкі, асобных творцаў-мужчын — супаставіць з кактусамі, а Віктар Бялоў — вялікі, жыццярадасны сланечнік. Ён заўсёды цягнецца да сонца і сам выпраменьвае пазітыў, святло і цяпло. Творца выдатна адчувае стыль, душу, характар старых рэчаў, якія вельмі беражліва збірае ў майстэрні, захоўвае для далейшага іх жыцця ў нацюрмортах.

Таксама слова бралі дырэктар мастацкай галерэі “Беларт” Юрый Хмыроў, сябры, мастакі-землякі.

Віктар Бялоў шмат увагі надае прапрацоўцы жывапіснай фактуры як кожнай асобна напісанай рэчы, так і кампазіцыйнай прасторы ў цэлым. Адмысловай характэрнасцю і абаяннем вылучаюцца вобразы сюжэтных карцін з аголенай натурай ды міфалагічнымі істотамі. Кожная з работ адлюстроўвае вельмі асабістую гісторыю ўспамінаў, якая задзейнічае шэраг займальных прадметаў і дэталей, як бы запрашаючы гледача ў гульню пазнавання, выклікае разнастайныя асацыяцыі і тлумачэнні.

***На здымку: Віктар Бялоў “Чай з лімонам”.***

Повязі

# Абавязак захавання

**У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь напрыканцы верасня праходзіла выстаўка “Рэстаўрацыя ў Італіі: метады і сродкі перадавога вопыту на скрыжаванні навукі, мастацтва і тэхналогій”. Мерапрыемства стала добрай нагодай для пачатку рэальнага супрацоўніцтва Беларусі і Італіі ў галіне рэстаўрацыі: на адкрыцці выстаўкі прысутнічала італьянскі рэстаўратар Эмілія Коста, якая падзялілася з гасцямі сваімі ўражаннямі ад наведвання Мірскага і Нясвіжскага замкаў.**




Алеся ЛАПІЦКАЯ

“Італія — першая ў свеце краіна па колькасці аб’ектаў Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Але гэтае багацце ёсць не толькі падстава для гонару — вельмі істотным з’яўляецца і абавязак яго захавання”, — зазначыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Італіі ў Беларусі Арнальда Абэці. Займацца рэстаўрацыяй у Італіі пачалі яшчэ ў Сярэднявеччы. Сёння гэта ператварылася з мастацкай і рамесніцкай у крытычную і навуковую дзейнасць.

Італьянскія рэстаўратары маюць не толькі вялікі вопыт, але і выдатную навукова-тэхнічную базу. Па словах дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Уладзіміра Пракапцова, асабліва прывабнымі былі 6 стажыроўкі беларускіх спецыялістаў у італьянскіх рэстаўрацыйных цэнтрах.

Пачаткам такога супрацоўніцтва стала выстаўка “Рэстаўрацыя ў Італіі…” — 30 вялікіх планшэтаў з цікавымі фотаздымкамі і расповедам пра гісторыю і сучаснасць рэстаўрацыі.

“Мяне радуе, што мой погляд шмат у чым супадае з поглядамі беларускіх рэстаўратараў, — зазначыла Эмілія Коста. — Архітэктурныя комплексы ў Міры і Нясвіжы ўразілі сваімі памерамі. І я заўсёды бачыла аргументаванасць рашэнняў, прынятых беларускімі спецыялістамі ў складаных выпадках. Рэстаўратары выдатна валодаюць тэхнікай, добра ведаюць уласцівасці матэрыялаў. Да таго ж, на Беларусі выяўляецца павага да старажытных фрагментаў помніка ў і ўсведамленне неабходнасці кампрамісу між паляпшэннем знешняга выгляду помніка і яго кансервацыяй. Так, вельмі няпростым было рашэнне захаваць у першапачатковым, “неадрэстаўраваным” стане фрагмент сцяны ў Мірскім замку, але менавіта такі падыход я падзяляю. Гэта першае знаёмства дае выдатныя падставы для далейшага супрацоўніцтва”.

Варта спадзявацца, што планы сумеснай працы будуць пакрысе здзяйсняцца. І першыя крокі ўжо зроблены: паўтары тысячы кніг з гарадской бібліятэкі Мілана перададзены кафедры раманскага мовазнаўства БДУ.

***На здымку: наведвальнікі выстаўкі знаёмяцца з работай італьянскіх рэстаўратараў.***

З-пад пяра

Санкт-Пецярбургская кампанія “Хата лялек” упершыню прадставіла мінчанам выстаўку касцюміраванай фарфоравай лялькі ручной працы “Парад лялек”. На выстаўцы былі паказаны ўнікальныя аўтарскія работы — усяго каля 100 фарфоравых лялек, апранутых у гістарычныя і нацыянальныя касцюмы дваран, баяраў, вайскоўцаў. Але самымі шыкоўнымі экспанатамі сталіся лялькі ў касцюмах цароў і імператрыц расійскага трона. Вельмі арыгінальнае дапаўненне выстаўкі — незвычайныя лялькі-скрыначкі і лялькі-цукерачніцы.

Ганна ПАЛЯКОВА

У Доме Дружбы адбыўся вечар, прысвечаны нацыянальнаму святу Рэспублікі Карэя — Дню заснавання дзяржавы. Удзел у мерапрыемстве прыняў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Карэя ў Рэспубліцы Беларусь Кан Вон Сік. Адкрываючы вечар, ён распавёў пра даўнія сяброўскія стасункі паміж нашымі краінамі, сённяшнюю зацікаўленасць у абмене вопытам у першую чаргу ў эканамічнай сферы, а таксама пра развіццё культурных сувязей. Афіцыйную частку мерапрыемства падтрымаў сваім выступленнем кіраўнік рабочай групы беларуска-карэйскага міжпарламенцкага супрацоўніцтва Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Аляксандр Юшкевіч. Неафіцыйная частка мерапрыемства складалася з паказу фільма “Сакрэт Карэйская цуда” і канцэрта, які даў прысутным карэйскі нацыянальны танцавальны калектыў.

Лізавета БАГАДЗЯЖ

Філіял Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь “Дом-музей І з’езда РСДРП” прапанаваў мінчанам выстаўку-прэзентацыю аўтарскіх работ Вікторыі Асанавай і Кацярыны Навіцкай “Удзячнасць”. Вікторыя Асанава — мадэльер, які нараджае вобразы незвычайна шчаслівых жанчын. Мадэліраванне для яе не проста мова, праз якую яна сябе перадае, спрабуючы паказаць, які прыгожы і дасканалы жаноцкі вобраз — гэта яе існасць. Кацярына Навіцкая — мастак. Сугучнасць моды і жывапісу было тэмай гэтай выстаўкі.

Вольга КУРЫЛЁНАК

Рэтраспектыва фільмаў славутага польскага рэжысёра Анджэя Вайды ў межах Тыдня польскага кіно прайшла ў Брэсце. Тытулаваныя кінастужкі “Пан Тадэвуш” і “Дантон”, “Зямля абетаваная” і “Усё на продаж”, “Чалавек з мармуру” і “Корчак” пры запоўненай глядзельнай зале былі паказаны ў кінатэатры “Беларусь”. На адкрыцці ж Тыдня аматары творчасці Вайды атрымалі ўнікальную магчымасць “сустрэцца” з мэтрам. Сам рэжысёр, на жаль, не змог прыехаць у Брэст, але ён запісаў на стужку свае слова для берасцейскіх гледачоў.

Алена ДАНІЛАВА

Фотавыстаўка “Jetty” Марыны Бацюковай праходзіла ў Галерэі TUT.BY. Фатограф пабывала ў вельмі незвычайным куточку. Chew Jetty, або Clan Jetties, — гэта самае вялікае рыбацкае паселішча на вадзе, якое знаходзіцца на востраве Пенанг у Малайзіі. Яно было заснавана эмігрантамі з Кітая ў сярэдзіне XIX стагоддзя, налічвае больш як 1500 жыхароў і сёння занесена ў спіс Сусветнай Спадчыны ЮНЕСКА. Простае жыццё простых людзей прыцягвае ўвагу сваёй незвычайнасцю. Іх маленькія хаткі падобныя да лодак, якія крыху калышуцца на вадзе, а жыццё — на вечнае падарожжа па рацэ. Chew Jetty — гэта адно з тых месцаў, дзе абавязкова хочацца пабываць, а фотаздымкі Марыны Бацюковай хочацца пераглядаць зноў і зноў.

Марыя ГАЛУБЦОВА

**Чароўнае беларускае слова ён упершыню пачуў у маленстве ў сваёй роднай вёсцы Чырвоная Воля. Паколькі яна знаходзіцца ў Лунінецкім раёне, то слова гэтае мела і палескае адценне. Не цураўся роднай мовы Жэнеў бацька Аляксандр Сушко, і Жэнева маці таксама. Бацьку пасля вайны накіравалі на Лунінеччыну настаўнічаць, ён працаваў дырэктарам сямігодкі. Яго жонка Вольга Іосіфаўна настаўнічала ў малодшых класах. Жэня гадаваўся разам з братамі Сашам і Лёнем. Іхнюю ж сястру звалі Люда. Жэнеў бацька тлумачыў, чаму ў яго чацвёра дзяцей, па-філасофску. "Чаму стол моцна стаіць? — пытаўся ён у цікаўнага і сам жа адказваў: — Таму што ў яго чатыры ножкі. То і сям'я, калі ў ёй чацвёра дзяцей, будзе трывалай".**



# Стваральнік свята душы

Руслан ШОЦІН,
фота Наталлі Хілько

Наконт гэтага з ім ніхто не мог паспрачацца, бо і сапраўды жылі Сушко дружна. Зразумела, сямейны лад і парадак на бацьках трымаўся, але дзеці, падрастаючы, таксама стараліся так жыць, каб не сорамна было ў вочы і бацькам глядзець, дый аднавяскоўцам. У вёсцы як? Ва ўсіх ты навідавоку і сам ці не ўсіх ведаеш. То трэба старацца, каб ніхто пра цябе нічога благога не мог сказаць.

Пра Жэню Сушко з гадоў вучнёўства шмат добрага гаварылі. І не толькі таму, што старанна вучыўся, прыкладам у працы быў. Да ўсяго, з'яўляўся актыўным удзельнікам мастацкай самадзейнасці. Не вершы дэкламаваў, не песні выконваў, а танцаваў. Не адмаўляючы вядомага выслоўя, што спачатку было слова, у дачыненні да яго правільным будзе сказаць, што ў яго спачатку не толькі слова было, але і танцы. Менавіта танцы паўплывалі на выбар ягонай прафесіянальнай адукацыі. Танцаваў, танцаваў і "датанцаваўся". Сёння Я. Сушко — начальнік аддзела культуры Пухавіцкага райвыканкама.

Несумненна, на тое, што сваё жыццё звязаў з культурнай сферай, акурат і паўплывала гэтае захапленне танцамі. Зразумела, не адразу ўсё адбылося. Нямала абцасаў стаптаў (і не толькі ў прамым сэнсе), пакуль стаў тым, кім і стаў. Хоць са школьных гадоў не аднымі танцамі жыў, а і прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Дый увогуле звяртаў на сябе ўвагу: прыгожы, падцягнуты, актыўны. Адным словам, хлопец — любата зірнуць. Калі ў Лунінцы праводзіліся якія-небудзь раённыя агляды мастацкай самадзейнасці ці розныя фестывалі, перад пачаткам сцяг даручалі выносіць менавіта яму, Я. Сушко. Так было і тады, калі стаў студэнтам тагачаснага Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага: на кастрычніцкія святы нёс адзін са сцягоў Фрунзенскага раёна горада Мінска.

Паступіў Я. Сушко на літаратурна-музычны факультэт, на беларускае аддзяленне. Займаўся па класе домбры ў выкладчыка Уладзіміра Перацячкі, які быў музыкам паводле прызвання. Таму хацеў, каб ягоны выхаванец спасцігнуў сакрэты ігры на гэтым музычным інструменце. Вучань не падвёў свайго настаўніка. Забягаючы наперад скажу, што і дочкам сваім Яўген Аляксандравіч прывіў любоў да мастацтва. Абедзве скончылі Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. Старэйшая, Ірына, выкладае камп'ютарную графіку ў Мар'інагорскай ДШМ, а Надзея працуе дырэктарам Зазерскай дзіцячай школы мастацтваў.

Ажаніўся ж Я. Сушко, будучы студэнтам пятага курса, закахаўшыся ў сваю аднакурсніцу Лілю Жук, якая, да ўсяго, вучылася ў той жа групе, што і ён. Паколькі Лілія Леанідаўна родам з Паставаў, то і вырашылі паводле размеркавання ехаць туды. Настаўнічалі ў Дунілаўскай сярэдняй школе. Яўген Аляксандравіч выкладаў беларускую і рускую мовы і літаратуры, а ягоная жонка — рускую мову і літаратуру, а таксама спевы.

Магчыма, і працавалі б у Дунілавічах і далей, але бацькі Я. Сушко, пайшоўшы на пенсію, пераехалі на пастаяннае месца жыхарства ў вёску Вугалец, што ў Пухавіцкім раёне. То чаму б не быць да іх бліжэй? Балазе, знайшлося месца ў Турынскай сярэдняй школе. Да ўсяго, і трохпакаёвую кватэру пабачылі. Хіба ад такой прапановы адмовішся?

Настаўнічаў Я. Сушко ў Турыне, пакуль не прызвалі ў армію. Служыў у Маскоўскай акрузе супрацьпаветранай абароны, у Дзмітраўградзе. Дарэчы, гэты горад цяпер з'яўляецца пабрацімам Пухавіцкага раёна. У складзе дэлегацыі Яўген Аляксандравіч двойчы наведваўся туды. Прыемна было яму вярнуцца ў сваё ваеннае юнацтва. Хоць і служыў усяго год, ды шмат што запомнілася. Галоўнае ж у тым, што прайшоў сапраўдную школу жыцця. А як служыў, сведчаць шматлікія граматы. Сярод іх і гэтая, якая яму асабліва дарагая.

Яўген Аляксандравіч падае яе мне. Чытаю: "За выдатныя поспехі ў баявой і палітычнай падрыхтоўцы, прыкладную дысцыпліну і бездакорную службу ў радах Узброеных Сіл СССР Вы занесены ў Кнігу гонару часці і ўзнагароджваецеся Пахвальнай граматай. Упэўнены, што Вы і надалей будзеце служыць прыкладам добрасумленнага выканання свайго патрыятычнага абавязку перад нашай вялікай радзімай — Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Камандзір вайсковай часці 71548 Сачаеўскі. 3 лістапада 1977 года".

*Так год за годам і рупіўся, каб пашыралася сетка навучальных устаноў, у якіх хлопчыкі і дзяўчынкі маглі далучацца да прыгожага. Канечне, год на год не выпадаў. Тым не менш на сённяшні дзень у раёне сем дзіцячых школ мастацтваў, а ва ўсіх аграгарадках, якіх на Пухаўшчыне каля дваццаці, адкрыты іх філіялы. Усяго ў іх займаецца 1251 вучань.*

Дарагая гэтая грамата для Я. Сушко, хоць нямала ў яго і ўзнагарод, калі можна так сказаць, больш высокага рангу: Ганаровая грамата Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, Ганаровая грамата Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Ганаровы знак Міністэрства культуры, а таксама ганаровыя граматы Мінскага абласнога выканаўчага камітэта, Пухавіцкага райвыканкама і райсавета дэпутатаў. Неадназначна адзначаўся Яўген Аляксандравіч і прафсаюзам работнікаў культуры. Да месца дадаць, што ён ужо 24 гады з'яўляецца членам Пухавіцкага раённага выканаўчага камітэта. "Старэйшых" за яго сярод начальнікаў аддзелаў культуры Мінскай вобласці, якія б уключаліся ў склад раённай выканаўчай улады, няма, што таксама сведчыць пра высокі аўтарытэт Я. Сушко, пра ягоны вялікі вопыт. Дый як не быць яму, гэтаму вопыту: узначальвае аддзел культуры ўжо трыццаць адзін год. Калі быць дакладным, то гэты, няхай і не круглы, але ўсё ж значны юбілей можа адзначаць 16 кастрычніка сёлетняга года.

Праўда, перш чым стаць на той час загадчыкам аддзела культуры, Яўгену Аляксандравічу пасля звальнення ў запас давялося два гады і два месяцы адпрацаваць старшынёй Турынскага сельсавета. Нікольні не шкадуе, што згадзіўся на гэтую пасаду. Кіраўнічы вопыт, які набыў за кароткі час, у далейшым яму вельмі спатрэбіўся. Гэта і неабходныя арганізатарскія навыкі, і засваенне азоў гаспадарскай дзейнасці, і ўменне знаходзіць выйсце з самага складанага становішча. Дый шмат што іншае, пра што ні ў якіх падручніках і даведніках не прачытаеш, бо да ўсяго трэба дайсці самому.

Сімпатычна тое, што першым аб'ектам, адрамантаваным пад непасрэдным кіраўніцтвам Я. Сушко, стаў вясковы Дом культуры. Да чаго душа ляжала, за тое, не задумваючыся, і ўзяўся. Душа падказала яму, на што звярнуць першапачатковую ўвагу і тады, калі стаў загадчыкам раённага аддзела культуры. Спрацавала, калі так можна сказаць, музычная спецыфіка ў вышэйшай адукацыі. Таму садзейнічаў стварэнню Праўдзінскай дзіцячай мастацкай школы. Яна расчыніла свае дзверы ўжо праз год ягонай працы на новай пасадзе. Дагэтуль была ў Пухавіцкім раёне толькі Мар'інагорская музычная дзіцячая школа.

Так год за годам і рупіўся, каб пашыралася сетка навучальных устаноў, у якіх хлопчыкі і дзяўчынкі маглі далучацца да прыгожага. Канечне, год на год не выпадаў. Тым не менш на сённяшні дзень у раёне сем дзіцячых школ мастацтваў, а ва ўсіх аграгарадках, якіх на Пухаўшчыне каля дваццаці, адкрыты іх філіялы. Усяго ў іх займаецца 1251 вучань. Па ахопе дзяцей мастацкай адукацыяй Пухавіцкі раён займае другое месца на Міншчыне — 22 працэнта ад усіх школьнікаў. Першынстве Стаўбцоўшчына — 27,4 працэнта. У цэлым жа па вобласці гэты паказчык раўняецца 15,2 працэнта.

*Дзякуючы Я. Сушко адбыўся сапраўдны прарыў у развіцці мастацкай самадзейнасці. Калі ён узначаліў аддзел культуры, ганаровае званне "народны" мелі толькі два калектывы — тэатр раённага Дома культуры і жаночы хор "Руская песня" пры Доме афіцэраў. Цяпер народнымі і ганаровымі з'яўляюцца 20 калектываў.*

Мар'інагорская дзіцячая школа мастацтваў — адна з лепшых на Міншчыне. Пасля таго, як яна размясцілася ў рэканструяваным будынку былога гарадскога Дома афіцэраў, у ёй ёсць усе ўмовы для заняткаў 420 чалавек. Між іншым, на рэканструкцыю не паскупіліся. Было выдзелена больш як 3,5 мільярда рублёў. 152 мільёны не пашкадавалі на набыццё славутага раяля "Ямаха".

Дзякуючы Я. Сушко адбыўся сапраўдны прарыў у развіцці мастацкай самадзейнасці. Калі ён узначаліў аддзел культуры, ганаровае званне "народны" мелі толькі два калектывы — тэатр раённага Дома культуры і жаночы хор "Руская песня" пры Доме афіцэраў. Цяпер народнымі і ганаровымі з'яўляюцца 20 калектываў. Раней, каб арганізаваць нейкі канцэрт ці правесці іншае мерапрыемства, у якім не абысціся без прыцягнення самадзейнікаў, даводзілася шмат каго ўпрошваць, каб згадзіўся на ўдзел у ім. Сёння ж працуюць 33 клубныя фарміраванні рознага кірунку. Менавіта працуюць, а не існуюць, як часам бывае, толькі на паперы.

Шырокі размах набыла ў раёне і музейная справа. Усё пачалося са школьнага музея ў вёсцы Дукора, які ў 1969 годзе, праз год пасля свайго адкрыцця атрымаў званне "народнага". Аднак і пасля таго, як у 1974 годзе ён набыў статус раённага, усё адно асабліва не мог пахваліцца наведвальнікамі, бо дабрацца ў Дукору было не так і проста — вёска знаходзіцца на ўскрайку раёна. Праблема вырашылася пасля таго, як у 1993 годзе музей размясціўся ў вёсцы Блонь у сядзібным доме вядомых рэвалюцыянераў Бонч-Асмалоўскіх. Гэта за тры кіламетры на паўночны ўсход ад Мар'інай Горкі. Экспазіцыя музея багатая і разнастайная. Тут чатыры аддзелы, па сутнасці, ягоныя філіялы: Блужскі, Гарэлецкі, у сярэдняй школе № 3 і раённая карцінная галерэя.

Што Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей працуе цудоўна, безумоўна, найпершая заслуга ягонага дырэктара Аляксандра Прановіча. Дый на іншых участках людзі добрасумленныя, са спецыяльнай адукацыяй, да прыкладу, Ганна Лабастава, якая ўзначальвае бібліятэчную сістэму. Усіх ініцыятыўных, зацікаўленых у выніках сваёй працы, тых, хто яе любіць па-сапраўднаму, шмат. Аднак каталізатарам усіх добрых спраў з'яўляецца сям'я. Канечне, гэта тычыцца самога Я. Сушко. Энергіі яму не займаць. Узяць хаця б Мінскі абласны фестываль народнай творчасці "Напеў зямлі маёй", што прайшоў ужо дзевяць разоў. Папрацаваць, каб усё адбылося зладжана, трэба шмат і шмат. Дый адказнасці нямала. Пра тое, якая ўвага надаецца гэтаму фестывалю, сведчыць ужо той факт, што старшыня яго Ігар Лучанок, а сустаршыня — Міхась Дрынеўскі.

Знакаміты майстар скульптуры Сяргей Канёнкаў, задумваючыся пра месца чалавека ў жыцці, ягонае прызначэнне, найбольш поўную самааддачу таго, што закладзена ў яго прыродай, аднойчы зазначыў: "Трэба жыць так, каб кожны пражыты дзень здаваўся новым". Гэтае выказванне С. Канёнкава ўспліло ў маёй памяці, калі вяртаўся з Мар'інай Горкі ў Мінск. Не ведаю, ці знаёмы Яўген Аляксандравіч з падобным меркаваннем, ды сутнасць ад гэтага не мяняецца. Я. Сушко менавіта так і жыве, як неабходнасць гэтага разумеў С. Канёнкаў. Хоць, калі быць да канца праўдзівым, то не лішняе і пэўнае ўдакладненне, істотнае ў дачыненні да начальніка аддзела культуры Пухавіцкага райвыканкама.

Некалі, даўно ўжо, маючы узрост Хрыста, Я. Сушко цяжка захварэў на сэрца. Урач, які лячыў яго, нічога не хаваў, сказаў усю праўду. Маўляў, цяпер тые трыццаць тры гады, пражывеш ў лепшым выпадку яшчэ гадоў дзесяць, таму… Яўген Аляксандравіч пачаў жыць так, быццам кожны чарговы дзень у яго апошні. Аднак іншы на ягоным незайздросным месцы толькі б стараўся браць ад жыцця як мага болей. Ён жа імкнуўся і шмат аддаваць, назіраючы ці не кожны свой чарговы дзень такімі новымі набыткамі, за якія не сорамна.

На шчасце, урач той памыліўся: некалькі дзён назад Я. Сушко адзначыў сваё 60-годдзе. Ён раскінуты новымі цікавымі ідэямі і задумамі. З тым усведамленнем, з якім жыў і ўвесь гэты час. Сутнасць жа жыццёвага крэда Яўгена Аляксандравіча ў наступным, што трэба імкнуцца да таго, каб штодня было свята душы. Па сутнасці, гэта вельмі блізка таму, пра што ў свой час гаварыў С. Канёнкаў. Я. Сушко і з'яўляецца сваіго роду стваральнікам, носьбітам свята душы. Для ўсіх тых ж, дзеля каго і працуе. Спачатку ж, зразумела, для самога сабе, каб можна было іншым прыклад паказваць. Таму ў ягонай хаце — маю на ўвазе культурную сферу Пухавіцкага раёна ва ўсёй яе шматграннасці — і "парадачак" ідзе". А там, дзе "парадачак", і без песні не абысціся. У прамым і ў пераносным сэнсе.

# Мы ў свеце

Таццяна ШАБЛЫКА

**У чарговым нумары “Беларускай думкі” рэдакцыя вяртаецца да практыкі аб’яднання публікацый агульнай рубрыкай “Тэма нумара”.**

У чытачоў часопіса наўрад ці выкліча здзіўленне зварот да пытанняў беларуска-кітайскага супрацоўніцтва, бо ў апошнія гады кантакты паміж нашай краінай і Паднябеснай развіваюцца надзвычай актыўна. Шэраг артыкулаў на тэму “Беларусь — Кітай: праз гісторыю ў будучае” падрыхтаваны кітайскімі навукоўцамі і палітыкамі пры садзейнічанні Пасольства КНР у Беларусі. З публікацый айчынных аўтараў варта адзначыць рэтраспектыву беларуска-кітайскіх адносін падчас знаходжання Беларусі ў складзе СССР на прыкладзе дзейнасці грамадскіх арганізацый нашай рэспублікі, выкананую доктарам гістарычных навук Генадзем Шадурскім. Надзвычай цікавае і даследаванне магістранткі Веранікі Карлюкевіч пад назвай “Творчы мост між народамі”, прысвечанае гісторыі перакладу класікаў беларускай літаратуры на кітайскую мову. Аналізуючы розныя перыяды літаратурных стасункаў і двухбаковай перакладчыцкай дзейнасці, аўтар асабліва вылучае час моцнага інтарэсу кітайцаў да твораў Васіля Быкава, Івана Шамякіна, Івана Мележа. Аднак, не без суму канстатуе В. Карлюкевіч, сёння знаёмства жыхароў Паднябеснай з беларускай літаратурай адбываецца не з дапамогай новых перакладаў, а дзякуючы перадрукоўцы старых.

Назва “Беларуская палітычная сістэма: перспектывы развіцця” цалкам раскрывае змест артыкула галоўнага рэдактара часопіса Вадзіма Гігіна. Аўтар пераканаўча паказвае эфектыўнасць функцыянавання айчыннай палітычнай сістэмы, аналізуючы этапы яе фарміравання з сярэдзіны 1990-х гадоў, разважае пра магчымасці ўдасканалення і мадыфікацыі сістэмы на маршы.

Барацьбе з дылетанцкімі інтэрпрэтацыямі антрапалагічных даных у дачыненні да беларусаў прысвечаны артыкул доктара біялагічных, кандыдата гістарычных навук Інесы Салівон. Уступаючы ў завочную палеміку з некаторымі даследчыкамі, аўтар на аснове дакладнага ведання заканамернасцей расаўтварэння і генетычных працэсаў у папуляцыях чалавека, уяўлення пра яго біялагічную і сацыяльную сутнасць выкрывае памылковасць іх поглядаў.

Натуральна, побач з навукоўцамі выступаюць у нумары і штатныя журналісты часопіса, распавядаючы, у прыватнасці, пра магчымасці стварэння і прасоўвання турыстычнага стылю Мінска напярэдадні чэмпіянату свету па хакеі-2014 (Галіна Махнач “З брэндам па жыцці”) ці пра беларуска-расійскае супрацоўніцтва ў сферы гідраметэаралогіі (Сняжана Міхайлоўская “Надвор’е на паслязаўтра”. Дарэчы, у апошнім матэрыяле за круглым сталом эксперты двух краін абмяркоўваюць і праблемы глабальнага пацяплення, і пытанні апраўдваемасці прагнозаў надвор’я, і магчымыя сцэнарыі змянення клімату на планеце).




У памяць нядаўна пайшоўшага з жыцця вядомага беларускага гісторыка Я. Трашчанка кіраўніцтва і калегі вучонага па Магілёўскім дзяржаўным універсітэце напісалі артыкул, які значна перасягнуў межы традыцыйнага некралога. Падрабязны аповед пра навуковую дзейнасць Якава Іванавіча дазваляе з вышыні цяперашняга часу ацаніць ролю гэтага даследчыка ў развіцці айчыннай гістарычнай навукі. Так, у сваіх працах Я. Трашчанок прапанаваў новую перыядызацыю гісторыі Беларусі, у аснову якой быў пакладзены дзяржаўна-этнічны крытэрый. Яму належыць аўтарства агульнай канцэпцыі гістарычнай адукацыі ў краіне, якая была надрукавана ў 2002 годзе і пасля абмеркавання і адабрэння выкладчыкамі айчынных ВНУ, вучонымі-гісторыкамі НАН Беларусі пачала ўкараняцца праз вучэбныя праграмы і дапаможнікі.

Таксама вераснёўскі нумар утрымлівае артыкулы ў традыцыйных для часопіса раздзелах “Практыкум” — на гэты раз карэспандэнт пабываў у Рэчыцкім раёне Гомельшчыны, “Крытыка і бібліяграфія” — доктар філалагічных навук прафесар Анатоль Андрэеў грунтоўна аналізуе выдадзены нядаўна ў Мінску падручнік “Культуралогія: тэорыя і гісторыя культуры”.




# ЛіМ: 1938 год

Вольга ПАСІЯК

**Яшчэ не скончыўся жахлівы перыяд рэпрэсій, а ўжо значна зменшылася колькасць вартых увагі дзеячаў культуры. Адны апраўлены ў ссылку, другія расстраляны, а трэція ў спісах тых, пра каго нават успамінаць забаронена. Пра каго пісаць? Выйсце знаходзіцца лёгка — пра просты народ, яго творчасць, поспехі і дасягненні ў мастацкай самадзейнасці.**

“Жыццё значна больш імітуе мастацтва, чым мастацтва імітуе жыццё” — словы Оскара Уайльда сталі выразным адлюстраваннем савецкага ладу жыцця! Пра знакамітых учора пісьменнікаў і паэтаў успамінаюць рэдка, бадай што падчас чарговага пошуку горкаўскіх ці някрасаўскіх матываў у беларускай літаратуры. Затое шчаслівыя твары рабочых і калгаснікаў усміхаюцца са старонак кожнай газеты, кожнага часопіса. Створаны нейкі ўяўны соцыум, дзе ўсе радуюцца савецкім рэаліям. *“Маладыя патрыёты савецкай краіны горача любяць сваю радзіму, беззаветна аддана свайму народу, камуністычнай партыі, вялікаму Сталіну, і імкнуцца адлюстраваць свае глыбокія пачуцці ў мастацкіх вобразах, у песнях, танцах, выяўленчым мастацтве”* (ЛіМ, 1938, 11 кастр.). І насамрэч адлюстроўваць на ўсебеларускіх алімпіядах мастацкай самадзейнасці і алімпіядах працалоній НКВД. *“Маляр і пячнік, столяр і атынкоўшчык — будаўнікі, рабочыя і работніцы, прыходзілі пасля працы ў свой клуб, развучвалі ролі, рэпетыравалі, дапамагалі адзін другому ў творчай працы, настойліва авалодвалі сцэнічным майстэрствам”* (ЛіМ, 1938, 3 сак.). Цяжка сказаць, што гэта: праўдзівае праяўленне патрыятызму ці пазбаўленне жыццёвых слёз за кошт тэатральных?

*“Станіслаўскі часта паўтарае словы Шчэпкіна, якія пісаў свайму вучню Шумскаму: “Ты сёння можаш іграць горш, заўтра лепш, але ты заўсёды павінен іграць правільна”* (ЛіМ, 1938, 16 студз.). Менавіта ў 1938-м адзначаюць 75-годдзе знакамітага рэжысёра і не забываюць пра тое, што 40 год таму першы спектакль паставіў Маскоўскі мастацкі акадэмічны тэатр імя М. Горкага. Але такія значныя тэатральныя падзеі адыходзяць на другі план, калі амаль усё мастацтва зводзіцца да ўзроўню майстроў-самавучак: *“Самадзейны калектыў Оршы паказаў оперу “Наталка Палтаўка”. Ён рыхтаваў оперу без рэжысёра, стварaў усім калектывам. І нягледзячы на тое, што большая частка выканаўцаў не зусім справілася з ролямі, опера пакідае добрае ўражанне”* (ЛіМ, 1938, 5 студз.).

Цікава, але празмерная ўвага да самадзейнага мастацтва дапамагае вырашыць некаторыя праблемы, на якія пры іншых абставінах не засталося б ні часу, ні сродкаў. Так, у таленавітай моладзі з глыбінкі з’яўляецца шанц паказаць сябе свету: *“Трэба адзначыць, што 250 экспанатаў ткацтва і вышыўкі прадстаўлены толькі калгасніцамі чатырох раёнаў — Капыльскага, Чырвонаслабодскага, Слуцкага і Уздзенскага. З іншых раёнаў экспанаты яшчэ прыбываюць”* (ЛіМ, 1938, 23 крас.). А ў асобных раёнах (напрыклад, у Веткаўскім) у выніку жорсткай крытыкі з боку ўлады з’яўляюцца спрыяльныя ўмовы для развіцця народнай творчасці.

Той факт, што кожны здольны стаць акцёрам ці музыкантам, стаў своеасаблівай савецкай аксіёмай, з якой не толькі баяліся, але і не хацелі спрачацца. Імгненна пачалі з’яўляцца свае стаханаўцы ў мастацтве. Усё часцей на старонках газет расказваюць пра “зорак з народа”. Чаго варты артыкул “Ад самадзейнасці да прафесійнага мастацтва” за подпісам І. Бары — мастацкага кіраўніка хора Дзяржфілармоніі: *“Барсукова працавала 8 год на трыкатажнай фабрыцы. Удзельніца самадзейнасці. У 1938 годзе паступіла па конкурсу да нас у хор і за тры месяцы значна пасунулася наперад. Барсуковай 22 гады, яна камсамолка, валодае прыгожым голасам (сапрана). Недалёка той час, калі яна стане салісткай хора”*; *“Оля Крывец — дачка пастуха, сямі год пайшла ў нянькі. Цяпер яна артыстка Дзяржаўнага хора БССР. Нядаўна хор канцэртыраваў на радзіме Олі — у мястэчку Зембін, шмат цікавых размоў і ўспамін было ў часе сустрэчы”* (ЛіМ, 1938, 7 ліст.).

Бесперапынны пошук новых герояў адкрывае чытачам невядомыя імёны рабочых і калгаснікаў, для якіх наступіла доўгачаканая хвіліна славы. Публікацыя ў “ЛіМе” — значная падзея ў жыцці чалавека, кожны дзень якога насычаны цяжкай манатоннай працай Вось ён купляе свежы нумар газеты, якая яшчэ захоўвае пах друкарскай фарбы, імчыцца дадому, каб паказаць артыкул родным, сябрам і знаёмым… Адным з такіх герояў на старонках “ЛіМа” стаў Пётр Каўшэўны, малады электраманцёр рэчыцкай запалкавай фабрыкі “Х Кастрычнік”. *“Усяго ў Каўшэўнага да 20 работ з запалак. Дзве яго самыя значныя работы — партрэт Сталіна і карціна “Паўночны полюс” былі выстаўлены ў Менску на выстаўцы народнай творчасці”* (ЛіМ, 1938, 5 студз.).

Зразумела, нельга сказаць, што 1938 год быў цалкам сканцэнтраваны на самадзейным мастацтве і прайшоў амаль незаўважна для развіцця ўсёй беларускай культуры. Узводзіцца Вялікі тэатр оперы і балета, будынак Акадэміі навук, новая гасцініца на скрыжаванні вуліц Кірава і Урыцкага (сучасны атэль “Плаза”). На старонках “ЛіМа” выступалі “свае” пісьменнікі і музыканты, мастакі і скульптары, акцёры і рэжысёры. Вось толькі калі гартаеш газеты таго часу, на памяць прыходзяць словы знакамітага французскага пісьменніка і грамадскага дзеяча Рамэна Ралана: “Самых добрых і самых дрэнных акцёраў мы бачым зусім не на сцэне”…

Рэфлексія

# Яшчэ раз пра культуру



Людміла САЯНКОВА

Ведаю дакладна, што ў некаторых людзей само слова “культура” выклікае ідыясінкразію. Гэта нават адбываецца ў такім асяроддзі, дзе гэтага ну ніяк не павінна быць — сярод гуманітарыяў, вучоных. Большая частка непаразуменняў бывае ад недакладнасці ўсведамлення сэнсу таго ці іншага слова. Слова “культура” ў нашай айчыннай свядомасці часцей за ўсё асацыіруецца са словам “мастацтва”. Мастацтва (зноў-такі ў нашым айчынным асяроддзі) большай часткі гуманітарыяў (не кажучы пра іншых) прадстаўляецца як штосьці вялікае, непазнавальнае, невядомае. А невядомае заўсёды выклікае пэўную насцярожанасць і нават раздражнёнасць. Дастаткова ўспомніць, як у наша жыццё ўваходзілі камп’ютары…

Ва ўсім свеце слова “культура” азначае ўвогуле жыццё чалавека з пэўнымі яскраснымі характарыстыкамі. Сярод гэтых характарыстык знаходзіцца месца і маралі, і этыцы, і адукаванасці, і, паразуменне таго ж самага мастацтва. Нікога гэта не раздражняе і не бянтэжыць. Таму і рыхтуюць спецыялістаў, напрыклад, па камунікацыі і культуры, па эканоміцы і культуры, па сувязях з грамадскасцю і культуры. Культура самым непасрэдным чынам датычыць усяго, чым займаецца чалавек. Некалькі гадоў таму ў Амерыцы па-сапраўднаму здзівілася, калі даведалася, што ў знакамітым Гарвардзе фізікам выкладаюць гісторыю старажытнарускага іканапісу. На пытанне “Дзеля чаго?” пачула: “Дзеля культуры”. Гарвардскія выкладчыкі ўдакладнілі: “Амерыка — краіна цывілізацыі, а не духоўнай культуры. Калі свет будзе рухацца толькі ў бок цывілізацыі, не дбаючы пра культуру, то гэта пагражае небяспекай”. Таму іх фізікі будуць рабіць усё, каб не адбылося амерыканскага Чарнобыля, тыя, хто робіць вопратку, — усё, каб гэтая вопратка насілася і была даспадобы, будаўнікі — працаваць так, каб будынкі былі па-сапраўднаму прыладжаныя для жыцця чалавека, а сантэхнікі — рабіць так, каб праз тыдзень-другі іх не выклікалі зноў.

Каму ж не помняцца бясконцыя нервовыя адысеі з нашымі сантэхнікамі?! Здаецца, што гэтыя сантэхнічныя прыгоды, наканаваныя амаль кожнаму з нас, не маюць канца. Сёе-тое ўдасканаленне ў гэтым відзе абслугоўвання ўсё ж адбылося, але атрымалася зноў “як заўсёды”. На мой званок у домакіраўніцтва там спакойна адказалі: у сантэхнікаў шмат працы, а таму можаце не дачакацца. Калі праз некалькі дзён сантэхнік усё ж такі паказаўся у кватэры, з парога, не падыходзячы і блізка да аварыйнага месца, адразу заявіў, што ён нічым не можа дапамагчы, што гэта не рамантуецца і трэба ўсё мяняць нанова, не ведаючы, што толькі некалькі месяцаў таму быў капітальны рамонт. Нічога так і не зрабіўшы, “майстар” папрасіў распісацца ў паперы, што ён “правёў кансультацыю”. За гэтую “кансультацыю” атрымаю лічбавае пацвярджэнне ў жыроўцы.

Пры чым тут культура? Ні пры чым, калі чалавечы сэнс на кожнай ступені адсутнічае: у тых, хто выпускае няякасныя рэчы, хто іх прадае, хто потым абавязаны іх адрамантаваць, хто, нарэшце, збірае грошы ні за што. Гэты сэнс адсутнічае у тых, хто паставіў будынак для тых, хто павінен у ім вучыцца, не падумаўшы пра тое, каб там была элементарная вентыляцыя, і у тых, хто спраектаваў гэты будынак з такіх матэрыялаў, што ўзімку не ўседзець ад холаду, а ўлетку — ад спякоты. І гэта для людзей, якія павінны праводзіць там не адну гадзіну і не ў колькасці 10—15 чалавек. А ў невялічкіх скверыках нават прыбіральні можна пабачыць з натуральнага дабраякаснага дрэва.

Не трэба быць эканамістам, каб заўважыць, што страты адбываюцца значна большыя, чым у грашовым эквіваленце. За гэтым стаяць пачуцці, самаадчуванне, здароўе. Але каго кранаюць сёння пачуцці і самаадчуванне чалавека? Гэта дробязь. У сацыяльным, эканамічным, можа нават у сусветным вымярэнні. А ў культурным вымярэнні гэта самая што ні ёсць сур’ёзная рэч. Пра гэта казалі калісьці вельмі разумныя людзі: “Культура прадстаўляе сабою душу, кроў, лімфу, сутнасць цывілізацыі; у параўнанні з ёю эканамічны і тым больш палітычны планы прадстаўляюцца штучнымі, нясутнаснымі, звычайнымі стварэннямі...” (англійскі гісторык і філосаф Арнольд Тойнбі).

Эпоха 1910 — 1950 гг. у асвятленні Коласа-публіцыста

# У гады выпрабаванняў на грамадзянскую мужнасць

Міхась МУШЫНСКІ,
доктар філалагічных навук

**Трыццатыя гады прынеслі Коласу як публіцысту новыя сур'ёзныя выпрабаванні на сілу духу, на здольнасць абараняць высокія гуманістычныя ідэалы і маральныя прынцыпы. Так, на пачатку дзесяцігоддзя адбылося значнае пагаршэнне грамадска-палітычнага клімату ў Беларусі, звязанае з арыштам ДПУ БССР вялікай групы вядомых дзеячаў навукі, культуры, мастацтва, пісьменнікаў па сфабрыкаванай справе контррэвалюцыйнай нацыянал-дэмакратычнай арганізацыі "Саюз вызвалення Беларусі" (насамрэч такога аб'яднання не існавала).**



Лік арыштаваных да канца 1930 г. дасягнуў 108 чалавек. Паводле версіі ДПУ, у склад кіраўніцтва СВБ уваходзілі Янка Купала, Якуб Колас. Якуба Коласа пачалі выклікаць у ДПУ. Так, 16 лістапада ён дае пісьмовыя паказанні, у якіх рашуча абвяргае прад'яўленыя яму абвінавачванні ў прыналежнасці да "кіруючага цэнтра" нацыянал-дэмакратычнай контррэвалюцыйнай арганізацыі, дзе ён, нібыта, з'яўляецца яе "ідэолагам". Выказвае катэгарычны пратэст супраць прыведзеных у абвінавачванні сцвярджэнняў як цалкам галаслоўных, хлусlівых, не абгрунтаваных фактамі. Але абвяржэнні паэта не задаволілі прадстаўнікоў усемагутнага ведамства. І літаральна праз некалькі дзён, 20 лістапада, Канстанцін Міхайлавіч быў вымушаны напісаць новую "Заяву… у ДПУ БССР", блізкую па змесце да першых "Паказанняў…", але болей разгорнутую і самакрытычную.

Каб глыбей адчуць трагізм становішча, у якім аказаўся народны паэт, зразумець, што яго пісьмовыя сведчанні былі зробленыя пад пагрозай аказацца сярод арыштаваных "контррэвалюцыянераў" і падзяліць іх лёс, трэба ведаць, што паказанням ад 16 лістапада, заяве ў ДПУ ад 20 лістапада папярэднічала пасяджэнне Палітбюро ЦК ВКП(б) ад 15 кастрычніка, дзе разглядалася пытанне па справе "Саюза вызвалення Беларусі" і дзе сярод іншых рашэнняў была зацверджаная наступная пастанова камісіі: "Поручить Бюро ЦК КП(б)Б добиться выступлений ряда беспартийных интеллигентов-националов с осуждением взглядов и деятельности арестованных по делу "СВБ" <…> Выписки посланы: тт. Гею, Постышеву <…>". Пастанова выйшла за подпісам сакратара ЦК І. Сталіна. Рэспубліканскае партыйнае кіраўніцтва абавязана было неадкладна ажыццявіць гэтае рашэнне. Альтэрнатывы ў такіх пытаннях не існавала. І беларускае ЦК аператыўна прыняло пастанову да няўхільнага выканання. У чарнавым пратакольным запісе закрытага пасяджэння Бюро ЦК КП(б)Б ад 21 лістапада 1930 г. ["Особая папка. Секретно. В протокол не включать"] зафіксавана: "Считать необходимым добиться выступления Я. Купалы, Я. Коласа, Зарецкого и др. с резким осужд[ением] контрревол[юционной] деятельности арестованных по делу СВБ и с осуждением тех своих произведений, которые служили нацдем[овской] контрреволюции".

"Неабходныя меры" былі "прынятыя": 30 лістапада Якуб Колас падпісвае адкрыты ліст "Супраць «адраджэнцаў» буржуазнай Беларусі", надрукаваны ў газеце "Звязда" (3 снежня 1930 г.) і ў часопісе "Камуністычнае выхаванне" (1930, № 12). У пакаянным "Лісце" паэт гаворыць пра праявы нацдэмаўскай ідэалогіі ў дзейнасці навуковых устаноў, органаў друку, крытычна ацэньвае ўласную творчую практыку. Па сутнасці, тут паўтараецца той жа набор клішыраваных фармулёвак, якія фігуравалі і ў папярэдніх паказаннях. Але чытацкую ўвагу павінны прыцягнуць заключныя выказванні ў наступным фрагменце: "Адарваны ад жывых крыніц пралетарскіх мас, замкнёны ў цесным крузе нацыянал-дэмакратычнай інтэлігенцыі і атручаны нацыянал-дэмакратычным дурманам, я папрымірэнцку і апартуністычна адносіўся да ўсіх яго праяў, ні разу не выступіўшы супраць іх ні вусна, ні ў друку, ні ў парадку

> *Якім моцным быў псіхалагічны прэсінг на Якуба Коласа, як і на іншых дзеячаў, што пазбеглі арышту па справе СВБ, можна меркаваць па наступным факце: 6 снежня Колас піша чарговыя, трэція па ліку, "Паказанні ў ДПУ". Выходзіць, што пакаяннага ліста, апублікаванага 3-га снежня, было недастаткова? ДПУ патрабавала новых, дадатковых доказаў.*

пралетарскай самакрытыкі". Калі пісьменнік публічна гаворыць пра тое, што ён ніколі не ганьбіў людзей, якіх прадстаўнікі карных органаў адвольна залічылі да беларускіх нацдэмаў, гэта можа азначаць толькі адно: усё, што будзе надалей апублікавана пад яго прозвішчам, не адпавядае палітычным перакананням, светапогляду пісьменніка, а надрукавана пад прымусам.

Якім моцным быў псіхалагічны прэсінг на Якуба Коласа, як і на іншых дзеячаў, што пазбеглі арышту па справе СВБ, можна меркаваць па наступным факце: 6 снежня Колас піша чарговыя, трэція па ліку, "Паказанні ў ДПУ". Выходзіць, што пакаяннага ліста, апублікаванага 3-га снежня, было недастаткова? ДПУ патрабавала новых, дадатковых доказаў. Доказаў чаго? Больш рашучага асуджэння контррэвалюцыянераў і выкрыцця іх шкоднай дзейнасці? Фактычна з народнага паэта дэманстратыўна здзекаваліся, імкнучыся паралізаваць яго волю, зламаць маральна. Можна ўявіць сабе, у якім стрэсавым стане знаходзіўся Канстанцін Міхайлавіч увесь той час, калі трэба было тэрмінова рыхтаваць чарговае паказанне ў пісьмовай форме, не забываючыся пры гэтым і пра творчую працу. Зусім заканамерна, што за другую палову 1930 г., асабліва трагічную, з-пад пяра Коласа выйшлі адзінкавыя мастацкія творы — некалькі раздзелаў аповесці "Адшчапенец" і вершы "Піянерам", "Іскры Ільіча", "Чырвонаармейцы". Тэматыка вершаў гаворыць сама за сябе.

І публіцыстычныя выступленні гэтай пары таксама аказаліся няроўныя ў змястоўным плане. Цікавыя матэрыялы суседнічаюць з аднадзённымі газетнымі водгукамі, якія не пакідаюць глыбокага следу ў душы чытача. Гэтым матэрыялам бракуе перш за ўсё праблемнасці, вастрыні ў пастаноўцы актуальных пытанняў грамадскага жыцця, такіх, як дзяржаўнае будаўніцтва, калектывізацыя, узаемаадносіны горада і вёскі, стасункі рабочага класа і інтэлігенцыі і г. д. Таму не трэба здзіўляцца, што паводле свайго зместу і пафасу многія публікацыі Якуба Коласа былі сугучныя афіцыйнаму кірунку. Так, у артыкуле "З поваду рэформы беларускага правапісу" (1933) ён абапіраецца на тэкст урадавай пастановы, дзе неабходнасць унясення змен у тагачасны правапіс непасрэдна звязваецца з барацьбой супраць нацыянал-дэмакратызму, які, нібыта, імкнуўся "ўсімі мерамі і спосабамі адарваць беларускую літаратурную мову ад мовы шырокіх беларускіх працоўных мас, стварыўшы штучны бар'ер паміж беларускай і рускай мовай і засмечваў беларускую мову рознымі сярэдневяковымі архаізмамі і буржуазнымі вульгарызмамі".

Што датычыць многіх артыкулаў другой паловы 1930-х гг., дык яны ўяўляюць сабой форму прапаганды дасягненняў беларускага народа ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі — у прамысловасці, калгасным будаўніцтве, у сферы культуры, асветы і г. д. Зрэшты, назвы газетных публікацый выразна характарызуюць іх змест, ідэйную скіраванасць і аптымістычнае гучанне: "На ўздыме", "Вялікія грандыёзныя задачы", "Паэма нашай эпохі", "Страна", "Магутная савецкая рэчаіснасць жывіць нашы мыслі і нашы пачуцці".

На змест артыкулаў і выступленняў Коласа негатыўна ўплывала неабходнасць дэманстраваць падтрымку "генеральнай лініі нашай партыі", куды, незалежна ад тэмы публікацыі, уваходзілі заклікі бязлітасна змагацца з класавым ворагам і выкрываць палітычных апазіцыянераў. У 1935 г. такім ворагам была зіноўеўская апазіцыя, у 1937-м — удзельнікі т. зв. "паралельнага трацкісцкага цэнтра" і "шпіёны і дыверсанты", якія дзейнічалі на карысць замежнай ваеннай разведкі, у 1938-м — "праватрацкісцкі антысавецкі блок". Зусім відавочна, што водгукі на палітычныя працэсы — гэта вынік маральнага ціску на пісьменніка, які аказаўся сведкам масавага пераследу і фізічнага вынішчэння не толькі палітычных дзеячаў краіны, выдатных военачальнікаў, але і значнай часткі беларускага пісьменніцкага згуртавання, многіх славутых айчынных вучоных, дзеячаў культуры і мастацтва. Нашы сучаснікі не маюць маральнага права кідаць папрок, а тым болей асуджаць народнага паэта за тыя ўступкі, якія ён вымушаны быў рабіць, друкуючы "пакаянныя лісты" і "выкрывальніцкія" водгукі ва ўмовах таталітарнай сістэмы, таталітарнага праўлення.

Безумоўна, сярод публіцыстычных матэрыялаў Коласа перыяду 30-х гг. ёсць публікацыі, на якіх не так істотна адбіліся тагачасныя ідэалагічныя ўстаноўкі. Гэтыя выступленні, хоць іх не так і багата, можна залічыць у творчы актыў пісьменніка. Напрыклад, у артыкуле "Мабілізаваць масы" (1933), дзе

> *На змест артыкулаў і выступленняў Коласа негатыўна ўплывала неабходнасць дэманстраваць падтрымку "генеральнай лініі нашай партыі", куды, незалежна ад тэмы публікацыі, уваходзілі заклікі бязлітасна змагацца з класавым ворагам і выкрываць палітычных апазіцыянераў.*

акрэсліваюцца задачы, што стаяць перад вучонымі Беларускай акадэміі навук, яе віцэ-прэзідэнтам своечасова была звернута ўвага грамадскасці на непажаданыя, нават небяспечныя праявы недаацэнкі ролі Акадэміі з боку афіцыйных структур. "На жаль, не ўсе яшчэ, нават і адказныя работнікі некаторых наркаматаў, усвядомілі значэнне Беларускай Акадэміі Навук, як вышэйшага рэспубліканскага цэнтру навукі, і не ўсе яны прадстаўляюць сабе аб'ём яе здабыткаў і дасягненняў, што вядзе да недаацэнкі акадэміі, як такой". Сэнс публічнага выступлення ў абарону высокага статусу Акадэміі быў у тым, што "адказныя работнікі" органаў улады глядзелі на Акадэмію як на ўстанову, закліканую вырашаць прыкладныя задачы, а неабходнасць распрацоўкі фундаментальных праблем недаацэньвалася. У супрацьлегласць такім спрошчаным, вузкаведамасным падыходам Якуб Колас, не ігнаруючы "патрэбаў вытворчасці", ставіць акцэнт на неабходнасці трывалай каардынацыі з "іншымі важнейшымі цэнтрамі пралетарскай навукі", на неабходнасці клапаціцца пра падрыхтоўку спецыялістаў высокага ўзроўню.

І некаторыя іншыя артыкулы гэтых гадоў прыцягваюць чытацкую ўвагу сваёй змястоўнасцю. Так, у 1938 г. на старонках газеты "Советская Белоруссия" публіцыст выступае з востра праблемным артыкулам "Заброшенный участок" — пра нездавальняючыя ўмовы захавання дакументаў, якія маюць вялікую гістарычную каштоўнасць і навуковае значэнне для нашчадкаў, для аб'ектыўнага асвятлення мінулага. Колас валодаў здольнасцю шырока глядзець на свет, думаць пра будучыню, пра заўтрашні дзень рэспублікі, яе культуру, навуку. І ў яго клопатах удала спалучаліся інтарэсы мастака і вучонага. У той жа час разважанні аўтара пазбаўленыя адцягненасці, няпэўнасці, яны носяць канкрэтны характар. "Як жа захоўваюцца гэтыя дакументы? Ці шмат зроблена для таго, каб клапатліва і беражліва перадаць іх у фонд гісторыі?" І тут пісьменнік прад'явіў сур'ёзныя патрабаванні дзяржаўным установам, якія абавязаныя прафесійна займацца ўлікам, разборам, захаваннем архіўных матэрыялаў. Але са сваімі абавязкамі ўстановы гэтыя не спраўляюцца, у выніку чаго каштоўныя архіўныя дакументы "знішчаюцца, знікаюць і трапляюць не па сваім прызначэнні".

Як бачна з выкладзенага, мы маем тут справу з дзяржаўным падыходам Якуба Коласа да сур'ёзнай праблемы. І ў складаных умовах грамадска-палітычнага жыцця, у атмасферы ўзаемнага недаверу, падазронасці, пераследу мастацкай, навуковай інтэлігенцыі пісьменнік-патрыёт шукаў і знаходзіў магчымасць выказацца па актуальных пытаннях часу.

***Здымак прадстаўлены Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа.***

Эла САРКІСАВА,
прафесар акадэміі МУС Рэспублікі Беларусь,
заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь

# Падмурак чалавечнасці

**Гэты год адзначаны для гісторыка, выкладчыка, пісьменніка Мікалая Ільінскага не толькі выхадам новай, заключнай у трылогіі “Апошняя ладдзя вікінгаў” кнігі, але і юбілеем. 2 кастрычніка яму споўнілася 80 гадоў.**

**Мікалай Ільынскі. Трылогія “Последняя ладья викингов” (“Последняя ладья викингов”, “Братья по крови”, “Воины-хранители”). — Мінск: Современная школа, 2011.**

Вось і перагарнулася апошняя старонка нядаўна выдадзенай трылогіі М. Ільынскага, якая пераносіць чытача ў даволі аддалены ад нашых дзён час — эпоху станаўлення рускай дзяржаўнасці (XI — пачатак XII стст.). Пасля прачытанага застаецца, вядома, шкадаванне, што з героямі кнігі прыйшла пара развітацца, што разам з імі перажытыя ўжо ўсе падзеі, якія адбываліся ў тую даўнюю эпоху і якія так яскрава апісаў аўтар. Уражвае дар пісьменніка, здольнага рэалістычна ўзнавіць вельмі няпростую гісторыю, стварыць вобразы герояў, якім паверыць і якіх палюбіць чытач.



Чым прываблівае гэты твор? Праўдзівасцю ў аповедзе і ацэнцы гістарычных падзей, любоўю да чалавека і свайго народа, гонарам за яго, непрымірымасцю да любога гвалту і, найперш, да войнаў, якія, на жаль, не сунімаюцца і сёння.

Героямі раманаў М. Ільынскага сталі вялікі князь Кіеўскай Русі Яраслаў Мудры, яго браты, сыны Уладзімір, Ізяслаў, Святаслаў, Усевалад, Вячаслаў, Ігар, тры яговыя дачкі — Лізавета, Ганна, Анастасія, а таксама добра вядомыя гісторыкам кіеўскія ваяводы Вышата і Тварымірыч, першы епіскап Іларыён, летапісцы Нікан і Нестар. Побач з імі жылі, тварылі, гандлявалі, ваявалі Георгій, што ў свой час стаў паслом Кіева ў краінах Заходняй Еўропы, Скандынавіі, Візантыі; Ярамір і Радаслаў — храбрыя воіны, патомныя баяры, што не толькі аддана служылі сваім князям, але і гарнуліся да простых людзей, захавалі дабрыню, міласэрнасць, цвярозае разуменне рэчаіснасці.

Усе яны становяцца ўдзельнікамі шэрагу падзей, звязаных спачатку з войнамі, а пасля і сяброўскімі стасункамі са скандынаўскімі дзяржавамі, з бітвамі супраць Візантыі, са шматлікімі міжусобіцамі князёў, што кіравалі Кіеўскім, Полацкім, Чарнігаўскім, Наўгародскім і іншымі княствамі.

Раманы М. Ільынскага зноў выклікаюць шчырую цікавасць да спасціжэння гісторыі славянскіх дзяржаў, іх культуры, рэлігіі, прымушаюць па-новаму, з сённяшніх пазіцый, ацэньваць падзеі сівой даўніны. Ужо тады нашы продкі, клапоцячыся пра захаванне сваёй ідэнтычнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці, прыкладалі неверагодныя намаганні, каб аб'яднаць разрозненыя княствы ў адну магутную дзяржаву. І як страшна, што адбывалася гэта за кошт жыццяў шматлікіх простых людзей, якія гінулі ў пастаянных крывавых міжусобіцах князёў — крэўных родзічаў, хаця ў рэшце рэшт самі князі няўхільна прыходзілі да высновы: неабходна шукаць іншыя — мірныя! — шляхі.

М. Ільынскі сваім новым творам нагадаў нам, колькі ж беларускаму, рускаму, украінскаму народам давялося вынесці, вытрываць, каб стаць такімі, якія яны сёння. Ці ж патрэбны якія-небудзь недагаворванні цяпер у адносінах між нашымі дзяржавамі, выгадаванымі ў агульнай славянскай сям'і?

У кнізе ярка паказана ўсё лепшае, што складае падмурак чалавечнасці: сяброўства, каханне, узаемадапамога, вернасць. Нягледзячы на тое, што галоўныя героі кнігі, як цяпер кажуць, прытрымліваюцца розных палітычных поглядаў, яны разумеюць бессэнсоўнасць людской варожасці, праз якую праліваецца мора нявіннай крыві. Яны сябруюць, падтрымліваюць адзін аднаго і па-свойму шчаслівыя ў вельмі няпростых і нават небяспечных жыццёвых варунках.

Не абышоў сваёй увагай аўтар культурную і рэлігійную лініі. Насуперак хаосу міжусобіц, развіваліся культура, асвета, права. Менавіта на той час прыпадае стварэнне цудоўных матэрыяльных (Кіева-Пячэрская лаўра, Сафійскія саборы ў Кіеве, Полацку, Ноўгарадзе) і духоўных (летапісы, “Руская праўда”) помнікаў.

Кніга, названая выдаўцамі “гістарычным вострасюжэтным раманам”, напісана багатай мастацкай мовай, чытаецца лёгка і захапляльна. Лёсы галоўных герояў пераплятаюцца з рэальнымі гістарычнымі падзеямі, якім М. Ільынскі, доктар гістарычных навук, прафесар, дае навукова дасканалую і аб'ектыўную ацэнку.

Але не забудземся яшчэ і пра тое, што аўтар — тонкі лірык. У яго скарбонцы зборнікі ўзнёслых вершаў, паэмы. І гэты бок ягонай творчасці не мог не выявіцца ў рамане. Уласныя вершы ён укладае ў вусны сваіх персанажаў, напрыклад, прызнанне ў каханні будучага нарвежскага караля Харальда Хардрода да Лізаветы, песні і быліны пра рускіх багатыроў.

А як выразна і дасканала аўтар апісвае прыроду! Хочацца бясконца перачытваць наступныя радкі: “Вечарэла. Сонца, ужо не пякучае, хутка апускалася за лес. Чырвонае пер'е высокіх напалову празрыстых воблакаў таяла на цёмна-сінім фоне неба, цішыня ўкладвалася на начлег у чырвонай і жоўтай лістоце маўклівых бяроз і клёнаў, і толькі асіны ад найменшага раптоўнага подыху задуменнага ветрыку, што пралятаў сабе міма, слаба трапяталі сваімі закругленымі лістамі, падобнымі да манет”. Або: “Ярка-пунсовая зара, памыўшыся ў рацэ, вывела з-за зубчастага краю лясного гарызонта сонца, якое толькі што прачнулася, і яно рассыпала па хвалях шырокай ракі залатыя зліткі.” Аўтар добра адчувае душу жывой прыроды: лесу, сонца, неба, ракі, мора — і ашчадна перадае яе нам, чытачам.

Пра новы твор М. Ільынскага пісаць і гаварыць можна яшчэ вельмі шмат. Ён мае эпічны, маштабны характар, і кожны чытач, палітык ці вучоны, гісторык або юрыст, дыпламат або рэлігійны дзеяч, знойдзе ў ім шмат карыснага для сябе. З кнігай варта пазнаёміцца і нашай моладзі, асабліва школьнікам, якія ўпершыню дакрануліся да гістарычных вех. У ёй яны знойдуць жывы матэрыял, якога так нестае ў сухіх тэкстах падручнікаў.

*“Кніга, названая выдаўцамі “гістарычным вострасюжэтным раманам”, напісана багатай мастацкай мовай, чытаецца лёгка і захапляльна. Лёсы галоўных герояў пераплятаюцца з рэальнымі гістарычнымі падзеямі, якім М. Ільынскі, доктар гістарычных навук, прафесар, дае навукова дасканалую і аб'ектыўную ацэнку.*

## Рэдактарскае

# Амаль сапраўднае

Андрэй ФЕДАРЭНКА



Часта атрымліваю па электроннай пошце творы на рускай мове. Адпісваю: “ЛіМ”, як вядома, — газета на беларускай мове.

— Ды вы толькі пачытайце! А там я ўміг пералапачу на родную матчыну мову!

Калі ласка. Возьмем ні многа ні мала — з дзясятак апавяданняў. Пісалі іх людзі маладыя і, можа, менавіта таму гэтыя апавяданні атрымаліся нейкія аднастайныя, падобныя і думкамі, і стылем, і нават граматычнымі памылкамі (“прорецатель”, “апплодировали”, “ужастно”, “интерестно”...). Нібыта выйшла ўсё з-пад пяра аднаго й таго ж чалавека, які пазірае на жывы свет праз мутную шыбіну з зімы не адчынянага вакна і метадычна і манатонна апісвае тое, што бачыць.

Любое сцвярджэнне патрабуе доказаў. Вось пачатак аднаго апавядання:

“Зеркало в тёмной деревянной раме. Где я? Там? Или тут? Или я совершенно в другом месте?”

Пачатак другога:

“Странно. Он **не когда** не задумывался над тем, а что там”.

І трэцяга:

“Когда Ты будешь уходить отсюда, забери меня с собой, я не хочу оставаться здесь один. Мне страшно. Мне скучно и жутко”.

І чацвёртага (першыя сказы, не забудзем):

“Если что-то ещё есть, то это происходит не с нами. Они не видят нас, они не знают о наших мыслях”...

І пятага, і шостага; а вось дыялогі з сёмага (размова хлопчыка-падлетка са сваёй каханай):

“— Что ты делаешь? — спросила она.
— Рисую. Собаку.
— Какую?
— Летящую.
— Куда она летит?
— В облака, к воронам.
— Зачем ей вороны?
— Ей нужно чёрное перо.
— Зачем?
— Чтобы вставить его за ухо”.

І восьмага (размова дзяўчыны з каханым хлопцам):

“ — Олег!
— Да?
— Они синие. Как птицы.
— Кто?
— Не кто, а что. Апельсины...”

А вось пачатак дзявятага, на якім хацелася б трошкі прыпыніцца:

“Блики улыбающихся глаз Её в замочную скважину памяти. Она сидела на скамейке, держа в руке холодную льдинку моего сердца, мою мечту, растерзанную на гильотине недоверия и неопределённости. Между пальцев струились нежные лепестки крови, прокалывали морозный воздух своими пиками и оставались лежать, разбитые вдребезги, на груди земли”, — і далей на шмат старонак падобная мазаіка калейдаскопа, карункі слоў, з якіх, тым не менш, не атрымліваецца ўзору. У нашым выпадку — не атрымліваецца мастацкага вобраза. Гільяціна не “терзает”, не “растёрзывает” — яе акт імгненны; што да наступнага сказа, дык тут проста разводзіш рукамі: тое, што “струилось”, аказваецца, можа быць вострым і праколваць, пасля чаго разбівацца “вдребезги”...

Усе творы такога кшталту можна друкаваць, можна не друкаваць, знешне ўсё ў іх адносна роўна, гладка і падобна да сапраўднага — падабенствам васковага муляжа яблыка на ўроку батанікі да жывога, крамянага, з прыліплым лістом плода “белага наліву”.

# Як само жыццё...

Кацярына ДУДАРЧЫК

***Ірына Тулупава. Шчасце на парозе тваім: проза. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 171 с.***

У сваёй кнізе Ірына Тулупава малюе свет жанчыны, стварае вобразы гераінь зусім не ідэальных, але, нягледзячы ні на што, вельмі абаяльных, цікавых, “жывых”. Жанчыны ў яе творах нібыта самыя звычайныя нашы сучасніцы, якія хочуць паспець вырашыць тысячы працоўных пытанняў і разам з тым не згубіць сябе. Яны мараць пра каханне ці, наадварот, калі яно само нечакана іх знаходзіць, спрабуюць рашыцца даць волю пачуццям, адкінуўшы старую звычку адзіноты, як, напрыклад, у пяшчотным і шчымлівым апавяданні “Баклажанныя прысмакі”. Пісьменніца беражліва і з вялікай любоўю вывучае жаночую сутнасць, дае магчымасць чытачу зазірнуць у душу жанчыны, але пры гэтым яе проза пакідае загадкавае адчуванне таямніцы, недасказанасці. Што прыемна, Ірына Тулупава шмат увагі надае дэталям, такім, як няспелыя яблыкі ці ранішнія росы ў “Галавасціку” і “Алевядзьмарцы”, штрыхам, выразна малюе каляровымі мазкамі, якія застаюцца ў сэрцы назаўсёды.

Кожны твор у кнізе “Шчасце на парозе тваім”, як само жыццё, — неадназначны, у ім дабрыня, каханне, спагадлівасць, чысціня суседнічаюць з людскім непаразуменнем, злосцю, зайздрасцю. Гэтая супярэчлівасць выразна адлюстраваная ў апавяданні “Агат”, дзе з хваравітай рэакцыі эгаізму выцякае цалкам дзікая сітуацыя ў адносінах і да чалавека, і да жывёлы. Узаемаадносіны галоўных гераінь з асяроддзем наогул не напоўненыя лёгкасцю і пераможным пазітывам. Часта аўтар прапануе сваім героям дзейнічаць у абставінах, якія патрабуюць сілы духу і ўмення дараваць, паглядзець на жыццё з іншага боку, рабіць сваю справу, не звяртаючы ўвагі на саперніцтва і правакацыі (“Акварыумістыка”). Персанажы ў кнізе беспераппынна робяць выбар, адны глядзяць на жыццё мудра і разважліва, другія дзейнічаюць спантанна і з задорам, як, напрыклад, у “Карце-схеме”.

“Шчасце на парозе тваім” змяшчае адзінаццаць апавяданняў і міні-аповесць, якія прыйдуцца даспадобы ўсім, хто любіць жаночую прозу, адчувае сучаснасць і разумее, што не кожны твор абавязкова павінен заканчвацца “хэпіэндам”. Таму што Ірына Тулупава піша пра жыццё. А яно бывае рознае.



Кастусь Жук

# Чорны Анёл

## *Чарнобыльскі пастскрыптум*

### Паэма

Міколу Мятліцкаму

*Думку ўзважваю:*
*“Хто ты такі?” —*
*І не ўцямваю,*
*Хто ты ёсць:*
*Паміраюць здаравякі,*
*Адчуваючы*
*Немач і млосць...*

*Разганяю*
*Кашмары сноў*
*І пытаюся*
*Ўдумна зноў:*
*“Як*
*Акрыць мог ты*
*Чорным крылом*
*Белы край мой,*
*Мой родны дом?!”*

*Нашы ж прашчуры*
*Нараклі*
*Светлым імем*
*Набожны край.*
*Баранілі яго,*
*Як маглі.*
*Праслаўлялі яго,*
*Як рай.*

*Туманамі*
*Бялеў густалес.*
*Белапеніўся*
*Бэз веснавы*
*І над росамі,*
*Белымі спрэс,*
*Рай віталі*
*Буслы, журавы...*

*“Гэта праўда!” —*
*Мне скажа той,*
*Хто карміў*
*З ручанят галубоў,*
*Хто адчуў*
*Над сваёй галавой*
*Чорнай набрыдзі*
*Чорны боль...*

*“Гэта праўда!” —*
*Пацвердзіць жаўна, —*
*Навасёл для яе ўжо*
*Не друг:*
*Паспрачацца*
*Не зможа яна*
*Ў стуку з тым,*
*Хто рабіў*
*Новы зруб...*

*“Гэта праўда!” —*
*Зазначыць бур’ян, —*
*Учарнелы*
*Ля чорных хацін,*
*Што забыліся*
*На пасялян*
*З тых яшчэ,*
*Чорным-чорных часін...*

*Змрок над Бабчынам,*
*Змрок верставы —*
*На акрузі,*
*Ваду і клады...*
*Нават*
*Покліч жыцця веснавы*
*Не рассмужыць*
*Бяды той сляды.*

*Монстрам чорным*
*Бяда-злыбяда.*
*І нічога ўзамен:*
*Гол-сакол.*
*Што забраў —*
*Мне назад аддай,*
*Крыважэрна-чорны анёл.*

*На кладах,*
*Дзе сляды небыцця,*
*Хай забродзяць*
*Крокі жывых,*
*Каб да мёртвых —*
*Не стыў прасцяг,*
*Вёў ды вёў*
*Да магілаў святых.*

*Каб вачэла*
*Жыццё акон*
*У памерлых*
*Ад цэзію хат,*
*Смех праменіўся*
*Маладзён,*
*Ліўся светлы*
*Плач немаўлят.*

*І шыпелі ў кузнях*
*Мяхі,*
*Кавалі*
*Нарабляліся ўсмак.*
*І звінелі*
*Плугоў лемяхі,*
*Як жыцця*
*Светладайны знак.*

*Ды*
*(Паўсюдна!)*
*Чорны анёл*
*Зноў пачварыць,*
*Як спрут злыбяды.*
*У яго —*
*Шлях да вёсачак-сёл,*
*А яшчэ —*
*Спех хады ў гарады...*

*Супыніся,*
*Чарнобыльскі спрут,*
*На ахвяры ты й так —*
*Мастак:*
*Ты ўчарнеў*
*Ад людскіх пакут, —*
*Больш крыві*
*Ці асіліць гарляк?*

*Белы бусел*
*Не лётае больш*
*Над счарнелай*
*Ад болю зямлёй...*
*Можа,*
*Недзе — яшчэ і горш.*
*Наша ж, чорнае, — над галавой.*

*Не жартуем нідзе*
*З бядой.*
*І сядаем з гасцямі*
*За стол.*
*Чалавек для нас —*
*Не ізгой.*
*Не чапай нас,*
*Чорны анёл.*

*На вякі*
*Атруціў ты дол,*
*Дзе вырошчваўся*
*Хлеб*
*На праснак,*
*Дзе праснак меў*
*І матчын дом...*
*Сёння ж*
*Чорны праснак —*
*Не ў смак.*

*Ці сустрэне*
*Мой Бабчын гасцей?*
*Пачастуе калі*
*Праснаком,*
*Выдыхаючы*
*Стронцый з грудзей,*
*Удыхаючы*
*Цэзій цішком?*

*Не ад Бога ты,*
*Чорны анёл.*
*Я стакрат*
*Белабога малю:*
*“Дай ратунак*



*Фота Кастуся Дробава*

*Для вёсачак-сёл!*
*Я люблю іх.*
*Як Бабчын —*
*Люблю”.*

*Але й той*
*Заблудзіўся, знямог*
*Між балотных*
*Палескіх сцяжын...*
*Лес паможа табе,*
*Белабог.*
*Але й ты —*
*Пажамы, пажамы!*



Рагнед Малахоўскі

### Рэкі

Віталю Скалабану

*Калісьці і сонца*
*Ў сцюдзёных нябёсах астыне...*
*Ды сёння жыццё*
*Нам умовы дыктуе свае.*
*І рэкі ў нямы тагасвет*
*Накіроўваюць плыні...*
*Бяссонныя рэкі...*
*Ім сілы даўно нестае.*

*Адкуль тая сіла...*
*Яна, як стагоддзяў магіла.*
*Равуць па-над безданню-прорвай*
*Вятры-змагары.*
*Прымружыцца неба,*
*Што наша жыццё бараніла, —*
*І рэкі выкручваюць плыні*
*Ў крутыя віры.*

*Над прорваю — людзі,*
*Як дрэвы.*
*І пахне жывіцай.*
*І выкрыкне хтосьці ў пустэчу*
*Надрыўна:*
*“Жыві!”*
*А неба самотна і стомлена*
*Ў рэкі глядзіцца...*
*Блакітнае неба —*
*У рэкі блакітнай крыві.*

### Марыць, верыць, маліцца...

*Дастала вечная хлусня*
*У дзверы грукаць!*
*Калі настане цішыня,*
*Я стану слухаць.*

*У немаце грахоў крычу —*
*Быццё пажары.*
*Калі над хмарай узлячу,*
*То стану марыць.*

*Я прама ў вочы злой бядзе*
*Скажу намеры.*
*На верш слязінка упадзе, —*
*І стану верыць.*

*Памножу веру я ўдвая —*
*Ужо не рана.*
*Калі сустрэну праўду я, —*
*Маліцца стану.*

### Сцяжыны кахання

*Усмешка валошкі на жытнім узмежку*
*мяне не пазнала,*
*А поўня князёўнай плыла*
*па начным харастве.*
*Няспелыя словы кахання*
*спакусніца ў ноч прашаптала,*
*Калі мы ішлі басанож*
*па іскрыстай жарстве.*

*Апошняя песня заранкі*
*тужліва плыла ў паднябессі,*
*Мой сонны настрой*
*паглынуў развітальную ціш.*
*І я не пачую*
*маладосцю прапетае песні.*
*Чаму ты, заранка,*
*цяпер у самоце маўчыш?*

*Далёкае рэха апошніх радкоў*
*замірала за мною.*
*На вузкай мяжы*
*пад сузор’ем Надзеі стаім.*
*Як хочацца зноў на сцяжыне*
*спаткацца з табою,*
*Ды , мабыць, не лёс,*
*бо па сцежцы ідзеш ты з другім.*

*Не раз яснавокую поўню*
*мы ў квецені зорак сачылі,*
*І Нарачы люстра, як дзень*
*зіхацела ў вачах.*
*Паволі сляды*
*на сцяжыне кахання астылі,*
*І толькі заранка*
*самотна пяе па начах.*

# Дзіцячае чытанне ў маштабах краіны

Марына ВЕСЯЛУХА

**Не так даўно Нацыянальная бібліятэка Беларусі падрыхтавала выданне "Сучасны стан і тэндэнцыі развіцця дзіцячага чытання ў Рэспубліцы Беларусь: па выніках рэспубліканскага даследавання". У гэтай кнізе змешчаны падрабязны аналітычны матэрыял, атрыманы падчас даследавання дзіцячага чытання, што праводзілася ў краіне ў 2009 — 2010 гг. Пра адметнасці гэтай працы, а таксама высновы, да якіх прыйшлі спецыялісты Нацыянальнай бібліятэкі, — наша гутарка з метадыстам навукова-даследчага аддзела бібліятэказнаўства НББ Вольгай Гаўрыловіч.**



**— Вольга, якія мэты ставіліся перад пачаткам даследавання? На якія пытанні хацелі знайсці адказы ў выніку яго правядзення?**

— На сённяшні дзень зніжэнне інтарэсу да чытання з боку падрастаючага пакалення з'яўляецца агульнасусветнай тэндэнцыяй. Ува многіх краінах робяцца пэўныя спробы па вырашэнні гэтай праблемы — праз рэалізацыю дзяржаўнай палітыкі па развіцці чытання. У Беларусі ўжо праведзены шэраг праграм падобнага кшталту. У першую чаргу гэта прэзідэнцкая праграма "Дзеці Беларусі" 2006 — 2010 гг. і рэспубліканская праграма "Моладзь Беларусі" на 2006 — 2010 гг. Аднак пакуль яшчэ не прынята ніводнай дзяржаўнай праграмы па падтрымцы літаратуры і чытання, якая б дазволіла падысці да вырашэння гэтага пытання комплексна. Каб рашаць праблему, патрэбна яе дасканалае вывучэнне. Неабходна было фундаментальнае даследаванне дзіцячага чытання ў межах усёй краіны, вынікі якога дазволілі б высветліць асноўныя яго характарыстыкі. Гэта функцыянальнае прызначэнне чытання з боку дзяцей і падлеткаў, яго інтэнсіўнасць, рэгулярнасць, моўны дыяпазон, мэты і матывы, месца кнігі і чытання сярод аўдыёвізуальных каналаў атрымання інфармацыі і гд. Наяўнасць такіх звестак неабходна для больш мэтанакіраванай работы з дзіцячым насельніцтвам, ажыццяўлення бягучага і перспектыўнага планавання дзейнасці не толькі бібліятэк, але і іншых устаноў сферы культуры, навукі і адукацыі.

**— Хто прымаў удзел у даследаванні ў якасці рэспандэнтаў?**

— У цэлым было задзейнічана 5905 рэспандэнтаў з 64 населеных пунктаў: сталіцы, абласных і раённых цэнтраў, вёсак. Былі апытаны 2800 дзяцей ва ўзросце ад 7 да 15 гадоў, якія, у сваю чаргу, былі падзелены на дзве катэгорыі — дзеці малодшага (7 — 10 гадоў) і сярэдняга (11 — 15 гадоў) школьнага ўзросту. Акрамя таго, мы апыталі і бацькоў школьнікаў, таму што многія чытацкія прыхільнасці і звычкі фарміруюцца з маленства. Ну і, безумоўна, пры вывучэнні дзіцячага чытання нельга было пакінуць без увагі дзейнасць інстытутаў, якія складаюць інфраструктуру падтрымкі і развіцця чытання, — бібліятэк і школ.

**— Ад якіх фактараў залежыць выбар літаратуры для чытання?**

— Палова апытаных дзяцей у большасці выпадкаў выбірае літаратуру для чытання ў вольны час па жанравай скіраванасці. Акрамя таго, дзеці малодшага школьнага ўзросту перш за ўсё звяртаюць увагу на кнігі, якія прывабна афармлены, а падлеткі арыентуюцца на імя аўтара твора. Трэба сказаць, што больш як палова самых малодшых рэспандэнтаў галоўнымі памочнікамі ў выбары літаратуры лічаць бацькоў, а старэйшыя часцей за ўсё абапіраюцца на ўласны вопыт. Дарэчы, чытацкі інтарэс дзяцей накіраваны ў бок літаратуры забаўляльнага характару: прыярытэты прадстаўнікоў малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту аддаюцца творам прыгодніцкага жанру. Далей рэйтынгі адрозніваюцца: дзеці 7 — 10 гадоў аддаюць перавагу казкам і кнігам пра прыроду і жывёл, а ў тых, каму ад 11 да 15 гадоў, на другім месцы — фантастыка, на трэцім — творы пра каханне.

**— Чытанне "для сябе" адрозніваецца ад таго, што неабходна прачытаць па праграме?**

— Так. У ліку названых дзецьмі любімых аўтараў лідзіруючыя пазіцыі займаюць аўтары, чыю творчасць вывучаюць на працягу не аднаго, а некалькіх гадоў (А. Пушкін, М. Лермантаў, Л. Талстой, М. Гогаль), што ў выніку пакідае ў свядомасці падлетка ўстойлівую думку пра тое, што яму падабаецца або павінна падабацца. Што тычыцца беларускай літаратуры, то калі ў рэйтынгу кніг, якія чытаюць сучасныя падлеткі, беларускія аўтары ўваходзяць у першую дзясятку, то ў дзясятцы кніг, якія яны жадаюць чытаць на самой справе, гэтыя аўтары знаходзяцца далёка за межамі першай дзясяткі. У цэлым, доля беларускіх аўтараў у рэпертуары чытання падлеткаў складае каля 7 працэнтаў — і гэта толькі пісьменнікі, чыю творчасць вывучаюць у школе (Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч, Васіль Быкаў і іншыя). Наогул ніколі не звярталіся да твораў беларускай літаратуры, каб пачытаць яе ў вольны час, каля 37 працэнтаў падлеткаў, а 66 працэнтаў апытаных чытаюць іх толькі каб падрыхтавацца да ўрокаў.

**— Творы якіх аўтараў дзеці чытаюць "для сябе"?**

— Перш за ўсё я хачу адзначыць, што ўсяго рэспандэнтамі 7 — 10 гадоў было названа 453 любімыя творы, дзецьмі 11 — 15 гадоў— 701. І калі ў дзясятку любімых дзецьмі малодшага школьнага ўзросту ўвайшлі кнігі рускіх і замежных аўтараў, якія прэтэндуюць на званне класікаў дзіцячай літаратуры (Э. Успенская, М. Носава, В. Драгунская і А. Ліндгрэн), то рэйтынг папулярных кніг у падлеткаў узначальваюць прадстаўнікі сучасный, у большасці замежнай фантастыкі: Дж. Роўлінг, С. Маер, Б. Акунін. Вынікі даследавання пра тое, якія кнігі падлеткі жадалі б прачытаць, але не маюць магчымасці, пераконваюць у існаванні з'явы "масавага чытання": сучасныя школьнікі выбіраюць і мараць чытаць адны і тыя ж творы. Няспрэчна, нелагічна скардзіцца, бо гэта модна, папулярна, захапляльна. І ў дадзеным аспекце відавочнае існаванне праблемы прапаганды не толькі класічнай рускай літаратуры, але і беларускіх аўтараў.

**— Заўважаецца роля бібліятэкі ў фарміраванні чытацкай зацікаўленасці?**

— Вынікі даследавання дазваляюць сцвярджаць, што дзеці, якія наведваюць бібліятэку, чытаюць у паўтара раза болей, чым іх аднагодкі, якія не з'яўляюцца карыстальнікамі гэтай установы. Значным паказчыкам патрэбна лічыць і тое, што бібліятэка ўстойліва займае чацвёртае месца сярод кіраўнікоў дзіцячага чытання. У той жа час чым старэйшымі становяцца дзеці, тым менеей аўтарытэтным для іх з'яўляецца бацькоўскае слова, яшчэ меншым аўтарытэтам карыстаецца школа.

**— У цэлым, якія высновы можаце зрабіць з праведзенага даследавання?**

— У якасці асноўнага вываду была вызначана неабходнасць распрацоўкі дзяржаўнай праграмы па падтрымцы і развіцці чытання. Яе мерапрыемствы павінны дакладна адлюстраваць сістэму папулярызацыі чытання, якая будзе рэалізоўвацца пры дапамозе работы бібліятэк, устаноў адукацыі, выдавецтваў і кнігагандлёвых арганізацый, сродкаў масавай інфармацыі, кіна- і відэаіндустрыі. Сярод такіх мерапрыемстваў абавязкова павінны прысутнічаць акцыі, скіраваныя на прасоўванне лепшых прыкладаў літаратуры ў шырокія слаі насельніцтва, у тым ліку і дзіцячую аўдыторыю. Абавязкова патрэбна фарміраваць у грамадскай свядомасці ўяўленне пра каштоўнасць і значнасць чытання, ствараць станоўчыя і прывабныя вобразы чалавека, які чытае, а таксама літаратуры, бібліятэк, кнігагандлёвых арганізацый і іншых звязаных з чытаннем інстытутаў.

*З нагоды*

## З Багдановічам у ранцы

Марыя ГАЛУБЦОВА

**Да 120-годдзя з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча выдавецтва "Пачатковая школа" і Літаратурны музей Максіма Багдановіча пры падтрымцы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь праводзяць конкурс дзіцячага малюнка "Зорка Венера". Вучням школ, гімназій, ліцэяў і каледжаў прапанавана зрабіць ілюстрацыі да любімага верша Багдановіча.**

Галоўнымі мэтамі конкурсу з'яўляюцца раскрыццё літаратурных вобразаў Максіма Багдановіча праз сучаснае дзіцячае мастацтва і папулярызацыя творчай спадчыны паэта. Конкурсныя работы прымаюцца з 20 верасня па 20 лістапада. Да гэтага часу маладыя людзі ад сямі да сямнаццаці гадоў могуць рабіць малюнкі фармату А3 на паперы ці кардоне алеем, акварэллю, гуашшу, пастэллю, каляровымі алоўкамі ці то фламастарамі — арганізатары конкурсу ні ў чым не абмяжоўваюць. Усе работы будуць размешчаны на сайце **www.p-shkola.by**, на якім будзе праходзіць інтэрнэт-галасаванне. Яго пераможца атрымае прыз глядацкіх сімпатый. А пасля журы конкурсу вызначыць 30 фіналістаў, па 10 чалавек у трох узроставых катэгорыях: ад 7 да 9, ад 10 да 12 і ад 13 да 17 гадоў. У кожнай з іх будуць названы пераможцы ў намінацыі "Лепшы малюнак", у якой вызначаць лепшую тэхніку выканання, і "Лепшая ідэя", у якой вызначаць самага крэатыўнага мастака.

Усе ўдзельнікі конкурсу атрымаюць памятныя падарункі. Пераможцаў чакаюць дыпломы, а таксама салодкія прызы, кнігі М. Багдановіча і наборы фарбаў. Лепшыя работы будуць апублікаваны ў снежаньскіх нумарах часопісаў "Рюкзачок" і "Рюкзак" і размешчаны на сайтах выдавецтва "Пачатковая школа" і Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Дарэчы, гэты музей арганізуе выстаўку лепшых малюнкаў. Дваццатага снежня пройдзе ўрачыстая цырымонія адкрыцця выстаўкі, а таксама ўзнагароджанне пераможцаў.

## Беларускі «Прарок» у Ліване

Сяргей ЮР'ЕЎ

**Нядаўна РВУ "Літаратура і Мастацтва" атрымала нечаканы падарунак з далёкага ліванскага мястэчка Бшары. Гэта два альбомы з рэпрадукцыямі карцін выдатнага мастака і выбітнога паэта мінулага стагоддзя Халіля Джэбрана і фільм пра яго, зняты вядомым кінарэжысёрам Міладам Таукам.**



Так дырэктар музея імя нацыянальнага генія, прыхільнік яго паэзіі, Джозеф Джэаджэа выказаў падзяку мінскаму выдавецтву за паэму Халіля Джэбрана "Прарок", выпушчаную ім у свет у рускім перакладзе паэта Юрыя Сапажкова. Прэзентацыя шыкоўна аформленай кнігі, для якой народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі зрабіў чатырнаццаць выдатных ілюстрацый, адбылася ў музеі якраз у дні, калі ў краіне адзначалася 80-годдзе з дня смерці Халіля Джэбрана. Здзіўленне прысутных, па словах удзельніцы гэтай падзеі мінчанкі Любові Ламбоцкай, якой прыйшла выдатная думка падарыць музею свой асобнік "Прарока", выклікаў як сам факт выпуску кнігі ў мала каму вядомай у Бшары Беларусі, так і афармленне выдання, цудоўныя застаўкі, шрыфты і вёрстка, у якіх адчуваецца любоў і павага выдаўцоў і паліграфістаў да ліванскага класіка.

Беларускі друкаваны рарытэт змешчаны ў цэнтр галоўнага стэнда, дзе прадстаўленыя замежныя пераклады "Прарока". На сённяшні дзень цяжка назваць мову, на якую ён не быў бы перакладзены. Як паведаміў дырэктар музея, менавіта дзякуючы фінансавым укладанням, якія паступаюць за незлічоныя перавыданні "Прарока", музей пашырыўся, быў пераабсталяваны. Вялікія выставачныя прасторы аддадзены пад карціны паэта-мастака, экспазіцыі мэблі, якой ён карыстаўся, дэманстрацыі яго асабістых рэчаў, паэтычных накідаў, лістоў да сяброў…

З асцярогай перафразуючы біблейскі выраз, усё ж такі скажам: шляхі культуры нявызнаныя. Хіба гэта не да лепшага ў гэтым лепшым сярод светаў?

***На здымку:** дырэктар музея імя Халіля Джэбрана Джозеф Джэаджэа і Любоў Ламбоцкая на прэзэнтацыі беларускага "Прарока".*

Літаратура і мастацтва № 40 7 кастрычніка 2011 г.

# Каб гісторыя не «кульгала»

Марына ВЕСЯЛУХА

**Учора, 6 кастрычніка, у Беларусі адзначаўся Дзень архівіста. Архівісты, працуючы з дакументамі, адкрываюць усё новыя і новыя старонкі нашай гісторыі, знаходзяць невядомыя факты, удакладняюць ужо вядомае. У ліку найбуйнейшых цэнтральных архіўных устаноў краіны Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, бадай, адзін з самых загадкавых. Тут захоўваюцца дакументы з XIV да пачатку XX ст., метрычныя кнігі — да пачатку 1930-х гадоў. Досыць шырокая і геаграфія захоўвання — тэрыторыя былых Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Беларускай, Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай і Полацкай губерняў. Пагадзіцеся, уражвае. Але трапіць у фонды архіва і папрацаваць з дакументамі можа далёка не кожны зацікаўлены гісторыяй. У гэтым выпадку на дапамогу прыходзіць аддзел публікацый дакументаў архіва. Пра тое, як працуе аддзел, якія кнігі рыхтуе да выдання, — наша гутарка з яго кіраўніком Зміцерам Яцкевічам.**

**— Спадар Зміцер, у людзей, якія не сутыкаліся з дзейнасцю архіва, ёсць стэрэатып, што гэта вельмі сумная ўстанова і працуюць тут таксама вельмі сумныя людзі. Ці сапраўды гэта так?**

— Нам сумаваць няма калі. Працы шмат, і яна вельмі цікавая, хоць і своеасаблівая. І самае цікавае ў ёй тое, што ніхто не ведае, якое багацце хаваецца ў гэтых сценах. У нашым архіве захоўваецца больш як мільён спраў, кожная з якіх налічвае ад некалькіх аркушаў да 6—7 тысяч старонак. Гэта сведчанні нашай гісторыі за апошнія 600 год, пры тым яны недастаткова шырока ўведзены ў навуковы ўжытак. Ад гэтага “кульгае” гістарычная навука, якая карыстаецца фактурай — я маю на ўвазе зборнікі дакументаў, — падрыхтаванай у часы Расійскай імперыі і ў перыяд СССР. На жаль, у апошнія гады зборнікі дакументаў не друкаваліся. Натуральна, гэта адбіваецца на ўзроўні падручнікаў, манаграфій, навукова-папулярных і папулярных работ, а таксама мастацкіх твораў гістарычнай тэматыкі. У той жа час не кожны чалавек можа знайсці тое, што яму трэба, у вялікай колькасці арыгінальных рукапісных дакументаў, якія захоўваюцца часам у адзіным экзэмпляры ў нас у архіве. Не кожны можа іх расчытаць.

**— Але ж у апошнія гады архівы сталі больш адкрытымі для насельніцтва…**

— Так, цяпер у чытальныя залы стаіць чарга, у якой многія аматары гісторыі чакаюць, калі з'явіцца вольнае месца і яны атрымаюць магчымасць папрацаваць з дакументамі. Іх найперш цікавяць пытанні ўласнай генеалогіі, свайго радавода. Часта да нас звяртаюцца даследчыкі, якія пішуць кнігі па гісторыі сваёй радзімы, прадпрыемстваў, рыхтуюць матэрыялы для публікацыі ў СМІ. Я ведаю людзей, якія ходзяць сюды ўжо больш як два дзясяткі год. Нешта спрабуюць знайсці, але хоць нічога не знаходзяць, усё роўна шукаюць. Знаходкі падаюцца на першы погляд нязначнымі, але кожны факт з гісторыі малой радзімы і сям'і вельмі цікавы для чалавека, і кожны момант новага адкрыцця абсалютна непаўторны. Шкада толькі, што ў нас, супрацоўнікаў архіва, не заўсёды ёсць магчымасць гэтым падзяліцца, цяжка знайсці час зрабіць публікацыю, выступіць на радыё ці тэлебачанні. Але мы рыхтуем грунтоўныя працы, да прыкладу, “Гербоўнік беларускай шляхты” (цяпер працуем над трэцім томам выдання, што будзе змяшчаць прозвішчы і гербы шляхты на літару “В”), “Малы гербоўнік Навагрудскай шляхты”, “Малы гербоўнік Халопеніцкай шляхты”. Зроблены дзясяткі асобных радаводаў. Асабіста я распрацаваў радаводы Яна Чачота, Максіма Багдановіча, Эдварда Вайніловіча, Валенція Ваньковіча, Якуба Коласа, Язэпа Лёсіка, Аляксандра Грына і іншых славутых землякоў. На жаль, не ўсе яны сёння запатрабаваны, не ўсе надрукаваны ў вядомых выданнях.

**— Але ж у выступленнях у друку, на радыё і тэлебачанні і заключаецца праца ў кірунку папулярызацыі архіва. Якія яшчэ крокі робіцца супрацоўнікамі для таго, каб пра ўстанову ведалі ў шырокіх колах грамадскасці?**

— Каб праца па папулярызацыі рабілася ў большым аб'ёме, у 2004 годзе ў нашым архіве быў створаны аддзел публікацый дакументаў, які я ўзначальваю. З таго часу ў нас надрукавана 15 разнастайных зборнікаў гістарычных дакументаў, матэрыялаў. Штогод, з 2001 года, выдаецца зборнік “Архіварыус”. Гэта найунікальнейшае выданне, бо ні адзін з архіваў свету, як высветлілася пазней, не мае штогодніка, які б выходзіў не па выніках канферэнцый, а проста выдаваўся самім архівам. У “Архіварыусе” мы публікуем самыя разнастайныя матэрыялы па архівазнаўстве, крыніцазнаўстве, праблемах публікацыі, археаграфічнай апрацоўкі дакументаў, спецыяльных гістарычных навуках кшталту генеалогіі, геральдыкі. Не забываемся і пра нашых папярэднікаў-архівістаў. Так, у штогодніку ёсць спецыяльная рубрыка “Постаці архівістаў”, у яе межах пішам пра людзей, якія працавалі ў архівах. Не так даўно падрыхтавалі добры даведнік “Архівісты Беларусі”. Варта адзначыць, што не кожная галіна сёння можа пахваліцца такім выданнем. Акрамя гэтага ў нас распрацоўваецца тэма гісторыі дзяржаўных устаноў Расійскай імперыі. Ужо выйшлі два зборнікі: “Мінская губерня” (дзяржаўныя, рэлігійныя і грамадскія ўстановы) і адпаведная кніга па Віцебскай губерні. Падрыхтаваны зборнік, прысвечаны Магілёўскай губерні. Магчыма, гэтая праца будзе мець працяг. Апошнім часам больш увагі звяртаем менавіта на людзей, ураднікаў, што былі супрацоўнікамі дзяржаўных устаноў і штодня фіксавалі нашу гісторыю, працавалі з людзьмі і дакументамі. У розныя часы асобнымі кнігамі выходзілі матэрыялы канферэнцый, зборнікі, у тым ліку юбілейны зборнік “Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі — скарбніца дакументальнай спадчыны, 1938 — 2008”.



Фота Кастуся Дробава

**— У чым адметнасць кнігі?**

— Тут мы ўпершыню паспрабавалі прасачыць гісторыю нашага архіва і архіваў-папярэднікаў. Да таго ж звярнулі ўвагу на людзей, якія працавалі і працуюць сёння. Мы надрукавалі і навуковую бібліяграфію ўсіх выданняў і артыкулаў, што падрыхтавалі супрацоўнікі за час існавання архіва. На жаль, па-за доўгімі спісамі засталіся газетныя публікацыі. А гэта велізарны пласт інфармацыі. Прынамсі, адзін з супрацоўнікаў аддзела публікацый распавёў, што за два гады ён надрукаваў каля 350 артыкулаў у розных перыядычных выданнях. Прычым гэтыя публікацыі грунтаваліся на архіўных дакументах. На жаль, сёння папулярызатарская дзейнасць ідзе не так актыўна. Але ўсё ж свой унёсак у справу мы робім. У прыватнасці, друкуем працы па гісторыі дзяржаўных устаноў. А гэта, на нашу думку, — касцяк любой дзяржавы, апора ўнутранай і знешняй палітыкі. Паступова стварылі кнігі па Расійскай імперыі, цяпер бяромся за ВКЛ. Але, падаецца, самае галоўнае — мы ўводзім у навуковы абарот шмат дакументаў, фактаў, якія сведчаць пра структуру дзяржаўных устаноў, іх функцыі, супрацоўнікаў. Яны раскрываюць новыя старонкі нашай невядомай гісторыі.

**— А якія адкрыцці зробленыя архівістамі ў апошні час?**

— Думаю, гэта найперш зборнік дакументаў “Беларусь і вайна 1812”, што цяпер рыхтуецца да публікацыі. У яго ўвойдуць каля 250 дакументаў з фондаў нашага архіва і Нацыянальнага гістарычнага архіва ў Гродне. Самыя цікавыя — пра малавядомыя старонкі гісторыі, калі тут знаходзілася французская адміністрацыя, было ўзноўлена ВКЛ. У гродзенскім архіве захоўваецца шмат дакументаў на польскай мове, якія сведчаць пра тое, як французская адміністрацыя ставілася да дзяржаўных устаноў, што існавалі ў Гродна. Гэта розныя дакументы: ад інструкцый, як ствараліся паліцэйскія ўпраўленні, да біяграм асоб, што прызначаліся кіраўнікамі і служачымі ў гэтыя ўстановы. Вельмі цікавы факт: новыя чыноўнікі былі нашчадкамі тых, хто працаваў у Гарадзенскім магістраце ў часы ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Падаецца, што ў нашай гісторыі самая цікавая і занядбаная старонка — біяграфістыка. У нас няма ні спецыяльнага выдання, ні навукі. А гэта моцна адбіваецца на гісторыі. Мы не ведаем сваіх продкаў, тых людзей, якімі можам ганарыцца. Да прыкладу, чыйсці продак утрымліваў аптэку ці меў цагельны завод, прадукцыя якога не толькі паступала на будаўніцтва дамоў, але і выкарыстоўвалася пры ўзвядзенні храмаў, кляштараў, важных дзяржаўных устаноў. З такога разумення гісторыі выцякае новы паварот, які дазваляе лепш і інакш разумець сутнасць часу, іншымі вачыма глядзець і на людзей, і на з'явы ў грамадстве і дзяржаве.

**— Пры стварэнні новых зборнікаў дакументаў, кніг на якога чытача арыентуецеся?**

— Гэта розныя чытачы — самі архівісты, людзі, што прыходзяць да нас у чытальную залу, студэнты, вучоныя. У цэлым, усе, каго цікавіць наша мінуўшчына. Выданнямі, падрыхтаванымі Нацыянальным гістарычным архівам Беларусі, цікавяцца і ў ВНУ, і ў музеях, і ў школах. Мы ўвесь час атрымліваем просьбы падзяліцца хоць электроннай версіяй, каб інфармацыю можна было выкарыстоўваць у навучальным працэсе. Па гэтым бачна, што ў дачыненні да нашых выданняў існуе праблема малога тыражу. Магчыма, з аднаго боку, мы не так актыўна прапагандуем свае кнігі, але ж з іншага пункту гледжання, калі наклад “Архіварыуса” складае 100 асобнікаў, якія і так разыходзяцца надзвычай хутка, то ці ёсць сэнс яго асабліва прапагандаваць.

## Азбука Морзэ

Чэслава ПАЛУЯН

● Напрыканцы верасня ў Баку (Азербайджан) прайшла II Міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш, на якой наша краіна была прадстаўлена экспазіцыяй Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. У цэлым у працы выстаўкі ўзялі ўдзел кнігавыдаўцы Азербайджана, а таксама 35 арганізацый з замежных краін. Экспазіцыю Рэспублікі Беларусь прадстаўляў дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі краіны Раман Матульскі. Наведвальнікі форуму мелі магчымасць пазнаёміцца з друкаванай прадукцыяй вядучых выдавецтваў краіны — гэта кнігі грамадска-палітычнай і сацыяльна-эканамічнай тэматыкі, а таксама выданні па гісторыі і культуры Беларусі. Усе кнігі, прадстаўленыя на стэндзе краіны, — а гэта больш як 100 лепшых айчынных выданняў — былі перададзены ў дар Азербайджанскай нацыянальнай бібліятэцы імя М. Ахундава ў межах праекта “Беларусь сёння”.

— Выдавецтва “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі” ў кнігарні “Прэзентацыя” прадставіла першыя два тамы шматтомнага выдання “Энцыклапедыя для школьнікаў і студэнтаў”. Гэта кнігі “Інфармацыйнае грамадства. XXI стагоддзе” і “Фізіка. Матэматыка”. Першы том раскрывае ролю пісьменства і кнігадрукавання ў гісторыі чалавецтва, распавядае пра спосабы перадачы інфармацыі ў прыродзе і грамадстве, новыя магчымасці апрацоўкі і аналізу тэкстаў, разнастайныя сродкі стварэння, распаўсюджвання, пошуку і ўліку тэкставай інфармацыі з дапамогай сучасных інфармацыйных тэхналогій. У другім томе асвятляюцца асновы сучасных фізічных уяўленняў пра прыроду з'яў, а таксама ключавыя матэматычныя паняцці. На лістапад 2011 года запланаваны выхад трэцяга тома праекта, які будзе мець назву “Зямля. Сусвет”, ён прадставіць новую канцэпцыю ўтварэння Зямлі і Месяца, распавядзе пра ўнутраную будову нашай планеты і яе будучыню, пра Сонечную сістэму і зоры.

● У Чэхіі перавыдалі Біблію з ілюстрацыямі Сальвадора Далі. Першыя асобнікі гэтага ўнікальнага выдання, якое важыць 12 кілаграмаў, атрымалі прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Клаус і кіраўнік чэшскай каталіцкай царквы Дамінік Дука. Наклад 900-старонкавай Бібліі з тэкстамі Старога і Новага Запавета склаў 444 асобнікі. Першае выданне гэтай кнігі са 105 ілюстрацыямі вядомага іспанскага мастака датуецца 1967 годам. Яно пабачыла свет у Італіі ў пяці тамах. Пазней кніга выйшла ў Германіі.

— У выдавецтве *Cambridge University Press* пабачыў свет першы том “Лістоў Эрнэста Хэмінгуэя”. Галоўным рэдактарам гэтага знакавага праекта з'яўляецца Сандра Спэніер, прафесар англійскай мовы ва ўніверсітэце штата Пенсільванія. Кніга выйшла амаль праз 60 год пасля таго, як прафесар Філіп Янг напісаў у 1952 годзе першы падручнік пра пісьменніка, названы проста “Эрнэст Хэмінгуэй”. Выданне лістоў аўтара з'яўляецца сумесным праектам Фонду Эрнэста Хэмінгуэя, які валодае аўтарскімі правамі на лісты, Дома-музея пісьменіка, што валодае міжнароднымі правамі, і ўніверсітэта штата Пенсільванія.

● Рэліз лічбавай “потэрыяны” адкладзены да наступнага года. Папулярнасць рэсурса *Pottermore*, па прызнанні арганізатараў на чале з пісьменніцай Джоан Роўлінг, пераўзышла чаканні, але хуткаму запуску крамы гэта не садзейнічала. Адміністратары паведамілі, што крама сайта пачне працаваць толькі ў першай палове наступнага года, а не з кастрычніка 2011-га, як першапачаткова планавалася. У асартыменце магазіна павінны быць прадстаўлены афіцыйныя лічбавыя версіі ўсіх кніг пра Потэра і аўдыё варыянт эпапеі.

# «А жизнь не остановишь…»

Юзефа ВОЛК,
Ольга ПОЛОМЦЕВА

**Представляем вниманию наших читателей книги серии "Библиотека Союза писателей Беларуси", изданные ООО "Харвест".**

## Ценность человека

"Жыццё — не тыя дні, што прайшлі, а тыя, што ты памятаеш", — так метко обозначил смысл и значение прожитых дней один из героев романа **Владимира Федосеенко "Мутныя росы"**. А уж в философии жизни Владимир Константинович — настоящий мастер. Тем более, что в этом году он отметил свой 85-летний юбилей. Да и жизненного опыта у него не занимать — с начала июля 1941 года был разведчиком Жлобинского истребительного батальона. Был схвачен гитлеровцами, но через две недели сумел бежать из плена. Собирал оружие, один готовил засады. С 1942 года — партизан отряда "Смерть фашизму", а с весны 1943-го — командир



диверсионной группы партизанского отряда имени Жукова, который действовал в Жлобинском районе. Был ранен.

После войны — учёба, работа на разных должностях в республиканских газетах и журналах и, конечно, творческая деятельность, вступление в Союз писателей СССР.

В ряду прозаических произведений Владимира Федосеенко — а это романы "Дубовая града" (1965), "Віхры на скрыжаваннях" (1970), "Пасля смерчу" (1975) — роман "Мутныя росы" занимает особое место. В нём автор обращает внимание на множество важных жизненных и социальных проблем, затрагивает темы коллективизации, выживания в годы Великой Отечественной войны. Особое внимание он уделяет проблеме сохранения природы, красоты родных пейзажей, особенно больно ему за уничтоженную флору и фауну Полесья. Но в центре романа всё равно остаётся человек — с его чувствами, переживаниями, любовью, духовным развитием и постепенным взрослением.

## Маска для Эха, или Новая версия

Есть ли у эха лицо? Как нам, современникам, разобраться в сложных событиях далёкого прошлого? Как правильно интерпретировать сложные тексты видений? На эти и многие другие вопросы в своём романе-гипотезе **"У эха нет лица"** пробует найти ответ известный поэт и прозаик **Юрий Фатнев**.

Вот как сам писатель рассказывает историю возникновения идеи романа: во время одной из поездок в Чернигов он, обойдя книжные магазины, направился в любимое место — к Пятницкой церкви, к Спасскому собору. "И тут мне предстало видение. На изумительно зелёной траве на фоне сияющего собора стояла молодая мать, как столп света, в белом одеянии и держала за руку сынишку. На вид ему было три-четыре года. Он тоже был в белом. Светился. Мне подумалось: вот так же стоял на этом самом месте маленький княжич Игорь со своей матерью. <…> В голове, как ответ на мои мысли, кто-то отчётливо произнёс "У эха нет лица". Я не знал, что эти слова значат, не догадывался, кто вступил со мной в диалог, но с той минуты по сей день, а прошло более двадцати лет, я постоянно возвращаюсь к этим словам. Сейчас мне ясно, что это было название той истории, которую должен поведать миру я и никто другой".

Не знаю, верить автору или воспринимать его "удивительную встречу" как мистификацию, но факт остаётся фактом: историю он написал. О чём она? Роман возвращает читателя в далёкий XII век, время, когда был создан один из самых ярких памятников древней литературы "Слово о полку Игореве". Опираясь на русские и польские летописи и широко используя излюбленный приём писателей древности — так называемую панорамность, дающую возможность видеть и анализировать исторические события в пространстве и времени, Юрий Фатнев доказывает, что "Слово о полку Игореве" — первый семейный роман древнерусской литературы. В центре исследования — предполагаемый автор "Слова" и его предшественник сказитель Боян.

Но мистифицирует автор не только с историей, но и с процессом написания романа: "моя роль в этом открытии сводилась к тому, что я расслышал и увидел то, что мне было позволено. Кто-то листал малому дитяти картинки. Иногда из XII века доносилась музыка и подчиняла своему ритму прозу. С вторжением музыки в текст я тоже ничего не мог поделать".



Странные голоса не только нашёптывали автору сюжет, но и давали ответы на волнующие его вопросы. Так, даже в конце романа идея видения будто работает на его пользу. Ведь в исторической науке важны не только факты, но и интуиция, будто бы по наитию сделанные открытия. Но только подтверждать их нужно документами. Согласитесь, одного ответа странного незнакомца, который будто привиделся автору в состоянии медитации, мало. При том, что вначале автор находится на



правильном пути — то есть рассуждает о том, что "у эха нет лица": автора "Слова..." и не нужно знать, есть только эхо — его работа, и она важнее установления авторства, но всё равно по-своему атрибутирует произведение, надевает на эхо маску:

"…Будто мы сидели плечом к плечу. Голос такой эмоциональной насыщенности, такой пронзительной силы, такой обжигающей муки, который я не забуду до конца жизни:

"Не лепо ли ны бяшетъ братие
Начяти старыми словесы…"

И после паузы, длившейся восемьсот лет, автор "Слова о полку Игореве" назвал себя: "Владимир Галицкий".

Уже давно известно, что писатели, дабы сохранить в секрете всю творческую муку и сложную работу, проделанную над романом или над самым коротким стихом, создают миф "нашёптывания" и интуитивного письма. В литературе это обычно срабатывает. Но в истории — нет. Легенд, видений, странных и таинственных образов обычно недостаточно для подтверждения теории. Единственным весомым аргументом может стать идея Умберто Эко: любую теорию можно доказать. В данном случае — даже разгадать загадку авторства "Слова о полку Игореве", то есть придумать новую версию.

## Крылатое счастье

Что подарить в доказательство преданной многолетней любви? Может, сам символ счастливой семейной жизни — аиста? Втайне от возлюбленной смастерить на удобном месте основу для аистиного гнезда... Именно так и поступает один из главных героев романа **Анатолия Смолянко "Подари аиста"**, вышедшего в серии "Библиотека Союза писателей Беларуси". Это произведение о сложном жизненном пути простых, трудолюбивых и отзывчивых людей в период реформирования социально-экономического уклада деревни.

На небольшой хутор в Гродненской области приезжает молодая семья — Вадим Левчик и его жена Юлия. Она, дочь лесника, не понаслышке знает, как растёт хлеб. Он — горожанин, столичный житель, твёрдо решивший стать фермером. Судьба сталкивает Вадима и Юлию с разными людьми: красавицей Вероникой, её мужем-уголовником Гаврилой, мастером на все руки Кузьмой, его женой Раей, которая больна раком, Никифором Моисеевичем… Вместе они проходят через разные испытания — пустые прилавки перестройки, тяжёлый труд, страсти любовного треугольника. Жизнь деревни с её ежедневными заботами, когда все на виду друг у друга, когда в трудных ситуациях выручает порой только народный юмор и смекалка, исконно доброе отношение к соседям, отразилась на страницах романа. Его герои говорят так, как в жизни — пересыпая речь русскими и белорусскими словами, беззлобными шутками. И в речи их, и в описаниях мест, где происходит действие романа, читатели легко угадают Кореличский район, которому, собственно, эта книга и посвящается. "С каждым действующим лицом моих сочинений, в той или иной мере, я жил бок о бок, общался: в чём-то убеждал, ругал, искренне хвалил, смеялся, влюблялся…", — признаётся автор во вступительном слове к произведению.

А. Смолянко долгие годы работал в журналистике и мечтал о крупном произведении. Первая книга вышла в 2001-м. В 2007-м Анатолию Смолянко была присуждена Минская областная премия имени Кондрата Крапивы за книгу "Убитая любовь". Надеемся, и новая книга найдёт своих поклонников.

## «Жизнь не перепишешь, как диктант»

К сожалению, выходу сборника стихов **"Звенят подковами года"** его автор, **Григорий Соколовский,** вместе с нами порадоваться уже не сможет. Его сердце, которое верно служило журналистике и литературе, перестало биться. Завещанием современникам и потомкам остались строки, доверенные бумаге. О пути человека, его призвании, любви, которую посчастливилось встретить, испытаниях, выпавших на его долю. "Смотри, рябины / Пламенем горят, / Как наши души — / Вечно молоды!" Рябина под окнами Союза писателей Беларуси, которая вдохновила поэта на эти строки, сегодня снова в тяжёлых гроздьях ягод. Его поэзия сродни вкусу этих ягод — насыщенная, терпкая, горьковатая. Размышления о многих годах прожитой жизни: "Остались поле / И дубы, / Да в инее / Дорога — / Свидетели моей / Судьбы. / И счастье, / И тревога / Переплелись / Тугим узлом, / С узорами / Отметин… / Лишь окнами / Кивает дом, / Жаль, что никто / Не встретит…"

В судьбе Григория Соколовского была война, о которой остались книги поэзии "Афганская тетрадь", "Память и боль", "Афганское эхо", посвящённые тем, кто, "не проклиная время и судьбу", верны остались воинскому долгу: "Не подлежат вовек / Переоценке / Ни мужество, / Ни преданность солдат, / Которые прошли / Через Герат, / Через душманов / Жуткие застенки".

Много поэтических строк посвятил поэт родным и близким людям, но главная его тема — любовь к родной земле: "Кукушка года / Раздаёт, / А ветер деревья / Колышет… /Я вижу во



сне / Поворот, / Где дом, / В мире нет его ближе;/ И мамы косынка / Вдали, / И голос отца / Глуховатый… / Мальчишечьи годы / Мои — / Беспечны, светлы и крылаты".

Он родился в селе Богдановка на Полтавщине, в краю, богатом литературными гениями: здесь появились на свет Николай Гоголь, Иван Котляревский, Олесь Гончар, Борис Олейник. С Беларусью связана его дальнейшая жизнь и писательская биография. В 1998 году Григорий Соколовский стал заслуженным деятелем культуры Республики Беларусь, в 2005-м избран членом Президиума Союза писателей Беларуси и председателем его Минского областного отделения.

*Лишь тебе*
*Поклонялся,*
*Как иконе*
*Святой…*
*Беларусь!*
*Я остался*
*Сердцем вечно*
*С тобой!*

# «Радзівіліяда» — наша «Іліяда»

**Адной з найбольш значных падзей беларускага літаратурнага жыцця стала з'яўленне на старонках часопіса "Маладосць" паэмы Яна Радвана "Радзівіліяда", упершыню перакладзенай на беларускую мову. Падрабязнасці дзесяцігадовай працы над паэмай, а таксама асаблівасці дзейнасці ў перакладчыцкай галіне — у гутарцы з Жаннай Некрашэвіч-Кароткай, дактарантам філалагічнага факультэта БДУ.**

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

— Сваю творчую працу пачынала не як перакладчыца, а як паэтэса. Дарэчы, першыя мае паэтычныя спробы з'явіліся менавіта на старонках газеты "Літаратура і мастацтва" ў 1993 годзе. Вершы заўважыў Уладзімір Карoткі, які тады быў намеснікам дэкана філалагічнага факультэта. Ён вывучаў старажытную літаратуру, ведаў, як мала твораў перакладзена на беларускую мову, таму прапанаваў заняцца гэтай справай. Так неўзабаве з'явіліся першыя, яшчэ вучнёўскія пераклады — фрагменты з Авідзія, зробленыя на падставе фрагментаў з канспекта па антычнай метрыцы. Яны былі надрукаваныя ў 1993-м у часопісе "Маладосць" разам з маімі ўласнымі вершамі. Да першых сур'ёзных спроб адношу ліст Мялеція Сматрыцкага да Папы Рымскага Урбана VIII, надрукаваны ў часопісе "Крыніца" ў 1994-м, а таксама пераклад 12 трэнаў са зборніка "Рэха жалю", помніка беларускай польскамоўнай паэзіі XVI стагоддзя. Паралельна па рэкамендацыі У. Кароткага пачала працу над "Прускай вайной" Яна Вісліцкага. Перад шэдэўрамі эпох Рэнесансу і Барока марнелі спробы ўласнай паэтычнай творчасці. Час напісання вершаў прайшоў. Засталася перакладчыцкая і навуковая дзейнасць. У 1999-м пад кіраўніцтвам У. Кароткага абараніла кандыдацкую дысертацыю па тэме "Драматургія Францішкі Уршулі Радзівіл". Цяпер працую над доктарскай дысертацыяй, тэма — "Лацінамоўны ліра-эпас у шматмоўнай літаратуры Беларусі XVI — першай паловы XVII стагоддзяў" (навуковы кансультант Вячаслаў Рагойша).

**— З якіх моў вы перакладаеце?**

— Сярод моў, з якіх я ажыццяўляю пераклад, — лацінская, польская, царкоўнаславянская, старабеларуская і старажытнаўсходнеславянская. Нядаўна спрабавала свае здольнасці ў перастварэнні сучаснай украінскай паэзіі (вершаў Андрэя Садаморы). Але найперш мяне цікавяць, зразумела, помнікі старажытнага беларускага пісьменства. Мая моўная кампетэнцыя фарміравалася паступова. Што датычыць польскай мовы, то чула яе з дзіцячых гадоў, бо маці мая — беларуска, а бацька — паляк. Іншымі (прынамсі, старажытнымі) мовамі авалодала дзякуючы філфаку. Асабліва хацела б адзначыць ролю ўнікальнага педагога Андрэя Цісыка, які выкладаў у нас лацінскую і старажытнагрэчаскую метрыку. Акрамя таго, ён першы ў БДУ пачаў чытаць курс па навалацінскай літаратуры Беларусі. Гэта прадвызначыла мае навуковыя і творчыя прыярытэты.



> *"Падрыхтоўка навуковых выданняў лацінамоўных тэкстаў мае асаблівае значэнне. Паколькі раней лацінскай мовай карысталася эліта ўсіх еўрапейскіх краін, прэзентацыя іх перакладаў паспрыяе павелічэнню ўвагі да Беларусі, яе выходу на сусветную культурную арэну.*

**— Якая цяпер сітуацыя з перакладам корпуса лацінамоўных тэкстаў?**

— Даволі складаная. На жаль, робіцца не так шмат, як хацелася б. Для супастаўлення можна паглядзець на аналагічную сітуацыю ў літоўскай гуманітарнай навуцы. Яшчэ ў канцы 1960-х гадоў літоўскія вучоныя распрацавалі фундаментальную праграму па выданні на роднай мове лацінамоўнай класікі і мэтанакіравана ажыццяўлялі яе. Вялікая колькасць выданняў з'явілася падчас святкавання 1000-годдзя Літвы. Які ж вынік гэтай шматгадовай карпатлівай працы? На сённяшні дзень у Еўропе лацінамоўная пісьмовая спадчына ВКЛ атаясамліваецца пераважна з сучаснай Літвой. Фарміраванню такога ўяўлення паспрыялі ў першую чаргу самі літоўцы.

Канечне, пэўныя захады ў кірунку нацыянальнай адаптацыі лацінамоўнай пісьмовай спадчыны зроблены і ў Беларусі. Выданні лацінскіх тэкстаў і іх пераклад на беларускую мову ажыццяўляюцца намаганнямі Якава Парэцкага, Віктара Дарашкевіча, Алеся Жлуткі, Ірыны Краўчук і некаторых іншых навукоўцаў. Апошнім часам адчуваецца адэкватнае — пазітыўнае — стаўленне дзяржавы. Напрыклад, у 2006 — 2010 гадах я кіравала навукова-даследчай тэмай "Героіка-патрыятычны эпас у беларускай паэзіі эпохі Рэнесансу: праблема фарміравання гуманістычных ідэалаў і маральных каштоўнасцей асобы" па Дзяржаўнай праграме фундаментальных даследаванняў Беларусі. Але хацелася б усё ж большай увагі да нашай працы. Падрыхтоўка навуковых выданняў лацінамоўных тэкстаў мае асаблівае значэнне. Паколькі раней лацінскай мовай карысталася эліта ўсіх еўрапейскіх краін, прэзентацыя іх перакладаў паспрыяе павелічэнню ўвагі да Беларусі, яе выходу на сусветную культурную арэну.

**— Апошнім па часе вашым перакладам стала "Радзівіліяда"...**

— Ідэя перакладу паэмы Яна Радвана лунала ў паветры з таго часу, калі яе пачалі даследаваць. Наогул, упершыню твор узгадаў у 1970-я гады ў сваіх даследаваннях Віктар Дарашкевіч. Аднак першасную навуковую прэзентацыю "Радзівіліяды" зрабіў Сяргей Кавалёў. Што да перакладаў, то дагэтуль вядомае толькі перастварэнне "Радзівіліяды" на літоўскай мове, здзейсненае Сігітасам Нарбутасам.

Мая праца над перакладам пачалася ў 1999 годзе, а ў 2000-м першы фрагмент памерам у 100 радкоў быў надрукаваны ў газеце "Літаратура і мастацтва". Прычым у "ЛіМе" не было традыцыі публікаваць пераклады, але калі шаноўныя калегі даведаліся пра назву твора, то палічылі мэтазгодным зрабіць выключэнне. Праца працягвалася да 2010 года, цяпер твор друкуецца ў часопісе "Маладосць". Зразумела, хацелася б выдаць "Радзівіліяду" асобнай кнігай, таму спадзяюся на зацікаўленасць выдавецтваў.

**— Каму адрасавана "Радзівіліяда"? Наогул, як бы вы пераканалі скептыкаў у неабходнасці перакладчыцкай працы?**

— Перш за ўсё, твор патрэбны менавіта беларусам, а не іх суседзям. Згадзіцеся, наўрад ці "Радзівіліядай" будуць зачытвацца рускія, калі Іван Жахлівы паказаны там як сапраўдны тыран.

Што тычыцца мэтавай аўдыторыі, дык адна з яе частак — гэта тыя, хто вучыцца. На філалагічным факультэце ў межах курса беларускай літаратуры творчасць Радвана вывучаюць з 1990-х. Але раней пры адсутнасці даступнага тэксту студэнты маглі знаёміцца толькі з крытыкай, а не самім творам. Пераклад "Радзівіліяды" адрасаваны і ўсім неабыякавым да свайго мінулага беларусам.

Акрамя таго, хацелася б нагадаць, што літаратура з'яўляецца першасным феноменам любой нацыянальнай культуры. У прыгожым пісьменстве фіксуецца ментальнасць нацыі. Таму калі хто-небудзь жадае спасцігнуць іншыя народы і вызначыць у гісторыі месца свайго роднага, запрашаю да чытання "Радзівіліяды" — беларускай "Іліяды" ў прыгожым пісьменстве.

Кацярына ДЗЯМЯНЧУК

# Жыццёвінкі Міхаіла Зізюка

***Міхаіл Зізюк. Зелянее рунь: аповесці, апавяданні. — Мінск: Кнігазбор, 2011.***

Маё асабістае знаёмства з творчасцю Міхаіла Зізюка адбылося яшчэ ў 2007 годзе, калі аўтар праводзіў творчую сустрэчу з жыхарамі Навагрудчыны. Ён, у той час яшчэ пачатковец, прадстаўляў свой раман-фэнтэзі "Згубленае вяселле". А ўжо ў 2011 годзе свет пабачыла яго другая кніжка — зборнік аповесцей і апавяданняў "Зелянее рунь". Кніга прысвечана самым дарагім і блізкім для аўтара людзям. Магчыма, гэта акалічнасць і абумовіла той паэтычна-лірычны настрой, якім пранізаны зборнік. Кожны невялічкі твор — асобная гісторыя. Гісторыя лёсаў, пачуццяў, акалічнасцей. Кніга аб'яднала жыццёвыя назіранні і аўтарскія вобразы ў адзін суцэльны блок. Пасля прачытання ўжо




не размяжоўваеш іх — так цэласна і змястоўна атрымалася ў М. Зізюка перадаць думкі і пачуцці. Невялікія па памеры аповесці эмацыянальныя і ўражваючыя. Аўтар міжволі прымушае спачуваць сваім героям, перажываць тое, што перажываюць яны, адным словам — жыць іх жыццямі.

Творы напісаны жывой мовай, каларыту ім дадае ўжыванне гутарковых выразаў, трапных вобразаў і параўнанняў. Чытаюцца аповесці і апавяданні вельмі лёгка. Думаецца, яны ў некаторым сэнсе аўтабіяграфічныя — тут падрабязна апісваецца Навагрудчына, дзе жыве аўтар, навакольныя вёскі і мястэчкі.

***Міхаіл Зізюк. Храм его души: роман. — Минск: Кнігазбор, 2011.***

*"Я знаю, друзья на помощь придут, // Друзья для меня — это лучшее слово"* — такі жыццесцвярджальны дэвіз быў абраны Міхаілам Зізюком у якасці эпіграфа да аднаго з раздзелаў рамана "Храм яго




душы". Гэта раман-апісанне лёсу галоўнага героя Сашы Трафімава. У ягоным жыцці было ўсё: моцнае сяброўства і здрада, містыка і дэтэктыўныя расследаванні, страшныя падзенні і цяжкія ўзыходы. Але ж самае галоўнае — у ягоным жыцці была вырашальная Сустрэча. І менавіта дзякуючы ёй ва ўсіх цяжкасцях бачыўся свой сэнс. Праз церні да зор: Саша Трафімаў прышоў да свайго трыумфу. Такая моц характару, такая душэўная глыбіня, такі аптымістычны настрой.

У рамане досыць многа апісанняў фрагментаў — яркія метафары, вобразныя параўнанні дадалі яму крыху лірыкі.

Кожны раздзел кнігі пачынаецца з вершаванага аўтарскага эпіграфа.

У цэлым жа жыццёвы шлях героя рамана можна падагульніць цытатай з Евангелля ад Матфея 7:1-14: "ва ўсім, як хочаце, каб з вамі абыходзіліся людзі, так абыходзьцеся і вы з імі, бо ў гэтым закон і прарокі".

**Галія ФАТЫХАВА,**
**лаўрэат прэміі "За духоўнае адраджэнне", колішняя ўдзельніца хору НАН Беларусі**

***Хору "Акадэмія" Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, якім кіруе Тамара Слабодчыкава, споўнілася 30 гадоў. З гэтай нагоды ў канферэнц-зале Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбыўся вялікі канцэрт, праграму якога адкрыла каларытная народная песня "Ой, рана на Івана" ў выкананні калектыву-юбіляра. Дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Тамара Слабодчыкава, якая выкладае на кафедры харавовога дырыжыравання з 1979 года і падрыхтавала не адзін дзясятак высокакваліфікаваных спецыялістаў, расказала гасцям вечарыны пра першыя крокі хору "Акадэмія". Многае ў той вечар успомнілася і мне...***



# Брава, «Акадэмія»!

Калі хор толькі арганізоўваўся, а было гэта ў 1980 годзе, рэпеціравалі хадзілі нават у Цэнтральны батанічны сад АН БССР. Як натхнёна лілася там беларуская песня ў сонечны дзень, калі цвіў бэз! У хуткім часе адбылася паездка ў Літву, дзе ў зале Дома вучоных, увешанай самабытнымі габеленамі, прагучалі спевы маладога беларускага калектыву. Сустрэчы з калегамі ўзбагацілі і натхнілі яго ўдзельнікаў, яны з яшчэ большай аддачай наведвалі тэарэтычныя музычныя заняткі і рэпетыцыі хору. Сапраўдныя энтузіясты — кандыдаты навук, інжынеры-праграмісты, супрацоўнікі розных інстытутаў акадэміі, — мы дзеля добрага творчага выніку і ахвяравалі на рэпетыцыю свой абедзенны перапынак, і затрымліваліся ў хоры дапазна, хаця многіх дома чакалі сем'і.

У 1984 — 85 гг. хор правёў цыкл вечароў "Скарбы рускай харавой музыкі". Лекцыі чыталі музыколагі, педагогі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Р. Аладава, Л. Касцюкавец, Т. Шчарбакова, М. Шыманскі. Паслухаць кваліфікаваных спецыялістаў прыходзілі многія аматары музыкі, а сем'і ўдзельнікаў канцэртнай часткі такіх вечароў былі найлепшымі слухачамі. Я мусіла спраўляцца са сваімі побытавымі складанасцямі: жыла ў вайсковым гарадку Уручча, у мужа быў напружаны службовы расклад, таму сына Васілька даводзілася браць з сабою не толькі на вечаровыя рэпетыцыі і выступленні, але і на гастрольныя канцэрты па розных гарадах Савецкага Саюза. А такіх канцэртаў было шмат: па 25 на год. Вільнюс, Каўнас, Тракай, Пушкінскія горы, Пскоў, Ленінград, Кіжы... Слухалі нас у розных аўдыторыях і прымалі заўсёды цёпла. На той час харавыя спевы віталіся і падтрымліваліся на ўсіх узроўнях. Нашы паездкі аплачваў прафсаюз Акадэміі навук, а там, куды мы накіроўваліся, нам забяспечвалі пражыванне з выгодамі і харчаванне ў рэстаранах.

Ездзілі пераважна ў аўтобусах, зрэдку на цягніку, але ў дарозе заўсёды спявалі, рэпеціравалі, лавілі для гэтага кожную зручную хвілінку: імкнуліся, каб гучала "чыста", не горш як у прафесіяналаў. Тамара Гаўрылаўна ад нас патрабавала чысціні і прафесіяналізму, таму ўсе, хто не меў элементарнай музычнай адукацыі, паступова вывучылі сальфеджыа і ўжо спявалі па нотах. У рэпертуары было каля 100 твораў розных кампазітараў: Баха, Бетховена, Моцарта, Гендэля… Мы з цікавасцю асвойвалі беларускія манодыі са зборнікаў XVI — XVII стагоддзяў, канты. Развучвалі песні розных народаў, бо пачалі падарожнічаць і за межы былога СССР. Дарэчы, выехаць у замежжа тады было не так ужо і лёгка, тым больш вялікім калектывам — каля 60 чалавек. Таму займалі асобны вагон і ехалі спяваючы ўсю дарогу.

Першая замежная вандроўка адбылася ў 1988 годзе ў ГДР. Франкфурт-на-Одэры быў першым на нашым маршруце нямецкім горадам. Далей — Саксонія. Турысцкі комплекс у цэнтры Дрэздэна з чатырма вышыннымі гатэлямі на некалькі дзён стаў нашым домам. Пазнаёміліся з культурнымі і гістарычнымі каштоўнасцямі горада. Наведалі Дрэздэнскую оперу, пазнаёміліся з калекцыяй старых майстроў Дрэздэнскай карціннай галерэі, убачылі "Сікстынскую мадонну" Рафаэля... Падчас агляду крэпасці-музея Кенігштайн (XIII ст.) у Саксонскай Швейцарыі ды чароўнай панарамы даліны ракі Эльба мы завіталі ў храм святой Магдаліны (XV ст.), дзе ў ніжняй зале выканалі некалькі твораў І. С. Баха, В. А. Моцарта, Ф. Шуберта…

На фестываль "Гармонія", які быў прысвечаны італьянскаму кампазітару XVI ст. Дж. Палестрыне і праходзіў у 1992 годзе паблізу Франкфурта-на-Майне, мы рыхтаваліся грунтоўна, амаль кожны дзень збіраліся на рэпетыцыі. Вывучылі нямецкую песню "Tanzen und springen", чым здзівілі германскіх слухачоў, ды больш за ўсё іх уразіла беларуская "Зорка Венера", якую наш хор выканаў з



асаблівым пачуццём. Мы "бралі публіку" не майстэрствам, а шчырасцю, эмоцыямі. Пазней, калі ўжо часцей сустракаліся з нямецкімі калегамі, яны вывучылі нашы песні, і спявалі мы іх ужо разам — з вялікім задавальненнем. Гэта зблізала, узаемна ўзбагачала. Мы ездзілі па многіх гарадах ГДР і такім чынам вывучалі краіну. Але асаблівыя адносіны былі да Патсдама — пабрараціма Мінска. Да таго ж, у гэтым германскім горадзе, у савецкай вайсковай часці, жылі мае сябры з Уручча. Удалося не толькі з імі сустрэцца, але і наладзіць канцэрт хору для нашых вайскоўцаў. Спявалі мы ад душы, з вялікай эмацыянальнай аддачай на мовах розных народаў былога Саюза, бо і служылі ў часці літоўцы, эстонцы, беларусы, украінцы, грузіны, армяне, казахі... Хлопцы плакалі: кожны ўспомніў сваіх блізкіх, родны дом. Сустрэча атрымалася шчырая. І прыемна было чытаць у Ганаровай грамаце, якую хору ўручылі пасля канцэрта, што мы сваім выступленнем далі магчымасць слухачам сустрэцца з Радзімай, за што нам усім "вялікі салдацкі дзякуй"!

Запомніўся і спантанны канцэрт, які адбыўся ў гарах, дзе падчас Другой сусветнай вайны знаходзіліся ваеннапалонныя, сярод якіх былі і нашы суайчыннікі. Мы спусціліся ўнутр гары, куды не зазірала сонейка, дзе не было ніякага святла, і ў гэтай цемры амаль не адчувалася паветра. Як там жылі людзі, мы не маглі зразумець. Гід, руская па нацыянальнасці, распавяла нам, што з гэтых гор жывым ніхто не выходзіў, бо аб'ект быў сакрэтны. Мы заспявалі малітву "Аве Марыя" Качыні. Але музыка лілася не як спеў, а як плач. Тыя, хто знаходзіўся побач ці праходзіў міма, — міжволі суцішваліся, разумеючы, што наш хор нібы плача па ўсіх, хто зведаў няволю і загінуў бязвінна... Потым зусім без настрою паехалі абедаць. А калі ціхенька праспявалі сумную песню, да нас падышоў турыст-грузін з просьбай заспяваць яшчэ — і мы заспявалі "Суліко". Усе навокал прынялі нас "на ўра". Вось так, падарожнічаючы па Усходняй Германіі, мы спявалі літаральна паўсюль. Нават у Берліне, на "востраве музеяў" — у перапынках паміж экскурсіямі.

У Германіі пазнаёміліся з палякамі — студэнтамі музычнага вучылішча горада Зялена Гура. Звяртаючыся да іх, мы размаўлялі па-беларуску і адно аднае разумелі. А потым хор "Акадэмія" наведаў Зялену Гуру, дзе мы спявалі ў касцёле спецыяльна развучаныя для гэтага візіту старадаўнія творы, духоўную музыку. Бывалі таксама ў іншых гарадах Польшчы, выступалі і ў Варшаве. А хор польскіх навукоўцаў неадночы прыязджаў да нас. Абменьваліся творчымі візітамі з хорам акадэміі навук Малдовы. Ніколі не забудзецца паездка ў расійскія Кіжы на цеплаходзе, у салоне якога таксама спявалі. А свята песні ў Таліне: зводны 15-тысячны хор; а Спеўнае поле ў Літве, у Латвіі, дзе ўдзельнічаў і наш калектыў! Помніцца асаблівы настрой, адчуванне значнасці таго, што адбываецца, і ўсведамленне шчаслівага моманту: ты — разам з людзьмі розных кантынентаў Зямнога шара; музыка аб'яднала ўсіх, як гэта добра…

Хор набываў усё большую вядомасць і прызнанне, займаў прызавыя месцы на фестывалях, пачаў запісвацца на Беларускім радыё. Паслы розных краін прыходзілі паслухаць "Акадэмію" на канцэртах у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Мы часцей выязджалі за мяжу. Напрыклад, зноў у Германію, дзе нямецкія сябры здзівілі нас, загадзя вывучыўшы і потым праспяваўшы разам з намі "Зорку Венеру". Затым — у Англію: збіраючыся туды, мы знаёміліся з творамі кампазітараў беларускага замежжа, ноты якіх атрымалі ад Адама Мальдзіса; я дапамагала шыць новыя касцюмы для ўдзельнікаў калектыву.

Але ўсё для мяне раптам скончылася, калі трагічна абарвалася жыццё майго адзінага сыночка Васілька. З ім адышло і ўсё, што гэтак любіла. Жыць не хацелася. Кінула заняткі ў хоры; на працу не хадзіла сорак дзён, пакуль нехта не пачаў мяне пацюху выводзіць з дому...

Усцешна думаць, што хор працягвае рэпетыцыі, падарожжы, аб'ехаў Еўропу. Пабываў у цудоўнай Іспаніі і нават спяваў там на адным з папулярных нацыянальных свят…

Дарэчы, дзе б ні выступаў хор "Акадэмія", ён сваім самабытным рэпертуарам ("Купалінка", "Бульба", "Зорка Венера", "Жаваранчкі, прыляціце!", "Ой, рана на Івана" ды іншымі песнямі) ствараe прысутнасць Беларусі.

У вечарыне, прысвечанай 30-годдзю хору "Акадэмія", апрач самога юбіляра ўдзельнічалі прадстаўнікі многіх навучальных устаноў сталіцы. Герояў урачыстай імпрэзы віншавалі ды спявалі для іх сталічныя калектывы пад кіраўніцтвам Алены Лацапневай, Святланы Кунцэвіч, Алены Ісайкінай, Алены Абрамовіч, Аляксандра Драбышэўскага, Ілоны Клімчук, Галіны Аеравай. Выступаў аркестр рускіх народных інструментаў Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М. К. Агінскага (мастацкі кіраўнік і дырыжор — лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Тамара Бялькова). Пры канцы вечарыны зводны хор і аркестр выступілі разам, а дырыжыравала Тамара Слабодчыкава. І ўсіх прысутных яднала атмасфера шчырага сяброўства і трапяткое адчуванне адзінай вялікай харавой сям'і...

***На здымках: хор "Акадэмія" і яго кіраўнік Тамара Слабодчыкава.***

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА**

У межах VI Міжнароднага фестывалю Юрыя Башмета на базе Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі наладжана праца III Маладзёжнай музычнай акадэміі краін СНД. У яе планах — заняткі студэнтаў па спецыяльнасці, майстар-класы, творчыя сустрэчы з сусветна вядомымі педагогамі, выканаўцамі, сярод якіх альтысты Юрый Башмет і Віталь Астахаў, піяніст Васіль Лабанаў, спявачка Святлана Несцярэнка, кларнетыст Ігар Фёдараў, скрыпач Аляксандр Трасцянскі, флейтыст Масіма Мерчэлі ды інш. У канцэртнай праграме, якая адбудзецца заўтра ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі і знамянуе закрыццё акадэміі, згаданыя музыканты выступяць як салісты. А поруч з імі —стыпендыяты і лаўрэаты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі.

Два вечары запар выступаў у Малой зале імя Р. Шырмы Беларускай дзяржаўнай філармоніі Ансамбль салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава. Учора ён, пры падтрымцы Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Рэспублікі Польшча, Інстытута Адама Міцкевіча ў Польшчы, Інстытута Польскага ў Мінску, ладзіў "Музычныя масты Еўропы". Праграма з такой назвай аб'ядвала творы пяці кампазітараў: польскіх Караля Шыманоўскага, Вітальда Лютаслаўскага, Паўла Стралецкага, Ежы Карновіча і беларускага — Дзмітрыя Лыбіна. А ўчора разам з польскім гуртом "Кавалеры Блота" ансамбль прэзентаваў публіцы "Сонасферу" ("Sonosphere") — спантанную імправізацыю паводле цыкла Караля Шыманоўскага "Міфы".



Выдатная акцёрская школа, багаты прафесійны досвед, тонкі эстэтычны густ, бязмежная адданасць мастацтву і прыроджаны творчы талент — усе гэтыя вартасці спалучыліся ў адным чалавеку. Яго, а дакладней — увасобленых ім герояў, ведаюць шматлікія заўсёднікі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра, дзе заслужаны артыст РСФСР Аляксей Кузьмін працуе з 1984 года. У яго багажы — клас легендарных Р. Сіманава і Л. Свердліна ў ГІТІСе, праца ў Валгарадскім тэатры музкамедыі, у Маскоўскім тэатры аперэты, выкладанне сцэнічных дысцыплін, падрыхтоўка тэлеперадач, здымкі ў фільмах... На беларускай сцэне адметны артыст-вакаліст стварыў чараду яркіх, вострахарактарных вобразаў. І сваё 70-годдзе ўлюбёнец публікі А. Кузьмін адзначыў бенефісным спектаклем "Бабскі бунт" Я. Пцічкіна, дзе ён каларытна і арганічна іграе ролю дзеда Захара.

Знаны харэограф, народны артыст Беларусі Валянцін Дудкевіч адзначае 50-годдзе творчай дзейнасці і 25 гадоў сваёй працы ў Дзяржаўным ансамблі танца Рэспублікі Беларусь. Яго юбілейны аўтарскі канцэрт адбудзецца 13 кастрычніка ў Вялікай зале БДФ.

***На здымку: заслужаны артыст РСФСР Аляксей Кузьмін.***

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

# Тузін прэтэндэнтаў, прэмія — адна...

**З 4 па 10 кастрычніка ў Мінску праходзіць фінальны прагляд спектакляў — удзельнікаў першага ў нашай краіне конкурсу на атрыманне Нацыянальнай тэатральнай прэміі. Прэмія заснаваная Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь сумесна з Беларускім саюзам тэатральных дзеячаў, Беларускім саюзам кампазітараў ды Беларускім саюзам літаратурна-мастацкіх крытыкаў з мэтай падтрымкі айчыннага тэатральнага мастацтва і заахвочвання тэатральных дзеячаў, што паказалі найбольш яркія вынікі сваёй творчай працы на працягу 2009 — 2010 гадоў. Генеральны партнёр праекта — "Альфа-банк".**



***На здымку: старшыня Беларускага саюза літаратурна-мастацкіх крытыкаў, доктар мастацтвазнаўства, прафесар Рычард Смольскі, міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка, дырэктар-мастацкі кіраўнік РТБД, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Валерый Анісенка.***

Напярэдадні падзеі адбылася прэс-канферэнцыя, падчас якой міністр культуры Беларусі Павел Латушка, распавядаючы пра новы праект, падкрэсліў, што лічыць тэатральную галіну прынцыпова важнай для агульнага развіцця культуры і мастацтва ў краіне. Сёння ў сістэме Міністэрства культуры працуе 28 дзяржаўных тэатраў: 2 музычныя, 19 драматычных, 7 лялечных. З іх 4 маюць высокі статус "Нацыянальны", 8 — званне "заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь". Штогод сіламі гэтых калектываў ладзіцца каля 9 тыс. паказаў (з іх 5 тыс. — на стацыянарных пляцоўках) для амаль 1,5 млн. гледачоў; адбываецца каля 130 прэм'ер. Тэатр наведвае кожны трэці жыхар Беларусі. У нас на пастаяннай аснове існуе 6 буйных тэатральных форумаў, сярод якіх — "Белая Вежа", "Панарама", "M@rt.кантакт", міжнародны фестываль тэатраў лялек. З'яўляюцца і новыя цікавыя праекты, падтрыманыя Міністэрствам культуры, напрыклад, "Вялікі навагодні баль у Вялікім тэатры", "Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў", "Калядны оперны форум".

Рэальным клопатам дзяржавы пра ўмовы працы творчых калектываў з'яўляецца абноўлены будынак НАВТ оперы і балета, дзе ладзілася прэс-канферэнцыя і дзе ў бліжэйшы панядзелак адбудзецца ўрачыстая імпрэза з нагоды ўручэння Нацыянальнай тэатральнай прэміі. Звярнуўшы на гэта ўвагу журналістаў, міністр паведаміў, што праграма па паляпшэнні ўмоў разлічана да 2013 года і ўключае ў сябе маштабную рэканструкцыю 24 тэатраў: 4 рэспубліканскіх, 20 абласных.

Дзякуючы нядаўнім зменам у заканадаўстве дзяржава перайшла на нарматыўны прынцып падтрымкі тэатраў, што дазволіла павялічыць сродкі на фінансаванне новых спектакляў (ёсць нават прэцэдэнт бюджэтнага фінансавання пастаноўкі ў прыватным тэатры). І гэта, на думку П. Латушкі, надзвычай важна, бо тэатр жыве, калі ёсць прэм'еры. Станоўчыя змены ў развіцці сцэнічнага мастацтва чакаюцца і ў сувязі з атрыманнем падатковых ільгот творчымі калектывамі, і з перспектывай стварэння пры іх апякунскіх саветаў. Міністэрства культуры плануе ажыццявіць і дзяржзаказ на відэафіксацыю лепшых спектакляў дзеля іх захавання і папулярызацыі.

*"У спісе намінантаў на прэмію — 12 спектакляў. Гэта "Набука" Дж. Вердзі НАВТ оперы і балета Рэспублікі Беларусь; "Не мой" А. Калюновай, А. Гарцуева паводле аповесці А. Адамовіча "Нямко" Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы; "Сонечка" А. Паповай паводле рамана Ф. Дастаеўскага "Злачынства і пакаранне" Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі; "Квартэт" Р. Харвуда Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа; "Эсфір" паводле п'есы Л. Уліцкай "Мой унук Веніямін" Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага; "Аршын мал алан" У. Гаджыбекава Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра; "Драй швестэрн" паводле "Трох сёстраў" А. Чэхава Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек; "Сабака на сене" Лопэ дэ Вегі Драматычнага тэатра Беларускай Арміі; "Магічнае люстра пана Твардоўскага" С. Кавалёва Гродзенскага абласнога тэатра лялек; "Хросная маці" М. Горкага паводле п'есы "Васа Жалязнова" Гомельскага абласнога драматычнага тэатра; "№ 13" Р. Куні Тэатра-студыі кінаакцёра Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм"; "Тарэлкін" А. Сухаво-Кабыліна Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра.*

Дзяржава імкнецца заахвочваць і падтрымліваць тых, на кім трымаецца тэатр, — творчых асоб, адзначаючы іх ганаровымі званнямі. А цяпер, упершыню ў гісторыі айчыннага мастацтва, з'явілася і Нацыянальная тэатральная прэмія. Параўноўваць яе з "Крыштальнай Паўлінкай" было б недарэчна. Уручэнне прэстыжнага ў прафесійных колах прыза (дакладней, сямейства крыштальных прызоў па розных намінацыях) ад Беларускага саюза тэатральных дзеячаў прымяркоўваецца да Міжнароднага дня тэатра і сімвалізуе найперш "карпаратыўнае" прызнанне творчых заслуг. Нацыянальная прэмія — знак афіцыйнай увагі да творцаў, дзяржаўны праект, задачы якога міністр культуры бачыць у актывізацыі тэатральнага жыцця і тэатральнага працэсу ў краіне, стымуляванні пошуку ў прафесійным мастацтве, узмацненні ролі тэатра ў беларускім грамадстве, прыцягненні большай увагі насельніцтва да тэатральнай творчасці.

Ацэньваюць намінантаў на прэмію 112 спецыялістаў: крытыкі, мастацтвазнаўцы, акцёры, рэжысёры, кампазітары, якія прысутнічаюць на конкурсных паказах і выстаўляюць свае адзнакі. Беспрэцэдэнтная для нашай краіны маштабная падзея не толькі з'яўляецца рэальным унёскам дзяржавы ў тэатральнае мастацтва, але і дае спажыву для роздуму пра лёс айчыннага мастацтва. І хоць самая кампетэнтная яго ацэнка заўсёды будзе суб'ектыўнай, крытычны погляд збоку неабходны. Для асэнсавання рэальнага стану тэатральных спраў. Для ўсведамлення таго, што з драматургіі ды рэжысуры "выпала" наша сярэдняе пакаленне — аснова тэатра, злучальнае звяно між генерацыяй ужо амаль легендарных старэйшын і таленавітай моладдзю. Для разваг пра нялёгкі выбар нацыянальнага тэатра: застацца Мастацтвам з вялікай літары ці скіравацца ў рэчышча масавай культуры, да якога падштурхоўваюць глабалізацыя, пошук хуткай папулярнасці ды касавага поспеху.

Міністр культуры Павел Латушка ды іншыя ўдзельнікі прэс-канферэнцыі — знаныя прадстаўнікі тэатральнай сферы Рычард Смольскі, Міхаіл Панджавідзэ, Валерый Анісенка, закрануўшы надзённыя праблемы сцэнічнага мастацтва, выказалі спадзеў, што цяперашняя арганізацыйна-творчая праца, звязаная з Нацыянальнай тэатральнай прэміяй, стане добрым досведам для ўдасканалення гэтага праекта.

# Сказаць пра важнае

**"Усё мінае" — адзін з варыянтаў тлумачэння надпісу на пярсцёнку цара Саламона. Пагадзіўшыся з гэтай мудрасцю, заўважым: усё пакідае след. Які ж след пакінуў VIII Міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў "Тэатральны куфар", прысвечаны 90-годдзю Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта?**

Алена ДРАПКО

Грандыёзнае свята ва ўнутраным дворыку БДУ "Куфар-Град" — адкрыццё фестывальнага тыдня. Была магчымасць адпачыць у скверы Натхнення, выказаць набалелае і пакінуць свае пажаданні ў Тупіку Крытыкі, прайсціся па Cinema-бульвары і завітаць з дзецьмі ў Завулак Юных талентаў — адным словам, далучыцца да атмасферы бясконцай радасці. Канцэпцыя фестывалю "Восем раўняецца бясконцасці" апраўдала сябе і ў разнастайнасці ўдзельнікаў з 15 краін, і ў мностве імпрэз, і ў саміх спектаклях. Кожны мог выбраць відовішча на свой густ.

Добрым стартам конкурснай праграмы стаў спектакль "Дзеці сэрца" (рэжысёр Яір Мосел) тэатра акцёрскай школы "Yoram Loewenstein" з Ізраіля. Гісторыя вандроўкі чатырох хлопцаў, якіх адпраўляюць на пошукі разбітага сэрца свету, каб вылечыць яго. Замежная мова спектакля не стала перашкодай для ўспрымання яго ідэі: яднанне людзей дзеля ўратавання ад разбурэння. Магічная фантазія пастаноўшчыка і зладжаная ігра акцёрскага квартэта захаплялі гледача і ўражвалі тым, як можна мінімальнымі сродкамі стварыць сапраўдны спектакль.

Беларускія студэнцкія тэатры сёлета былі прадстаўлены 13 калектывамі, 4 з іх удзельнічалі ў конкурснай праграме. Запомніўся народны тэатр "Сатрап" Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта са спектаклем "Арт" рэжысёра Валянціны Кастальцавай. Тонкае, выразнае і глыбокае ўваходжанне акцёраў у свае ролі дазволіла гледачам пражыць яскравую гісторыю адносін трох сяброў і разлад сяброўства з-за белай карціны. Мабыць, многія задумаліся над актуальнасцю праблем успрымання сучаснага мастацтва, залежнасці ад чужых меркаванняў.

Адзначу і спектакль "У палаючай цемры" рэжысёра Вісвалдзіса Клінтсанса. У цэнтры п'есы — Ігнасіа (Каспарс Котанс — прыз у намінацыі "Лепшы акцёр"), які паступае ў інстытут для невідушчых. Герой не хоча змірыцца са сваёй праблемай і змагаецца з асяроддзем — групай сляпых людзей, якія лічаць сябе шчаслівымі, — за пошук уласнага шляху. Акцёрам удалося паказаць асаблівасці паводзін людзей, пазбаўленых зроку, але ў гэтых вобразах не хапала драматызму, які выклікаў бы гледача на дыялог перажывання.

П'есу У. Шэкспіра "Сон у летнюю ноч" у версіі рэжысёра Андрэі Ковач прадставіла Тэатральная школа Першай гімназіі г. Марыбор са Славеніі. Яскравы, жывы спектакль з добрай ігрой акцёраў, цікавымі рэжысёрскімі задумкамі быў узнагароджаны не толькі апладысментамі гледачоў, але і спецыяльным прызам ў намінацыі "Лепшы касцюм".

Варыяцыю на тэмы сувязі часоў, сучаснага жыцця ўсходніх краін прапанаваў тэатр "FunTasia" Нацыянальнай школы бізнесу і менеджменту г. Касабланка (Марока) у спектаклі "Вар'яцтва і фантазія". Спектакль напоўнены шэрагам сімвалаў: зламаны Пульт кіравання, Мастак, Вайсковец — усё гэта ўцекачы з вар'яцкага дома. Але гэтыя вобразы — удалая метафара для характарыстыкі сучаснасці і мінулага, становішча, калі ідуць безупынныя войны, калі людзей падпарадкоўвае сістэма і іх крытычныя заўвагі застаюцца без каментарыяў. Выснова? Фантазія — гэта свабода, якая дазваляе гаварыць пра важнае і быць пачутым альбо застацца ў ліку вар'ятаў.




Сярод фестывальных спектакляў быў такі, які аб'яднаў усіх нават без слоў. Абсурднасць жыцця, паяднаная з праявамі яго трагізму, увасобленыя на сцэне акцёрскім трыа з моладзевага тэатра-студыі "Галёрка" (Расія, г. Екацярынбург) кранулі сэрцы публікі і заваявалі прыз сімпатый гледачоў, Гран-пры фестывалю. Актрыса Ірына Сальнікава перамагла ў намінацыі "Лепшая актрыса". Побытавая гісторыя, дзе ёсць ён, яна і муж у шафе. Смешнае, здавалася б, становішча, але не было б гэтак весела, каб не было гэтак сумна, бо анекдот раптам перарастае ў кранальную і маркотную гісторыю амаль знойдзенага кахання. Праблема ў тым, што часам чалавеку бракуе сілы змагацца з абставінамі і змяняць сваё жыццё, хоць блізкі чалавек і па імені цябе не называе, і за чалавека не лічыць. Але ж, магчыма, гэта сапраўды тое, чаго мы заслугоўваем? Ці жыць гэтак — проста звыкла?

"Тэатральны куфар" замкнуўся да наступнага года. Пераможцы атрымалі заслужаныя ўзнагароды. Фестывальная зала апусцела і сцішылася... у чаканні новых імёнаў, новых ідэй і незабыўных сустрэч.

**"Ён заўсёды любіў Беларусь" — так называлася эсэ Уладзіміра Саламахі, прысвечанае творчасці і актыўнай жыццёвай пазіцыі вядомага беларускага пісьменніка Янкі Сіпакова ("ЛіМ", № 38 ад 23 верасня 2011 г.). Публікацыя не засталася не заўважанай нашымі чытачамі. Вітаючы шматгалоссе думак, сёння мы друкуем два супрацьлеглыя водгукі на яе.**


4 Літаратура і мастацтва № 38 23 верасня 2011 г. Ракурс

Уладзімір САЛАМАХА, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь

Ён заўсёды любіў

Янка Сіпакоў… Незабыўны Іван Данілавіч… Светлы чалавек. Спагадлівы… А спагада ягоная была такая, з якой, як кажуць людзі, зыходзіць усё лепшае, чым чалавек можа адарыць іншага, не патрабуючы нічога ўзамен. І была яна вядомая ўсім тым, хто знаўся, сябраваў, проста таварышаваў з Іванам Данілавічам або толькі аднойчы сустракаўся з ім на якой жыццёвай сцяжыне — ці то светлай, ці то сумнай…

Зіновій ПРЫГОДЗІЧ

**З удзячнасцю прачытаў артыкул Уладзіміра Саламахі "Ён заўсёды любіў Беларусь", прысвечаны жыццю і творчасці Янкі Сіпакова. Прачытаў і з цікавасцю, бо аўтар выказаў шмат сур'ёзных і слушных думак, якія мяне зачапілі, што называецца, за жывое, прымусілі ўзяцца за пяро.**

# Яго вялікае сэрца

Самае блізкае і самае балючае — стан нашай сённяшняй літаратуры, і асабліва маладой. Цалкам згодны з аўтарам публікацыі: "…толькі абыякавы да ўсяго не бачыць, што нямала хто з маладых і, што асабліва крыўдна, таленавітых выведзены з сапраўднай літаратуры… і творчасць многіх з іх скіравана, як казаў класік (рускі), "мимо жизни", скіравана пад крывадушныя фанфары і гідлівыя апладысменты і г.д."

З вялікай заклапочанасцю пра творчасць маладых гаварыў мне нядаўна адзін наш класік — выдатнейшы літаратар і навуковец Адам Мальдзіс. Эксперымент, творчы пошук — гэта добра, гэта нават патрэбна на пачатку літаратурнай дарогі, даводзіў ён, але калі эксперымент зацягваецца надоўга, то гэта не на карысць ні аўтару, ні літаратуры.

А колькі мы пра гэта гаварылі з Янкам Сіпаковым! Не раз і не два, калі размова заходзіла пра сённяшнюю літаратуру, Іван Данілавіч скрушна заўважаў: "…Наша пакаленне ўсур'ёз, з найвялікшай пашанай ставілася да слова, да літаратуры. Гэта быў для нас храм, у які мы ўваходзілі асцярожна, сцішана і ніякавата, узнёсла — як маліцца…

Цяпер жа наша цнатлівая пашанота знікла, і маладыя сёння на літаратуру глядзяць як на гульню: бумбам-літ, тазікі і г.д.

Калі паэты маладыя — гэта нармальная з'ява. Але ж час ідзе, і маладыя паэты старэюць — не будзеш жа да сівых гадоў гуляць у лялькі".

Магчыма, некаторым падасца крыўдным чытаць такое. Магчыма, хтосьці не пагодзіцца. Але трэба глядзець праўдзе ў вочы. Тым больш што справа гэта не асабістая. Тут — клопат пра самае важнае, самае святое для грамадства — пра літаратуру. І варта, каб кожны, хто адважыўся ступіць на яе няпростую і пакутную дарогу, працаваў з вялікай адказнасцю і годнасцю, думаў, кажучы словамі Сіпакова, пра стварэнне гармоніі, а не пра яе разбурэнне.

І яшчэ пра адну нашу сённяшнюю літаратурную бяду, якую закрануў у сваім артыкуле У. Саламаха. Бяда гэтая — татальная графаманства, калі "часта нібыта пісьменніцкія здольнасці аўтара вызначаюцца не мастацкімі вартасцямі напісанага, а колькасцю выдадзенага". А выдаць сёння кніжку — не праблема, былі б толькі ў аўтара грошы, і прыватныя выдавецтвы, якіх расплодзілася процьма, гатовыя табе адштампаваць любую колькасць экзэмпляраў і ў якім хочаш афармленні. І ніякай табе цэнзуры, ніякіх рэдактараў і карэктараў. Выдаўшы адну-дзве такія, з дазволу сказаць, кніжкі, чалавек ужо лічыць сябе пісьменнікам, а над тым не задумваецца, што часам сапраўды не ведае "самага простага, напрыклад, як правільна пабудаваць сказ… тым больш законаў мовы ды чым адзін жанр адрозніваецца ад другога!"

Актуальнасць праблем відавочная. І вельмі добра, што "ЛіМ" закрануў іх якраз напярэдадні чарговага з'езда пісьменнікаў. Трэба спадзявацца, што яны будуць сур'ёзна і грунтоўна абмеркаваны нашымі майстрамі пяра.

Гэта што датычыцца цікавасці. А ўдзячны я аўтару артыкула таму, што Янка Сіпакоў, пра якога з такой любоўю і пашанотай напісаў У. Саламаха, — і мой даўні сябра. Скажу больш: мой самы лепшы, самы верны сябра, з якім я меў гонар і вялікую радасць то больш часта, то радзей сустракацца і шчыра, даверліва пра ўсё гаварыць на працягу амаль трох дзесяцігоддзяў. Апошнія сем гадоў мы нават разам працавалі.

Тое, што сказаў У. Саламаха пра Янку Сіпакова, абудзіла ў маёй душы вір успамінаў і асацыяцый. І захацелася мне таксама ўставіць свае "тры капейкі".

Так, Янка Сіпакоў — высокі і магутны талент, які, на маю думку, і да гэтага часу па-сапраўднаму не ацэнены і як след не асэнсаваны ні нашай крытыкай, ні нашай грамадскасцю. Хаця ён у сорак гадоў ужо меў Дзяржаўную прэмію, а крыху пазней быў узнагароджаны і званнем заслужанага дзеяча культуры. Але ж справа не ва ўзнагародах. Справа ў вызначэнні ролі і месца пісьменніка ў нашай літаратуры. І не толькі нашай, а можна браць і шырэй — ва ўсім славянскім свеце. Бо яго кніга "Веча славянскіх балад" — геніяльнае слова пра нашых братоў суседзяў, пра нашу агульную гісторыю.

Аднак талент — гэта толькі паўсправы. А што патрабуецца яшчэ для таго, каб стаць пісьменнікам? Аднойчы такое наіўнае пытанне я задаў Івану Данілавічу. І ён надзвычай сур'ёзна адказаў: адукацыя, веданне жыцця, працавітасць і цярпенне.

Усімі гэтымі якасцямі Сіпакоў валодаў у поўнай меры. Вучыўся ўсё сваё жыццё. Меў адну з найбагацейшых бібліятэк у Мінску. Ганарыўся тым, што сваю самую запаветную кнігу "Зялёны лісток на планеце Зямля" — своеасаблівую энцыклапедыю пра Беларусь і беларусаў — напісаў не выходзячы з дому, уся неабходная літаратура знайшлася ў хатняй бібліятэцы.

Здзіўляў глыбокім веданнем жыцця. Па-першае, да сямнаццаці гадоў жыў у вёсцы і як круглы сірата рана спазнаў усе радасці і турботы сялянскага жыцця — і касіў, і араў, і кароў пасвіў, і дровы нарыхтоўваў… Пазней, ужо маладым пісьменнікам, з пуцёўкай літфонду аб'ехаў як не ўвесь Савецкі Саюз. У Туркменіі, у конегадоўчым саўгасе захапляўся стрункімі ахалтэкінцамі. У Каракумах бачыў, як ходзяць па пустыні пяскі і барханы. З вострава Дыксан з лётчыкамі палярнай авіяцыі лятаў у лядовую разведку ў Паўночны Ледавіты акіян. У атамнай падводнай лодцы лажыўся на дно Ціхага акіяна. У Арменіі хадзіў па воблаках на высакагорным возеры Севан. Шышкаваў у тайзе. Хадзіў у ягады ў Саянах. У Абхазіі любаваўся горнымі рэчкамі. У Грузіі падымаўся да манастыра Джвары, дзе жыў лермантаўскі Мцыры. Пабываў на Кольскім паўвостраве…

А яшчэ ж былі камандзіроўкі ад газеты "Звязда" на навабудоўлі. Прыязджаў, уладкоўваўся праз аддзел кадраў на працу і вывучаў жыццё: у Салігорску вучнем прахадчыка, у Наваполацку — у брыгадзе муляраў. "Цяпер, можа, гэта і смешнаваты спосаб вывучэння жыцця, — сказаў неяк Іван Данілавіч, — але ён мне, павер, нічым не замяняе і сёння".

А ўжо пра Сіпакоўскую працавітасць і цярпенне хадзілі легенды. Ды і сам ён прызнаваўся: "Я — працаголік, і таму ўсюды толькі шчыра і настойліва працаваў… Я шчаслівы, што ў мяне выйшла 55 кніжак паэзіі, прозы, эсэ, перакладаў. Неяк і сам не разумею, як гэта атрымлівалася, аднак на мяне і маю творчасць мала ўплывала змена эпох, лідэраў, фармацый. Я, не зважаючы на іх, пісаў толькі тое, што хацелася". Пісаў, дарэчы, кожны дзень. Ад цямна і да цямна, нярэдка прыхопліваючы і ноч. І не стамляўся. Стамляўся, калі не працаваў.

Гаворачы пра Янку Сіпакова, нельга не сказаць пра яго як пра выдатнага Майстра. Майстра слова, майстра сюжэта, майстра самых розных літаратурных жанраў. Такую разнастайнасць жанраў, як у Сіпакова, рэдка ў каго можна знайсці. У паэзіі гэта санет, вянок санетаў, балада, тэрцына, буколіка, верлібр, трыялет, эпіталама, паэма ў прозе. У прозе — апавяданне, эсэ, апавесць, прытча, навела, мініяцюра, нарыс, фантастыка. І нават у рамках аднаго жанру ён пазбягаў паўтарэння, аднастайнасці. Скажам, тая ж прытча ў яго своеасаблівая. Яна не заўсёды кананічная. Шукаў і знаходзіў у ёй нейкі свой пяты вугал, нейкае невядомае вымярэнне. Таму і атрымоўваліся то прытча-аповесць, то прытча-навела, то прытча-апавяданне, то нават прытча-метафара.

"І ўсё ж з усіх складнікаў майстэрства пісьменніка найперш — сэрца, — не раз падкрэсліваў Янка Сіпакоў. — Удзельнічае сэрца ў творчым працэсе — у творы будзе ўсё: і мова, і стыль, і сэнс. Яно — пачатак усялякай творчасці, яно — пачатак хвалявання, без якога не можа нарадзіцца ніводзін сапраўдны твор".

Праз сваё чуйнае, мудрае, спагадлівае сэрца Іван Данілавіч прапускаў не толькі кожны свой радок, але і адносіны да людзей. Так, ён сапраўды адчуваў сябе шчаслівым ад таго, што за ўсё сваё жыццё нікога нідзе ніколі не пакрыўдзіў і не абразіў. Але гэта не значыць, што яго можна назваць усёдаравальным. Не, калі справа тычылася рэчаў важных, дарагіх для яго, асабліва ў літаратуры, Іван Данілавіч праяўляў і цвёрдасць, і прынцыповасць. Я быў аднойчы сведкам, калі да Сіпакова падышоў адзін з нашых пісьменнікаў і з усмешачкай працягнуў яму руку для вітання.

— А я табе рукі не падам! — суха адрэзаў Іван Данілавіч.

Збянтэжаны калега ўспыхнуў і крутнуўся назад у натоўп. На мой запытальна-здзіўлены позірк Іван Данілавіч патлумачыў:

— Подласці не дарую.

Многае, многае яшчэ ўскалыхнулася ў маёй душы, у маёй памяці, калі чытаў успаміны пра майго незабыўнага сябра Янку Сіпакова. Можа, некалі напішу пра гэта і больш грунтоўна, і больш сістэмна. Цяпер жа мне проста захацелася адгукнуцца на публікацыю Уладзіміра Саламахі і сказаць яму дзякуй за разумнае, усхваляванае слова.

Ірына ШАТЫРОНАК

# Атакі на ветракі

**Тры артыкулы У. Саламахі, з якімі мне давялося пазнаёміцца ў "ЛіМе": "Дэвальвацыя сумлення" (лістапад 2010 г.), "Служэнне літаратуры" (ліпень 2011 г.), "Ён заўсёды любіў Беларусь" (верасень 2011 г.), — пакінулі дваісты асадак. Растлумачу чаму.**

Аўтару ўласцівы характэрная для яго манера пісьма, шматлікія туманныя пасылы і намёкі. Маркуйце самі: *"эта, між іншым, тыя, хто разбурае сваімі як быццам кнігамі літаратуру..."*, *"сярод нас, пісьменнікаў, заўсёды былі "патрыёты" на пасадах, якія "...дзеля сваіх выгод цынічна выкарыстоўваюць шмат што, у тым ліку і найвышэйшае і найсвяцейшае чалавечае пачуццё — любоў да Радзімы..."* Паколькі аўтарскія "філіпікі" падаюцца ў нясмела-абцякальнай форме, занадта саманадзейна і павучальна, даводзіцца, міжволі, звярнуць на іх асаблівую ўвагу.

У новым артыкуле У. Саламахі, як і ў папярэдніх, выкарыстаны вядомы прыём — "два ў адным", калі ў структуру аднаго тэксту ўводзіцца іншы, часта супрацьлеглы. Аўтар паспрабаваў зрабіць літаратурны партрэт пісьменніка Янкі Сіпакова, укараняючы ў тканіну тэксту часта недарэчны, чужародны матэрыял. Магчыма, у руках іншага творцы такі складаны прыём зайграў бы ўсімі фарбамі, і двухслаёвасць матэрыялу зраслася, усё арганічна стала б на свае месцы і нейкія шурпатасці былі незаўважныя, але ў дадзеным выпадку ўбачвідкі нейкая надуманасць і, паўтаруся, чужароднасць тэкстаў. Як быццам два розныя аўтары сустрэліся ў адным артыкуле.

Для прыкладу, спашлюся на першы абзац, так званы зачын, ад тэмпу і вобразнасці якога часта залежыць лёс усяго артыкула: захоча чалавек далей чытаць яго ці абыякава прабяжыць вачыма. *"І калі я вазьму на сябе смеласць сказаць, што гэтая ягоная чалавечая якасць па сённяшнім часе, здаецца, не такая ўжо і частая з'ява ў якім-небудзь асяродку, у тым ліку і творчым, ці калятворчым, дык гэта так. І як бы са мной не пагаджаліся тыя або іншыя прадстаўнікі згаданых асяродкаў, тым больш тых, што найперш "па асабістых інтарэсах і памкненнях", нічога не зменіцца: "имеет место быть" жыццёвая з'ява — адарванасць і адмежаванасць ад людзей любога з нас непазбежна вядзе да гэтага".*

Згодна, дазаваныя намёкі, як ускосная перадача інфармацыі, таксама нясуць пэўную эмацыянальную нагрузку, але ўсё добра ў меру. Аўтар такой меры не трымаецца, і ад гэтага артыкул становіцца друзлым, бяздоказным.

Хачу асабліва спыніцца на наступным моманце. "…*Пакаленні, калі ўжо размова зайшла пра іх, — Караткевіча, Сіпакова…, часткова Рубанава і Казлова (вядома, мяжа ўмоўная), як бы сёння каму не хацелася прызнаваць гэта, асабліва графаманам, былі і застаюцца самымі творча (і не толькі творча) адукаванымі. Многія творы найбольш здольных літаратараў гэтых пакаленняў у свой час годна папаўнялі тую беларускую літаратуру, якой мы па праву ганарыліся і ганарымся. (І як тут не пагадзіцца з тымі, хто "в сердцах" кажа, што будучае літаратуры — яе мінулае!)*"

У. Саламаха паспешліва прызнаецца, што выбудаваная ім мяжа ўмоўная, але свой спіс прозвішчаў сучасных аўтараў ён "заслупаваў". Такім чынам, своеасаблівая пастаўлены ў адзін шэраг імёны беларускіх пісьменнікаў — ад У. Караткевіча да А. Казлова. Думаю, што нетычна прыраўноўваць класікаў, якія зышлі ў вечнасць, з творцамі, якія жывуць.

Па-мойму, аўтар занадта "захапляецца" дужкамі, іх зашмат, каля трыццаці — накшталт плота. Часам здаецца, яны нясуць тэхнічны сэнс нейкіх падпорак, але ніяк не сэнсавую нагрузку. За імі хаваецца паспешлівая недамоўленасць.

І яшчэ адна цытата: "*Яны — паэты, празаікі, крытыкі, літаратуразнаўцы, драматургі тых пакаленняў — вучыліся ў класікаў. Класікі стварылі паняцце кнігі як такой (з усім, што яна нясе і павінна несці). Яны, пакаленні гэтых нашых сучаснікаў, ведалі і ведаюць жыццё. Яны ішлі ў жыццё, каб у сваіх творах сцвярджаць яго. Яны таксама ўмацавалі ў грамадстве паразуменне кнігі…*" Можа, гэта гучыць і патэтычна, на высокай паэтычнай ноце, але не сцвярджальна.

Трэба ўсё ж мець смеласць называць рэчы сваімі імёнамі, рабіць дакладныя высновы, пазначаючы сучасныя тэндэнцыі і нават прагнозы ў літаратурным працэсе. Ды, урэшце рэшт, варта закончыць барацьбу з ветракамі.

Мікола БЕРЛЕЖ

**У верасні 2012 года спаўняецца 100 год з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Максіма Танка. Яркая і шматаблічная асоба, ён шмат падарожнічаў па свеце. І ў складзе савецкіх дэлегацый, палітычных, грамадскіх дзеячаў, і разам з калегамі-пісьменнікамі, і адзін — па запрашэнні творчых арганізацый з іншых савецкіх рэспублік і краін свету. Зазірніце ў 10-ы том збору твораў паэта, дзе змешчаны дзённікі класіка беларускай паэзіі, і вы знойдзеце нямала згадак літаральна пра дзясяткі мясцін, з якімі лёс звязаў пісьменніка. Неадноўчы Яўген Іванавіч рабіў кароткія, лаканічныя запісы пра Кітай і кітайскіх мастакоў слова. Згадкі зусім не выпадковыя. Яшчэ ў 1957 годзе Максім Танк месяц правёў у далёкай азіяцкай краіне. Вынікам паездкі стаў кітайскі цыкл вершаў. А ў паездцы па Паднябеснай беларускага паэта суправаджаў малады перакладчык, публіцыст Гао Ман.**



# Максім Танк: «...Мой стары знаёмы — Гао Ман»

...Пройдуць гады. І ў снежні 1983 года ў дзённіку Максіма Танка з'явіцца наступны запіс: “К. Шэрман, які толькі што вярнуўся з маскоўскай нарады перакладчыкаў, перадаў прывітанне ад Гао Мана. Я ўжо думаў, што ён загінуў падчас культурнай рэвалюцыі ў Кітаі...” А яшчэ раз праз некалькі гадоў — 5 студзеня 1987 года — новы запіс: “...Прыязджае да нас мой стары знаёмы Гао Ман. Як шкада, што я не магу з ім сустрэцца, падзякаваць яму за пераклады і выданне майго зборніка на кітайскай мове”. А праз чатыры дні, 9 студзеня, М. Танк запісвае: “Прыехаў Гэ Баоцюань. Эх, як не ў час падкасіла мяне гэтая хвароба!..” Тут, відаць, трэба патлумачыць. Кнігу беларускага паэта “Выбраныя творы” (Пекін, 1958 год) на кітайскую мову пераклалі два творцы — Гэ Баоцюань і У Ланьхань (у 6-м томе біябібліяграфічнага слоўніка “Беларускія пісьменнікі” ў напісанні прозвішча апошняга з іх ёсць памылка, прозвішча падаецца адным словам “Уланьхань”). А што ж тады мы гаворым пра Гао Мана як пра перакладчыка беларускай паэзіі? Уся справа ў тым, што У Ланьхань — псеўданім Гао Мана. А што да блытаніны ці проста памылкі ў студзеньскіх 1987 года запісах Танка, то сітуацыя, відавочна, складвалася наступным чынам. Была папярэдняя інфармацыя, што павінен прыехаць Гао Ман. Але ён, наведаўшыся ў Савецкі Саюз, спыніў сваё падарожжа ў Маскве. А вось Гэ Баоцюань да Мінска даехаў.

Шкада, што пасля 1957 года новай сустрэчы Танка са сваім перакладчыкам так і не адбылося. Але ж, пэўна, нейкі асаблівы ён чалавек — Гао Ман, ці У Ланьхань, калі і праз дзесяцігоддзі беларускі паэт памятаваў свайго даўняга кітайскага знаёмца. Ведаючы, што ён нарадзіўся ў 1926 годзе, цяпер, у 2011 годзе, шукаць перакладчыка ў Кітаі здавалася справай сумнiўнай. І ўсё ж я адважыўся. Звярнуўся да галоўнага рэдактара часопіса “Руская літаратура і мастацтва” доктара філалагічных навук Ся Чжунсянь. І было гэта на пачатку сёлетняга чэрвеня. Прафесар Ся Чжунсянь была ў ад'ездзе і адказала не адразу. Недзе ў сярэдзіне жніўня ў мяне ўжо былі адрас Гао Мана, яго хатні тэлефон, электронная пошта яго дачкі. Так пачаліся нашы стасункі са старэйшым кітайскім пісьменнікам і публіцыстам, актыўным прапагандыстам рускай, савецкай літаратуры ў Паднябеснай. Найперш мяне цікавілі яго ўспаміны пра Максіма Танка, дэталі з таго кастрычніка 1957 года.

І вось што давялося пачуць ад жывога сведкі эпохі... “Мне было нечакана, — піша Гао Ман, — што праз столькі год у Беларусі знайшоўся чалавек, які прачытаў мой артыкул пра мастака Георгія Паплаўскага. Артыкул быў напісаны даўно. Пэўна, ёсць такія месцы, якія трэба паправіць...”

Размова — пра тое, што даўным-даўно ў адным з кітайскіх часопісаў Гао Ман расказаў пра беларускага жывапісца, графіка, народнага мастака Беларусі Георгія Паплаўскага. Наша перапіска і пачалася з роспытаў пра гэты артыкул. Пасля ў перакладзе на беларускую мову тэкст быў надрукаваны ў “Літаратуры і мастацтве”.

“56 гадоў назад (выходзіць, што ў 1955-м. — **М. Б.**) я быў у Мінску, — расказвае перакладчык. — Тады там будавалася новая галоўная вуліца. Падрабязнасці наведвання ўжо не памятаю. Сустракаўся са скульптарам Заірам Азгурам. Праз шмат гадоў я атрымаў ад яго альбом сваіх твораў. На тытульнай старонцы ён, пэўна, дрыготкай рукою пакінуў свой подпіс”.

Заіра Азгура кітайскі перакладчык успамінае і ў лісце ад 28 жніўня 2011 года: “Тады, у Мінску, мы доўга размаўлялі з Заірам Азгурам. Пасля, праз гады, пад уражаннем сустрэчы, я напісаў наступны тэкст: “Перш, чым пазнаёміцца ў 1955 годзе з самім Заірам Азгурам, я паспеў убачыць яго работы — бюсты, помнікі, гарэльефы, прысвечаныя героям Вялікай Айчыннай... Мяне ўразіла, як скульптар прымаў кітайскую дэлегацыю ў сябе ў майстэрні. Усіх абняў, прыціснуў да сябе. Доўга і з захапленнем гаварыў пра старажытную культуру Кітая, ухваляў новыя перамены ў Кітаі. А напрыканцы заўважыў: “Я абавязкова з'езджу ў Кітай”. Пасля зрабіў паўзу і дадаў: “Калі ў мяне ў гэтым жыцці не застанецца часу на такую паездку, то мой сын абавязкова з'ездзіць у Кітай”. Гэтыя словы назаўжды засталіся выгравіраванымі ў маім сэрцы”. Праз год, у 1956-м, мы сустрэліся з Азгурам у Маскве. Да таго часу



беларускі майстра закончыў бюст кітайскага пісьменніка Лу Сіня. Тады мне падумалася, якой сілы павінна быць мастацкае ўяўленне, каб на такой далечыні настолькі дакладна, вобразна стварыць скульптурны партрэт вялікага мысляра і літаратара сучаснага Кітая. Хутка бюст быў падараваны аўтарам кітайскаму ўраду. Я памятаю той снежны дзень, калі ў мемарыяльным доме Лу Сіня было шмат наведвальнікаў. І літаральна кожны з іх падоўгу затрымліваўся каля “беларускага” Лу Сіня. Па бляску ў вачах наведвальнікаў музея я змог зразумець, якія глыбокія пачуцці праявілі мае суайчыннікі да невядомага майстра з далёкай краіны. Наша цэнтральная газета “Жэньмін Жыбао” спецыяльна надрукавала тады фатаграфічную выяву азгураўскай скульптуры Лу Сіня.

> *“...У 1957 годзе беларускі паэт Максім Танк разам з савецкай дэлегацыяй дзеячаў мастацтваў прыехаў у Кітай. Гао Ман суправаджаў яго. Яны пабывалі ў многіх кутках краіны. Пасля ў Танка выйшаў зборнік вершаў, дзе змешчаны і некалькі твораў пра Кітай...*

І ўсё ж — пра народнага паэта Беларусі: “...У 1957 годзе беларускі паэт Максім Танк разам з савецкай дэлегацыяй дзеячаў мастацтваў прыехаў да нас. Я суправаджаў яго. Мы пабывалі ў многіх кутках нашай краіны. Пасля ў яго выйшаў зборнік вершаў, дзе змешчаны і некалькі твораў пра Кітай...”

Каб ведаць, якія творы ўвайшлі ў “кітайскі цыкл”, зазірнем у 3-і том збору твораў Максіма Танка (Мінск, “Беларуская навука”, 2007), дзе змешчаны вершы 1954—1964 гадоў. “Вялікая Кітайская сцяна”, “Ці Байшы”, “Лунмынскія пячоры”, “Хустка”, “Міска для рысу”, “Мост вечнага спакою”, “Белы конь”, “Бронзавае люстэрка”, “Я паўдня вас чакаў”, “Засуха ў правінцыі Хэнань”, “Цень помніка ў люстры возера Дыньху”, “Янцзы”, “Попельніца з какосавага арэха”, “Старая прымаўка” — у гэтых і іншых творах беларускі майстар паэзіі закрануў самыя розныя тэмы. Максім Танк захоплена апавядаў пра багатую гісторыю Кітая. Паэта цікавілі сацыяльныя змены, якія прыйшлі ў краіну разам з камуністычнай уладай. Асобна вылучаюцца творы з развагамі аўтара пра ролю і месца мастака ў грамадстве, пра яго стасункі з народам.

“Мы з Гэ Баоцюанем, — расказвае Гао Ман, — пераклалі іх на кітайскую мову і выдалі зборнік яго вершаў. Я напісаў пасляслоўе. Гэта было яшчэ да развалу Савецкага Саюза...”

Усё ж цікава, чаму так склалася ў жыцці перакладчыка, што яго інтарэсы былі скіраваны ў бок рускай, савецкай літаратуры, культуры? Вось што адказвае наш кітайскі карэспандэнт: “Я нарадзіўся ў 1926 годзе ў Харбіне і пражыў там больш як 20 гадоў. У той час у гэтым горадзе пражывала шмат эмігрантаў з розных краін і асабліва шмат рускіх. Я вучыўся ў гімназіі пры Хрысціянскім Саюзе маладых людзей (ХСМЛ). Выкладчыкі і навучэнцы ў большасці сваёй рускія. Былі і прадстаўнікі другіх нацыянальнасцей, але мы іх не вылучалі. Паколькі ўсе гаварылі па-руску...”

Дарэчы, Харбін — з кітайскіх гарадоў, якія не чужыя і беларусам, і ўраджэнцам Беларусі. З Харбінам звязаны лёс ураджэнца Навагрудка каталіцкага святара Фабіяна Абрантовіча (1884—1946). У лістападзе 1928 года Ф. Абрантовіч быў прызначаны апостальскім адміністратарам для рускіх каталікоў у Маньчжурыі. Часта выступаў у друку ў беларускіх рэлігійных выданнях. У 1918—1919 гг. сябраваў з Янкам Купалам. У Харбіне ў пачатку 1930-х узначальваў ліцэй Святога Мікалая Цудатворцы Язэп Германовіч (нарадзіўся ў 1890 годзе ў Гальшанах). Аўтар успамінаў “Кітай — Сібір — Масква” (надрукаваны на беларускай, польскай, італьянскай, літоўскай і рускай мовах). Будзем спадзявацца, што пабачыць свет гэтая кніга і на кітайскай мове.

“Таму я з дзяцінства, — піша далей Гао Ман, — вучыўся рускай мове і палюбіў гэтую краіну і яе народ. Руская літаратура і мастацтва выпраменьваюць спачуванне да простага, працоўнага люду, дапамагаюць яму ў барацьбе за вызваленне. А мы, кітайцы, гаспадары сваёй краіны, жылі тады пад гнётам японскіх інтэрвентаў. Руская літаратура дапамагла нам раскрыць вочы”. Ведае, між іншым, кітайскі літаратар і пра ўраджэнца Ваўкавыска рускага пісьменніка Усевалада Іванова. Праўда, у Харбіне з ім не сустракаўся: “...Я яшчэ быў хлапчанём, нічога не разумеў і не ведаў гэтага пісьменніка. Пазней, праз многа гадоў з літаратурных матэрыялаў я знайшоў яго прозвішча і яго творы. Узнікла жаданне пазнаёміцца з яго аповесцямі пра Кітай — “Тайфун на Янцзы”, “Шаньдун”, “Шлях да Алмазнай гары”...”

І зноўку — згадка пра народнага песняра Беларусі: “Пра сустрэчы з Максімам Танкам... мы былі знаёмыя да яго прыезду ў Кітай. Як толькі ён прыбыў у Пекін, захацеў сустрэцца з Ці Байшы. Стары мастак ужо пайшоў з жыцця. Мы з Танкам наведалі яго магілу...”

Крыху — пра мастака Ці Байшы (1860—1957). Яго жыццё — суцэльныя таямніцы. Існуе некалькі версій адносна даты нараджэння мастака. Біёграфы гавораць пра 1864, 1863, 1861 і 1860 гады. Але дакладна вядома, што нарадзіўся Ці Байшы ў беднай сялянскай сям'і ў правінцыі Хунань. У дзевяць год пачаў вучыцца каліграфіі. Тады ж зацікавіўся жывапісам. У 28 гадоў прыйшоў у вучні да мастака Ху Ціньюаня і пачаў аваладоваць кітайскім нацыянальным жывапісам гахуа. У 1917-м прыехаў у Пекін. У 66 гадоў Ці Байшы запрасілі прафесарам кафедры жывапісу ў Пекінскі ўніверсітэт мастацтваў. У 1953 годзе быў абраны першым старшынёй Саюза кітайскіх мастакоў. Міністэрства культуры ўганаравала Ці Байшы званнем “Вялікі мастак кітайскага народа”. У 1956 годзе творца быў адзначаны Міжнароднай прэміяй Міра. Памёр Ці Байшы 16 верасня 1957 года, за два тыдні да прыезду ў Пекін беларускага паэта Максіма Танка. Ва Украіне ў горадзе Золачаве кітайскаму мастаку пастаўлены помнік. Работы Ці Байшы ёсць у калекцыях Музея мастацтва народаў Усходу (Масква) і Эрмітажа (Санкт-Пецярбургу).

28 жніўня 2011 г. Гао Ман напісаў: “Пасля вяртання М. Танка на радзіму мы перапісваліся. Але, на жаль, яго пісьмы прапалі ў чорныя гады «культурнай рэвалюцыі»”.

Ды не прапала, засталася памяць. Яна — па два бакі вялікай дарогі. Памяць пра Кітай — у вершах народнага паэта Беларусі Максіма Танка. “Калі прыйдзецца, брат, наведаць гэты рай, // Вер, што ўсё бачыш ты не ў сне, але наяве: // Цудоўны парк Бэйхай і возера Бэйхай, // Што, як нефрыт, гарыць у залатой аправе”. Засталася памяць пра Танка і ў Кітаі. Яго кнігай выбраных вершаў, згадкамі ў нататках Гао Мана. А яшчэ — у жаданні даўняга сябра паэта, перакладчыка У Ланьханя — Гао Мана больш шырока ўвасобіць на мове Лу Сіня, Ай Ціня, другіх кітайскіх класікаў вершы, мастацкія вобразы Максіма Танка як аднаго з найярчэйшых прадстаўнікоў беларускай паэзіі.

Усё ж, пэўна, засведчыць некаторыя дэталі і факты з біяграфіі Гао Мана — У Ланьханя. Нагадаем: нарадзіўся перакладчык у 1926 годзе. Цяпер жыве ў Пекіне. Доўгі час займаў пасаду галоўнага рэдактара ўсекітайскага часопіса “Сусветная літаратура”. Сабраў вакол гэтага выдання лепшыя перакладчыцкія сілы краіны. Сам актыўна займаўся мастацкім перакладам. Пераўвасобіў на кітайскую мову творы А. С. Пушкіна, М. Ю. Лермантава, І. А. Буніна, А. А. Ахматавай, Б. Л. Пастэрнака і інш. Аўтар кнігі “Нататкі пра рускае выяўленчае мастацтва”. Заслужаны дзеяч культуры Расіі. Узнагароджаны ордэнам Дружбы. Акрамя вершаў Максіма Танка, Гао Ман з'яўляецца перакладчыкам мастацкай публіцыстыкі Святланы Алексіевіч.

***На здымках: Гао Ман, 1954 год; Гао Ман, партрэт Максіма Танка.***

**У адпаведнасці з Пратаколам аб супрацоўніцтве паміж міністэрствамі культуры Беларусі і Кітая ў нашай краіне адбыліся Дні культуры Кітайскай Народнай Рэспублікі. Гэты культурны форум пацвярджае высокі ўзровень развіцця беларуска-кітайскага супрацоўніцтва і ладзіўся ў адказ на Дні культуры Беларусі ў КНР, якія прайшлі год таму. Да гэтай акцыі спрычыніліся шматлікія ўстановы, у тым ліку Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. З гэтай нагоды мы прадстаўляем чытачам некаторыя мастацкія падзеі Дзён культуры Кітая ў Беларусі.**

# «Белае золата» ўсходу

**Віктар КАВАЛЁЎ, фота аўтара**

Дні культуры Кітайскай Народнай Рэспублікі распачаліся з выстаўкі "Кераміка і фарфор Кітая" ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. На ўрачыстым адкрыцці слова бралі дырэктар НММ Беларусі Уладзімір Пракапцоў, намеснік Прэм'ер-міністра нашай краіны Анатоль Тозік, першы намеснік міністра культуры Уладзімір Карачэўскі, намеснік старшыні Мінскага гарвыканкама Ігар Карпенка.



Выступоўцы адзначалі, што выстаўка "Кераміка і фарфор Кітая" ўпершыню праходзіць у такім фармаце і рыхтавалася цэлы год. У выніку беларусы могуць азнаёміцца яшчэ з адной старонкай культуры гэтай усходняй краіны. Бо кітайскі фарфор — унікальная з'ява сусветнай гісторыі, якая налічвае тысячагоддзі.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітая ў Беларусі Лу Гуйчэн назваў айчынныя кераміку і фарфор "белым золатам", традыцыі вырабу якіх зрабілі вялікі ўнёсак у развіццё сусветнай цывілізацыі, стаўшы адным з яркіх увасабленняў кітайскай культуры. Са старажытных часоў па Вялікім шоўкавым і марскім шляху фарфор вывозілі ў розныя краіны свету, у тым ліку і ў Беларусь, якая з'яўляецца адным з найважнейшых гандлёвых напрамкаў для Кітая.

Спецыяльна для адкрыцця выстаўкі пры фінансавай падтрымцы Пасольства Кітая ў нашай краіне быў здзейснены выпуск адмысловага буклета, укладальнік якога — загадчык аддзела еўрапейскага мастацтва і мастацтва краін Усходу Алена Сянькевіч. Алена Уладзіміраўна падкрэсліла, што, сапраўды, кераміка і фарфор — гэта адны з найвялікшых дасягненняў кітайскай цывілізацыі. Вырабы незвычайна шанаваліся не толькі ў самім Кітаі, але і далёка за межамі краіны. Пачатак вытворчасці ўласна фарфору ў Кітаі адносіцца прыкладна да VI — VII стагоддзяў, калі шляхам удасканалення тэхналогій і падбору зыходных кампанентаў сталі атрымліваць вырабы, якія адрозніваліся белізной і тонкасцю чарапка. У сярэднявечнай Еўропе фарфоравыя цацкі, якія выпадкова трапілі туды, шанаваліся ў якасці каштоўных рэліквій.



Калекцыя кітайскай керамікі і фарфору ў музеі параўнальна невялікая — каля 120 твораў. Самая ранняя па часе група помнікаў адносіцца да дынастыі Мін (1368 — 1644), якая ўключае прадметы, вырабленыя ў печах Лунцюаня правінцыі Чжэцзян і Цзіндэчжэня правінцыі Цзянсі, дэкарываныя ў тэхніцы падглазурнага роспісу кобальтам. Менавіта тады склаўся своеасаблівы і непаўторны стыль кітайскага фарфору. А таксама творы "залатога веку" — перыядаў Канcі (1662 — 1723), Юнчжэн (1725 — 1735), Цяньлун (1735 — 1796). Першыя экспанаты паступілі ў музей у 1957 годзе з Пекіна, а праз тры гады фонды папоўніліся вырабамі, якія былі перададзены Дзяржаўным музеем мастацтва народаў Усходу ў Маскве, значная частка якіх раней належала вядомаму збіральніку і знаўцу кітайскага мастацтва Д. Мельнікаву. Пасля адзінкавыя творы набываліся ў прыватных калекцыянераў Масквы і Мінска.

Калекцыя фарфору і керамікі Кітая ў зборах НММ Беларусі дазваляе прасачыць эвалюцыю форм і роспісаў да ўскладнёнасці і большай дэкаратыўнасці і дае ўяўленне пра некаторыя аспекты развіцця керамічнага мастацтва гэтай краіны.

***На здымках: статуэтка даоскага святога Шоу Сіна з жэзлам "жуі" (XIX ст.); фарфор (правінцыя Цзянсі, майстэрні Цзіндэчжэня, перыяд Гуансюй, 1875 — 1908).***

# З Лазаны ў Пекін і… Мінск

**Віктар КАВАЛЁЎ, фота аўтара**



**Нацыянальны гістарычны музей Беларусі прадставіў выстаўку "Сучаснае мастацтва валакна Кітая". Адкрываючы экспазіцыю, дырэктар музея Сяргей Вечар заначыў, што ў іх склаліся традыцыйныя доўгатэрміновыя кантакты, у якіх актыўны ўдзел бярэ Пасольства Кітая ў нашай краіне. Кожны год, без выключэння, праходзяць кітайскія выстаўкі рознай тэматыкі: нацыянальны касцюм, сучаснае мастацтва і інш.**

Нягледзячы на вялікую адлегласць паміж нашымі дзяржавамі, як адзначыў намеснік міністра культуры Віктар Кураш, сумесныя дні культуры ладзяцца рэгулярна з 1998 года. У айчынных мастацкіх ВНУ навучаецца шмат кітайскіх студэнтаў. Толькі ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі іх налічваецца 186 чалавек.

Саветнік па палітычных пытаннях Пасольства КНР у Рэспубліцы Беларусь Сунь Хунчжы падкрэсліў, што адносіны паміж нашымі краінамі ва ўсіх сферах плённа развіваюцца, асабліва ў галіне культуры. А праз дадзеную выстаўку беларусы яшчэ больш даведаюцца пра ўнутраны сэнс кітайскай культуры.

Тэкстыльная тэхналогія ў Кітаі мае доўгую гісторыю. Яшчэ ў эпоху неаліту кітайцы вынайшлі тэхніку ткацтва. У нашыя дні мастацкія работы з валокнаў адлюстроўваюць інавацыйныя дасягненні і дэманструюць дух часу і новыя мастацкія ідэі.

Немагчыма казаць пра кітайскае сучаснае мастацтва валакна без згадвання міжнароднай біенале "З Лазаны ў Пекін". Як вядома, швейцарская Лазана — радзіма сучаснага мастацтва валакна. З 1962 па 1995 год свет пабачылі пятнаццаць Лазанскіх біенале. З дапамогай інавацыйных мастацкіх ідэй і новых сродкаў выяўлення мастацтва валакна паступова адышло ад традыцыйнага мастацтва габелену, і біенале стала новым этапам для творцаў. Але ў 1996 годзе біенале ў Лазане закрылася. Праз некалькі гадоў, у кастрычніку 2000-га, першая міжнародная біенале мастацтва валакна "З Лазаны ў Пекін" стартавала ў Пекіне. На ёй было прадстаўлена больш як 140 работ дзевятнаццаці мастакоў амаль з пятнаццаці краін свету. У 2010 годзе на шостай міжнароднай біенале мастацтва валакна "З Лазаны ў Пекін" экспанавалася ўжо больш як 300 работ, выкананых 300 майстрамі з 30 краін.

Усе творы, якія дэманстраваліся на выстаўцы "Сучаснае мастацтва валакна Кітая", атрымалі прызы ў мінулых біенале. Іх аўтары — вядомыя мастакі, выкладчыкі і студэнты з васямнаццаці вядучых кітайскіх мастацкіх вышэйшых навучальных устаноў, якія сваімі работамі адлюстравалі розныя бакі зменлівага свету і сваё разуменне кітайскай гісторыі, культуры і экалагічнай свядомасці.

***На здымку: Чэнь Інхуа "Туманнасць Краба".***

**Віктар ЗАЯЦ, фота Кастуся Дробава**



# Пісаць сэрцам

**Адной з падзей у рамках Дзён культуры Кітая ў Беларусі стала адкрыццё ў Палацы мастацтва выстаўкі карцін мастакоў — членаў кітайскай дэлегацыі. Карыстаючыся выпадкам і дзякуючы дапамозе перакладчыцы, супрацоўніцы Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ Веранікі Карлюкевіч, карэспандэнт "ЛіМа" пагутарыў з двума кітайскімі мастакамі пра іх творчасць, жывапіс, сістэму мастацкай адукацыі.**

Яо Шаохуа — вядомы кітайскі мастак. Яго часта называюць "каралём тыграў", бо ён адзін з лепшых кітайскіх мастакоў, хто малюе гэтых жывёл. Спадар Яо Шаохуа выбраў тэму тыграў невыпадкова. У Кітаі ёсць такое прадстаўленне, што кітайскі жывапіс апісвае сэнс, тое, што ўнутры, нават існуе такое паняцце, як "пісаць сэрцам". Для Яо Шаохуа ўвасабленне духу, кітайскай культуры — гэта тыгр. На пачатку творчасці пісаў птушак, кветкі і да т. п., але менавіта тыгр выклікае ў яго душэўны пад'ём, на гэтай тэме і спыніўся.



Як і паўсюдна, у Кітаі ёсць спецыялізаваныя ўстановы, якія рыхтуюць прафесійных мастакоў. Але вельмі папулярны і другі шлях для таго, каб стаць творцам. Бо навучанне кітайскаму народнаму жывапісу, каліграфіі — гэта кшталту баўлення часу, культурная адукацыя, якой людзі займаюцца пасля школы, работы, у вольны час шліфуючы сваё майстэрства, тым самым гарманізуючы душэўны стан. Гэта ўсё вымагае шмат часу, і толькі з узростам прыходзіць сапраўднае майстэрства.

Яо Шаохуа адносіцца да другой катэгорыі. Хаця атрымаў і прафесійную адукацыю, але яму больш падабаецца, так бы мовіць, "пісаць сэрцам". У Кітаі вельмі распаўсюджана і такая з'ява — быць вучнем аднаго з выдатных мастакоў, тым самым пераймаючы майстэрства.

Паводле слоў Яо Шаохуа, у кітайскім традыцыйным жывапісе існуе тры кірункі: маляванне гор і вады, кветак ды іншых прадметаў і маляванне людзей. Каб стаць майстрам у адным з іх, патрабуецца шмат часу і намаганняў. Як правіла, чалавечыя магчымасці абмежаваныя, таму аддаецца перавага аднаму з трох напрамкаў мастацтва. Хаця ёсць такія творцы, хто выдатна працуе адразу ва ўсіх.

Адметна, што апошнім часам кітайскі жывапіс мае вялікую падтрымку з боку дзяржавы. Не мастакі шукаюць спонсараў і магчымасці наладзіць выстаўку, а наадварот: розныя дзяржаўныя ўстановы, агенты шукаюць творцаў.

Кіраўнік дэлегацыі Хо Чуньян — вядомы кітайскі мастак, прафесар, дэкан факультэта кітайскага жывапісу Цяньцзіньскай акадэміі мастацтваў. Ён працуе ў манеры "гохуа" — сучасны кітайскі жывапіс воднымі фарбамі на шоўкавых і папяровых світках. Галоўнай мэтай мастакоўскай дэлегацыі Хо Чуньян лічыць культурны абмен, стымуляванне адносін паміж нашымі краінамі ў розных сферах жыцця: культура, эканоміка, палітыка. Для яго важна паказаць светапогляд суайчыннікаў праз мастацкія творы, якія перадаюць кітайскі дух, эстэтычныя прынцыпы, крытэрыі прыгажосці, што так уласцівы кітайскаму народу.

Хо Чуньян аднолькава прымае як традыцыйны кітайскі жывапіс, так і заходнія стылі. Бо не мае значэння, якія стылі выкарыстоўвае мастак. Галоўнае — гэта сэнс, які творца ўкладвае ў сваю работу, што ён хоча сказаць сваім сэрцам.

***На здымках: падчас вернісажу; работа Шань Цзя.***

**Леанід АНЦІМОНАЎ,**
**дацэнт кафедры выяўленчага мастацтва Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава,**
**фота аўтара**



# Між дзвюх плыняў

**Аляксандр Салаўёў — вядомы мастак, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, ветэран працы і Вялікай Айчыннай вайны. У 17-гадовым узросце з сястрой Антанінай сышоў у партызаны. З 1944 года — у войсках дзеючай арміі, ваяваў на Карэльскім перашэйку, удзельнічаў у ваенных дзеяннях па вызваленні прыбалтыйскага рэгіёна. Затым — служба ў войску да дэмабілізацыі ў 1949-м. Пасля з'язджае ў горад Мадона (Латвія), дзе жыла маці, выгнаная немцамі падчас вайны. Заканчвае школу ў 1955 годзе і паступае ў Ленінградскую вышэйшую мастацка-прамысловую вучэльню імя В. Мухінай на аддзяленне манументальна-дэкаратыўнага жывапісу, пасля заканчэння якой вяртаецца ў Мадону і працуе ў сярэдняй школе настаўнікам малявання і чарчэння. У 1959-м з'язджае ў Мінск і паступае ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. З гэтага часу мастак звязвае сваё жыццё з Беларуссю.**

"Вучоба ў інстытуце была цікавай і займальнай, — распавядае Аляксандр Аляксандравіч. — Усе педагогі імкнуліся як мага больш з нас патрабаваць, перадаючы свой досвед і не душачы індывідуальнасці".

З асобай цеплынёй мастак успамінае Пятра Крохалева. "У нас быў пленэр, арганізаваны на новабудоўлі ў Полацку, тады яшчэ Наваполацка не было. Горад і нафтаперапрацоўчы камбінат толькі будаваліся. Гэта быў 1962 год. Нам была прадастаўлена поўная свабода. Я пісаў эцюд Дзвіны, Пётр Серапіёнавіч падыходзіў да мяне, браў у рукі эцюд і, не хаваючы задавальнення, казаў: "Глядзіка ты, як хвостка схапіў колер. У мяне так не атрымліваецца". П. Крохалеў быў добры педагог. Ён усяляк падтрымліваў творчую ініцыятыву студэнтаў, а мяне тады вельмі хваліў".

"У Аскара Марыкса, — узгадвае А. Салаўёў, — я пазнаваў усе тонкасці мастака тэатра (пазней назвалі сцэнаграфіяй). Аскар Пятровіч прывіў мне любоў да тэатра і драматургіі. Я тады не прапускаў ніводнага спектакля, якія паказваліся ў Мінску. І мы нават ездзілі ў іншыя гарады". Мастак старанна вывучаў законы прасторавага афармлення сцэны, дасканала авалодваў сцэнаграфіяй. Адначасова штудзіраваў законы пабудовы карціны, законы колеравай гармоніі — жывапіс. Вырас і выхаваўся на ўзорах рэалістычнага мастацтва вядомых мастакоў розных эпох і краін: Рафаэль, Тыцыян, Эль Грэка, Рэмбрант, Веласкес. Пастаянна наведваў галерэі, музеі ў Маскве, Кіеве, Харкаве, Мінску. Вывучаў жывапіс выбітных рускіх мастакоў XVII — XVIII стагоддзяў (Нікіцін, Аргуноў, Кіпрэнскі, Баравікоўскі). Асаблівую ўвагу надаваў мастакам XIX — XX стагоддзяў (Іваноў, Урубель, Сурыкаў, Фешын, Філонаў). У яго бібліятэцы знаходзіліся альбомы з рэпрадукцыямі ўсіх мастакоў, якія яго цікавілі. Адмысловае месца займалі кнігі па мастацтве іканапісу Ноўгарада, Пскова, Масквы, іканапіс Рублёва і Феафана Грэка. "Народжаныя" ў XIX стагоддзі імпрэсіянізм і постімпрэсіянізм (Дэга, Рэнуар, Клод Манэ, Сезан, Тулуз-Латрэк, Поль Гаген і ван Гог), кубізм (Брак, Пікаса) і ўсе формы абстрактнага мастацтва ад В. Кандзінскага і К. Малевіча да Джэксана Полака і сюррэалізму (Макс Эрнст, Сальвадор Далі, Фрэнсіс Бэкан) ды шматлікія іншыя мастакі папаўнялі скарбонку ведаў мастака і фарміравалі яго светапогляд. Нарэшце, вывучыўшы ўсе сучасныя і рэалістычныя кірункі, Салаўёў шмат працуе і эксперыментуе з рознымі матэрыяламі і тэхнікай жывапісу і малюнка.

У мастака падсвядома, інтуітыўна фарміраваўся свой новы метад і форма — не адлюстраванне пэўнага твару, факта, а абстрагаваныя выявы эпохі, у якой мы жывём. Такія паняцці, як "чалавек", "асоба", аб'ядноўваліся ў агульначалавечыя глабальныя вобразы, якія нараджаюцца ў новай эпосе ("Прарок", "Мастак"). Для выразнасці вобраза новага часу ён адзін з першых усвядоміў неабходнасць злучэння рэалістычнага і абстрактнага ў адзіныя новыя формы.

Злучаючы два кірункі ў адным творы, мастак дасягае глыбіні зместу, закранаючы глабальныя праблемы чалавецтва ў цэлым. ("XX стагоддзе — Рэквіем", "Памяць (Апокрыф)", "Глабалізацыя").

У 1965 годзе А. Салаўёў скончыў мастацка-тэатральны інстытут і быў накіраваны на працу мастаком-пастаноўшчыкам у Віцебскі дзяржаўны драмтэатр імя Якуба Коласа. Потым ён — галоўны мастак тэатра — рупліва працягвае працаваць над эскізамі да спектакляў. Больш як за 30 гадоў працы мастаком было аформлена больш як 150 спектакляў .

*"Мастак (можа быць, інтуітыўна) здолеў аб'яднаць два кірункі ў мастацтве — рэалізм і абстракцыянізм — у абстрактны рэалізм, што спрыяе адлюстраванню нашага часу, нашага жыцця.*

Бесперапыннае ўдасканальванне ва ўсіх відах выяўленчага мастацтва працягваецца, творца выкарыстоўвае кожную вольную хвіліну, нават на пасяджэннях, якія часта доўжыліся гадзінамі, ён робіць серыі адмысловых малюнкаў. Шмат працуе над маляўнічымі палотнамі, увесь час эксперыментуючы з рознымі матэрыяламі і тэхнікамі. Працягвае вывучэнне найноўшых кірункаў у мастацтве. Наведвае выстаўкі сучаснага мастацтва, якія адкрываюцца ў Маскве, Ленінградзе і іншых гарадах Савецкага Саюза. Назапашвае вялікую калекцыю кніг і альбомаў, часопісаў розных краін. Вывучае кірункі ў мастацтве драматургіі розных эпох (В. Шэкспір, Ж. Мальер, М. Гогаль, А. Астроўскі, Л. Талстой, Ф. Дастаеўскі) і з адмысловай дбайнасцю засвойвае матэрыял, афармляючы спектаклі паводле п'ес беларускіх драматургаў (Якуб Колас, Янка Купала, У. Караткевіч).

Праца над афармленнем спектакля патрабуе вялікай творчай энергіі, адвагі і вялікага дыяпазону ведаў. Дзякуючы сумеснай рабоце рэжысёра, мастака і артыстаў у 70 — 80-я гады XX стагоддзя спектаклі ў Віцебскім драмтэатры праходзілі з аншлагам. Тэатр для А.Салаўёва станавіўся сэнсам жыцця: "Ён ратаваў мяне ад паўсядзённай руціны і ад бяздарнага вонкавага дыктату. П'есы і спектаклі таксама былі розныя, але да іх можна было прыдумаць свае версіі. Галоўнае, у мяне была магчымасць для самаадукацыі і магчымасць быць у курсе сусветнай культуры. Вывучаць мастацтва розных краін. Наведваць выстаўкі, музеі ў гарадах былога Савецкага Саюза". Уся творчая дзейнасць мастака — пошук самавыяўлення, свайго пачуцця…

Мастак не ізаляваны ад эпохі, у якой жыве, эпохі суцэльнай камп'ютарызацыі, касмапалітызму і глабалізацыі. Ён — злучальнае звяно дзвюх эпох (XX — XXI стагоддзяў). Ён змог убачыць і зразумець у абстрактным мастацтве магчымасць адлюстравання глабальных жыццёвых праблем. Мастак (можа быць, інтуітыўна) здолеў аб'яднаць два кірункі ў мастацтве — рэалізм і абстракцыянізм — у абстрактны рэалізм, што спрыяе адлюстраванню нашага часу, нашага жыцця.

Адмысловае месца ў творчасці мастака займае вобраз жанчыны. Жанчына як увасабленне жыцця і прыгажосці свету. Мастака не пакідае пачуццё першароднасці чалавека і яго прызначэння на Зямлі. Карціна "Мацярынства". Тут жанчына-маці выступае як бы з глыбіні стагоддзяў — задуменная выява юнай жанчыны-маці, прамаці чалавецтва. Яна — жаночы пачатак, яна — багіня, якая сышла з нябёсаў.

Другі варыянт карціны "Русь". Хвалепадобныя лініі пакрываюць усю прастору. На іх фоне, на ўзгорку — маленькі трохкупальны храм. Мастак бачыць усё па-іншаму, ён, як веруючы чалавек, верыць у Бога, таксама верыць у жывапіс, у жыццё створаных ім вобразаў. Карціна мае права на жыццё незалежна ад таго, як яе разумеюць. Час усяму суддзя і ацэншчык.

"Прарок","Мастак","Галгофа", "Фрэска" — гэтыя партрэтныя вобразы абстрагаваныя, але яны жыццёвыя, адлюстроўваюць не асобу пэўнага чалавека, не яго прыналежнасць да вызначанай прафесіі, а ўсявышні вобраз, які аб'ядноўвае ўсё ў адным. Разглядаючы карціны мастака, адна жанчына сказала: "Калі глядзіш на партрэты А. Салаўёва, хочацца памаліцца…"

Пры дапамозе ліній, колеру, тэмпу працы створаныя ім вобразы ператвараюцца ў знакі мастацтва, навукі, навукоўцаў, прарокаў. Такі ж падыход у пабудове вялікіх палотнаў, у якіх вырашаюцца глабальныя задачы нашай эпохі. "У пошуку ісціны", "Глабалізацыя", "Ды будзе святло". Адна з апошніх карцін, якую мастак цалкам перапісаў, дакладней, запісаў тое, што было раней, і стварыў абсалютна новы, больш завершаны і ўзбагачоны вобраз, які нагадвае наш Сусвет, — "Ды будзе святло". Калі супаставіць першапачатковы варыянт карціны па захаванай фатаграфіі з апошняй трактоўкай твора, то гэта дзве зусім розныя работы.

*"Лініі, штрыхі, плямы з'яўляюцца то ў адным, то ў другім месцы палатна, а то зусім знікаюць, і на іх месцы з'яўляюцца новыя. І здавалася б, усё зроблена, карціна скончана, але, наведаўшыся праз тыдзень у майстэрню, вы яе не пазнаяце, бо яна ўжо перарадзілася і стала зусім іншай.*

Жывапіс для мастака заўсёды быў асновай творчасці. У ім Салаўёў змяшчае сябе і ўвесь свет, але ён не скоўваецца ніякімі рамкамі ў выказванні пачуццяў. Як у музыцы кожны гук залежыць ад настрою музыканта, так і ў жывапісе ўсё залежыць ад стану душы мастака, яго настрою. Калі назіраеш за працай Аляксандра Салаўёва, здаецца, што мастак стварае твор лёгка, як бы гуляючы. І хоць тэмп працы вельмі хуткі, сам працэс патрабуе велізарнай напругі волі, падпарадкаванай ведам, досведу, інтуіцыі. Назіраць за працай мастака дастаўляе такое ж задавальненне, як глядзець на гульню таленавітага артыста. Лініі, штрыхі, плямы з'яўляюцца то ў адным, то ў другім месцы палатна, а то зусім знікаюць, і на іх месцы з'яўляюцца новыя. І здавалася б, усё зроблена, карціна скончана, але, наведаўшыся праз тыдзень у майстэрню, вы яе не пазнаяце, бо яна ўжо перарадзілася і стала зусім іншай.

Аляксандр Аляксандравіч дасканала валодае малюнкам і законам каларыстычнага строю карціны, ім выкананы сотні графічных лістоў у рознай тэхніцы, з выкарыстаннем самых разнастайных матэрыялаў: вугалю, графіта, гуашы, пастэлі, акварэлі. Стосы малюнкаў, акварэляў і гуашаў запаўняюць яго майстэрню. Гэтыя работы прыцягваюць і дакладным увядзеннем колеравых адценняў у графічныя лісты. Часам малюнак насычаны колерам настолькі актыўна, што пры гэтым сціраецца грань паміж графікай і жывапісам ("Крык", "Казка — пачвара", "Танец").

У серыі "Памяці паўшых" мастак экспрэсіўна малюе кожную фігуру і стварае яе энергетычнае поле. Выкарыстоўваючы лінію і штрых, ён ператварае малюнак у сімвал-знак: "Супраціўленне", "Касанне зямлі", "Падзенне", "Катарсіс", "Перамога", "Успамін", "Рэквіем", "Да сонца", "Узнясенне". Энергетычныя рухі лініі і штрыха напаўняюць малюнкі незвычайна моцным уздзеяннем, багатым сэнсавым і філасофскім зместам, лёгка абмалёўваюць фігуру.

Графічныя работы Салаўёва складаныя ў тэхнічным плане, выкананыя віртуозна. Здольнасць мастака аналізаваць і пафіласофску асэнсоўваць падзеі жыцця робіць іх заўсёды сучаснымі і актуальнымі.

Кожная карціна для яе "чытання" патрабуе вызначанай падрыхтоўкі і ўважлівага пранікнення ў яе сэнс, душу. Кожны твор — гэта частка самога А. Салаўёва, часцінка яго душы.

Думаю і веру, што прыйдзе час, калі людзі зразумеюць, што мастацкая адукацыя будзе такой жа неабходнасцю, як уменне чытаць і пісаць. Мы спазнаём свет не толькі розумам, але і пачуццямі — гэта магчыма толькі праз спазнанне мастацтваў. Гэта не значыць, што кожны, хто атрымаў мастацкую адукацыю, — мастак. Але гэта значыць, што ён — адукаваны чалавек і ў яго ёсць запатрабаванне стасункаў з карцінай, такое ж, як запатрабаванне ў верніка зносін з абразом — праз малітву. Быць мастаком — гэта першым чынам адмысловы дарунак думаць, адчуваць, бачыць, суперажываць розным падзеям у свеце; гэта пастаянная напружаная праца. Мастак — гэта дарунак Божы, памножаны на талент і бясконцую патрэбу ствараць.

Гэта — Аляксандр Салаўёў, які падрыхтаваў адкрыццё сваёй юбілейнай выставы, прысвечанай 85-годдзю з дня нараджэння. Мастак, з якім я паспрабаваў вас пазнаёміць.

***На здымку: Аляксандр Салаўёў.***

# Ад бацькоў да дачкі, ад яе — да ўнукаў

Анатоль БАРЫС,
фота аўтара

**Успамінаю сумеснае свята клубных аб’яднанняў Старадарожчыны: “Каму за 50” раённага цэнтра культуры і адпачынку, аматараў паэзіі “Арэскія вытокі” пры цэнтральнай раённай бібліятэцы і народных майстроў “Спадчына” раённага цэнтра рамёстваў, а таксама ансамбляў “Журавушка” і “Купавушка”. Вядучая імпрэзы распавяла пра гараджанку Ніну Ліхадзіеўскую як адметную ўмельцу: яна вяжа, вышывае, займаецца бісерапляценнем і макрамэ, тчэ паясы.**

Ураджайным быў для яе 2009 год: дыплом за высокае выканальніцкае майстэрства па ткацтве паясоў на бёрдзечцы ў Капылі, лаўрэат Першага рэгіянальнага свята-конкурсу майстроў ткацтва нацыянальнага ручніка “Млечны шлях ад рук бабулі”.

У гонар 65-й гадавіны вызвалення Беларусі Ніна Міхайлаўна разам з майстрамі Старадарожскага цэнтра рамёстваў удзельнічала ў рэспубліканскай выстаўцы-кірмашы “Горад майстроў” — дэманстравала вырабы з бісеру. Думаецца, у тым, што цэнтр рамёстваў тады быў адзначаны дыпломам, ёсць і яе заслуга. У пачатку кастрычніка адзначана дыпломам ХІ Міжнароднага музычнага фестывалю “Залаты шлягер-2009” у Магілёве за ўдзел у выстаўцы-продажы вырабаў майстроў дэкаратыўна-прыкладной творчасці і рамеснікаў мастацтва “Беларусь майстравая”. Тады ж удзельнічала ў абласных і рэспубліканскіх “Дажынках”.

Ніна Ліхадзіеўская закончыла школу ў 1967 годзе. Затым была вучоба на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта, працавала на Старадарожчыне старшай піянерважатай у Сінягоўскай васьмігодцы, выкладчыцай пачатковых класаў у Гасціне. Усяго яна аддала педагагічнай рабоце каля 40 гадоў, большасць з іх — выхавальніцай дзіцячага садка № 5.

Менавіта тады зацікавілася вырабам арыгінальных, цікавых кампазіцый розных кветак, міні-дрэўцаў.

— Здаецца, што тут няма нічога складанага, — расказвае Ніна Міхайлаўна.— Бярэцца дрот, каляровыя ніткі, затым бісер — і атрымліваецца кампазіцыя кветкі ці дрэўца. Затым яна цэментуецца ў гаршчочку. Для вырабу кактуса выкарыстоўваецца пластмасавае яйка, паверхня якога аплятаецца бісерам. Вырабляючы гэтыя арыгінальныя кампазіцыі, імкнулася зацікавіць дзяцей. Каб навучыцца рабоце з бісерам, даставала адпаведную літаратуру. Асвойвала гэтую справу дома, у вольны час. А затым перадавала веды выхавальніцам і іх памочніцам. Стала ўдзельнічаць у раённых выстаўках.

У той жа час зацікавілася вырабамі з макрамэ. Імі яна ўпрыгожвала памяшканні дзіцячага садка, вяла гурткі, дзе вучыла гэтаму майстэрству дзятву падрыхтоўчай групы і першакласнікаў.

І не толькі іх. Тры з чатырох дачок Ніны Міхайлаўны (адна з іх медсястра, а астатнія — педагогі) зацікавіліся бісерапляценнем. У дзяцінстве яны навучыліся ад маці вырабу макрамэ. І нават па заказе раённага аддзела ЗАГСа выраблялі шторы на арку і пры ўваходзе ў пакоі маладых. З васьмі ўнукаў Ніны Міхайлаўны трое школьнікаў таксама займаюцца бісерапляценнем, і атрымліваюцца ў іх адметныя кампазіцыі.

Тры гады таму Ніну Міхайлаўну прынялі ў склад клуба майстроў “Спадчына” раённага цэнтра рамёстваў. Тады ж гэта нястомная жанчына зацікавілася ткацтвам паясоў на бёрдзечцы.

— Пабывала на чарговым рэгіянальным конкурсе-свяце “Матчыны кросны”, які праводзіўся ў Старых Дарогах, — успамінае Ніна Міхайлаўна. — Мне спадабалася, як гэтым займаліся жанчыны з Прыбалтыкі, і захацелася самой асвоіць гэту справу. Пахадзіла ў цэнтр на заняткі, якія праводзіла метадыст Таццяна Астроўская. Стала займацца самастойна і навучыла гэтаму сярэднюю дачку Ірыну — выхавальніцу дзіцячага садка № 1. Так што ўжо марым паўдзельнічаць у чарговых “Матчыных кроснах”.

Ніна Міхайлаўна ўзгадвае, што з дзяцінства займалася вышыўкай крыжыкам — навучыла гэтаму маці Еўфрасіння Фёдараўна, тады лабарант ветлячэбніцы. А два гады таму ў цэнтры рамёстваў Н. Ліхадзіеўская стала вучыцца вышыўцы працягам, калі вырабы даводзяцца да ладу з дапамогай канвы і нітак.

— У такіх занятках, напэўна, гены дапамагаюць, — жартаўліва кажа Ніна Міхайлаўна. — Мой бацька Міхаіл Нічыпаравіч, былы загадчык гаспадаркі райкама партыі, рабіў адмысловыя прыгожыя рэчы з аргшкла і мэблю з дрэва. Яго ўжо няма, а настольны гадзіннік, прыбор-чарніліца “Маскоўскі Крэмль” напамінаюць пра яго.

Добра, калі чалавек займаецца цікавай справай. Асабліва на пенсіі, калі больш вольнага часу. Свае адмысловыя вырабы Ніна Ліхадзіеўская звычайна не пакідае ў сябе дома, а дорыць сваякам, добрым людзям, сяброўкам, часцей за ўсё на ўрачыстасці. А ў марах яе — навучыцца ткаць на каклюшках. Пакуль у Старых Дарогах майстроў працы на гэтых прыстасаваннях няма…



***На здымку: Н. Ліхадзіеўская са сваімі работамі.***

**Вядучы праекта — рэдактар аддзела мастацтва Віктар Кавалёў**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з паznакай “Дзівасвет”.**

## З глыбінкі

## Шлях да святла

На Рагачоўшчыне прайшлі мерапрыемствы, прысвечаныя творчай спадчыне пісьменніка Уладзіміра Кігна-Дзедлава і мастака Адрыяна Прахава “Вытокі творчасці, вытокі духоўнасці”. У іх прынялі ўдзел госці з Масквы — дырэктар Інстытута сацыяльнай памяці, член-карэспандэнт Акадэміі ваенных навук Расіі, кандыдат сацыялагічных навук, кіраўнік Расійска-беларускага аргкамітэта па ўвекавечванні памяці У. Кігна-Дзедлава Аляксандр Ужанаў і праваслаўны пісьменнік, выкладчык гісторыі рускага жывапісу Маскоўскай духоўнай акадэміі Леў Анісаў.

Сустрэча адбылася ў аграгарадку Доўск. Удзельнікі мерапрыемства ўсклалі кветкі да мемарыяльнай дошкі ў памяць Уладзіміра Кігна-Дзедлава. А ў мясцовым Свята-Пакроўскім храме прайшла памінальная літургія па Адрыяну Прахаву, мастаку, настаўніку Уладзіміра Кігна-Дзедлава. Пасля адбылося адкрыццё экспазіцыі яго творчасці.

Завіталі ўдзельнікі мерапрыемства ў вёску Фёдараўка, дзе знаходзяцца магілы Уладзіміра Кігна-Дзедлава і яго маці Лізаветы Паўлоўскай, беларускай фалькларысткі.

Пасля ў Курганскай сельскай бібліятэцы госці сталі ўдзельнікамі адкрыцця экспазіцыі, прысвечанай памяці пісьменніка. Тут жа адбылася і прэзентацыя новай кнігі другога знакамітага земляка — Аляксандра Ужанава, ініцыятара і актыўнага выканаўцы многіх праектаў узнаўлення сацыяльнай памяці народа — “То говор был души моей…” У ёй прадстаўлены ўнікальны матэрыял па зберажэнні гісторыка-культурнай спадчыны славянскіх народаў. Значная ўвага надаецца творчасці і дзейнасці Уладзіміра Кігна-Дзедлава.

**Міхась КАВАЛЁЎ,**
**Рагачоўскі раён**

## Ад коней да «БелАЗаў»

Зусім хутка жодзінцы і госці горада зноў набудуць цудоўную магчымасць больш даведацца пра гісторыю свайго гарадка, бо завяршаецца рэканструкцыя Жодзінскага краязнаўчага музея. На першым яго паверсе размесціцца фондасховішча, адміністрацыйныя і побытавыя памяшканні. Фае другога паверха — меца для мабільнай мастацкай выстаўкі, што будзе ўвесь час абнаўляцца, а таксама для творчых сустрэч і прэзентацый. Тут жа зробяць галерэю, якая будзе складацца з некалькіх залаў.

Гісторыя Жодзіна раскрыецца ў самых разнастайных тэмах — ад прыроды да эканомікі, і часам з незвычайнага боку. Вам не проста распавядуць пра “БелАЗ” у датах і асобах, а пачнуць ажно з развіцця коннага транспарту, і апынецца, што гэтыя з’явы аб’ядналі адной падзеяй. Тое ж учыняць і з іншымі буйнымі прадпрыемствамі.

Каб пашырыць экспазіцыю і звярнуць увагу жодзінцаў на сваю спадчыну, праходзіць акцыя-конкурс “ІстЭк-2011”: усім жыхарам горада прапануюць уважлівей зірнуць на старыя рэчы і дакументы. Магчыма, сярод іх знойдзецца нешта вартае гістарычнай музейнай экспазіцыі.

**Мара НАРЧУК,**
**г. Жодзіна**

## Афарызм

*З амбона хтось крычаў пра шлях да раю.*
*Адзін маўчаў, паказваючы згоду.*
*Другі маўчаў — на знак сваёй нязгоды...*
*Маўчанне адназначным не бывае.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”
Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
аддзел “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства “Выдавецтва “Беларускі Дом друку” г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2845
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 06.10.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4814
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686